ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

18 сакавіка 1994 г. № 11 (3733) Кошт 50 руб.

## «УСЕ МЫ ПРЫНАЛЕЖЫМ ЕЎРОПЕ...»

**Гутарка карэспандэнтаў «ЛіМа» з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Беларусі спадаром Готфрыдам АЛЬБРЭХТАМ.**

5,12

## УСВЯДОМЛЕНАЕ — РАТУЕ

***Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ: «Вобраз таленавітага творцы, які нішчыць, злачынна марнуе Божы дар, несмяротны, мабыць, ва ўсіх літаратурах свету, як несмяротныя Дабро і Грэх. Беларуская літаратура не стала выключэннем. Зварот да тэмы балючай і агульназначнай гаворыць пра рост яе самасвядомасці і пазбаўленне ад некаторых комплексаў. Адзін з такіх комплексаў — звычка глядзець на героя-літаратара праз ружовыя акуляры, рабіць яго рупарам ідэй, пазбаўляючы тым самым мастацкай паўнакроўнасці».***

6—7

## ТАМ Я НЕ АДЧУВАЎ СЯБЕ ЭМІГРАНТАМ...

***Леанід ПРАНЧАК: «Вандруючы па Амерыцы, размаўляючы з эмігрантамі, працуючы ў беларускіх архівах, я штораз вяртаўся да адной і той жа высновы: самае вялікае і дарагое, што мы, беларусы, маем — гэта Беларусь, наша радзіма. Дзе б мы ні жылі, — мы яе дзеці. Яна адна можа нас памірыць, з'яднаць, парадніць, напоўніць сэнсам наша існаванне на гэтым свеце. Ад нас, беларусаў, патрабуецца толькі адно: любіць сваю маці-радзіму».***

13—15



*Рассоўваецца неба.*
*Вышыня*
*Прыцягвае і сэрцы, і пагляды.*
*Апошні снег ні ў чым не вінаваты:*
*Вясна кіруе —*
*ўсімі і штодня...*

*Фота Аліны БАЙДАК*

*У бліжэйшы час разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі набудзе статус нацыянальнай валюты. Гэта значыць — бывай, зона! Рублёвая. Палітычная логіка выштурхоўвае Беларусь у вольны свет. Зоны няма, а гульні вакол яе працягваюцца.*

*Прэс-сакратар прэм'ера У. Замяталін пасмялеў настолькі, што нават павышае голас на тэлекампанію «Астанкіна» і на газету «Известия». Лімаўцы памятаюць, як на пачатку «перабудовы» наша газета паспрабавала завязаць спрэчку з «Комсомольской правдой», — які вэрхал узняўся ва ўладных структурах! А людзі наверсе ўсё тыя ж, і менталітэт падхалімскі той жа, і ўяўленне аб субардынацыі з савецкіх часоў засталося. А бач ты, Маскве выгаворваюць.*

*«Не гайдары и не федоровы пишут историю двух славянских государств», — сцвярджае прэс-сакратар. «І не замяталіны», — дададзім мы. Але згодзімся з У. Замяталіным у тым, што гісторыю пішуць «народы и трезвомыслящие политики».*

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

15 сакавіка на сесіі Вярхоўнага Савета адбылася падзея, да якой так доўга і пакутліва ішоў наш парламент. Прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Дзень гэты абвешчаны святочным.

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Буханка чорнага хлеба, якая раней каштавала 120 рублёў, цяпер абыдзецца пакупніку ў 300 «зайчыкаў». Помніцца, не так даўно сп. Кебіч адмяніў сваёй уладай падвышку цэнаў на хлеб, заявіўшы, што Саўмін пра гэта не ведаў, і што той, хто такім чынам абірае народ, будзе пакараны. Што скажа прэм'ер на гэты раз?

### АХВЯРА ТЫДНЯ

На мінулым тыдні ў сваёй кватэры забіты спецыяльны карэспандэнт спартыўнай рэдакцыі Беларускай тэлерадыёкампаніі Аляксандр Чуланаў. Наўрад ці прычынай смерці былі спартыўныя рэпартажы. Каля двух гадоў назад ён здымаў у Польшчы таемнай камерай «працу» савецкага рэкету, і гэты матэрыял быў паказаны па тэлебачанні. Год назад ва ўласнай кватэры забіты сябра А. Чуланава, які пэўны час працаваў разам з ім, карэспандэнт маладзёжнай рэдакцыі тэлерадыёкампаніі Леанід Пятруша.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Рэальнае аб'яднанне грашовых сістэм без аб'яднання эканомік — эксперымент над жывымі людзьмі. Гэта з той оперы, што і перыядычныя абмены грашовых купюр з наступным прыдумваннем аргументацыі, бо сапраўдныя матывы проста сорамна абнародваць — сур'ёзныя людзі смяюцца будуць. Валютная, грашовая інтэграцыя — вышэйшая ступень інтэграцыі. У нашым выпадку з яе спрабуюць пачаць, хоць не наладжаны гандаль, пераліў капіталаў, рух рабочай сілы. ЕЭС 30 год ідзе да адзінай валюты, у нас жа хочуць усё завяршыць і падпісаць за 30 дзён.

Мы не можам цывілізавана разабрацца з сепаратыстамі ўнутры Расіі, дзе адзін за другім абвяшчаюцца нацыянальныя цэнтральныя банкі, якія патрабуюць долі эмісіі, і спадзяёмся, што буйная суверэнная дзяржава з легітымным парламентам і сваім войскам будзе ездзіць узгадняць дэфіцыт бюджэту і эмісію ў Маскву. Ілюзія. /.../ Эксперты ўказваюць, што ў аб'яднанні, якое прапаноўваецца, ёсць палітычны падтэкст — падтрымка канкрэтных палітычных дзеячаў Беларусі. Не вазьмуся судзіць, але зразумела, што Шушкевіч пакінуў сваю пасаду не па добрай волі, а той, хто прынясе Беларусі дармавыя рублі, стане «бацькам» нацыі».

*/Барыс Фёдараў, дэпутат Дзярждумы. «Телега впереди лошади. Объединение денежных систем Беларуси и России», «Известия», 15 сакавіка/.*

### ПРАЦЭС ТЫДНЯ

Днямі ў Запарожжы /Украіна/ мае адбыцца судовы працэс над дырэктарам мінскай камерцыйнай фірмы «Алгрым» Аляксандрам Пісьменным. Паводле звестак следства ён арганізаваў у 1991 годзе ў Лодзі /Польшча/ падпольную друкарню дзеля выпрацоўкі фальшывых украінскіх купонаў. Апошняму слову тэхнікі адпавядала абсталяванне, ды і «прадукцыя» была даволі высокай якасці. Дастаўка і збыт былі таксама наладжаны выдатна. Усё гэта наводзіць украінскіх следчых на думку, што трэба весці гаворку аб аперацыі, сплананавай расійскімі спецслужбамі з магчымай згоды КДБ Беларусі.

### СУТЫЧКА ТЫДНЯ

Беластоцкая філія прафсаюза «Салідарнасць» збіраецца звярнуцца да гарадскіх уладаў, каб тыя прымусілі рэдакцыю беларускай газеты «Ніва» вызваліць памяшканне, якое яна займае на вуліцы Суражскай. Падставай для звароту стала сутычка паміж сябрам «Салідарнасці» і супрацоўнікам «Нівы» ў калідоры рэдакцыі.

### НАСТАЛЬГІЯ ТЫДНЯ

Настальгіяй па СССР альбо па Расійскай імперыі можна лічыць тое, што з панядзелка Расійскае тэлебачанне і радыё /«Астанкіна» таксама/ перайшлі да паслядоўнага скарыстання колішніх назваў гарадоў і рэспублік былога СССР. Зноў мы чуем «Киргизия» замест «Кыргызстан», «Белоруссия» замест «Беларусь» і гэтак далей. Афіцыйнае тлумачэнне: неабходнасць абярогу рускай мовы як нацыянальнага здабытку.

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

Арганізацыйная рада Патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» выступіла з заявай пратэсту супраць дзейнасці ўрада Кебіча, якую ПР «БЗВ» класіфікуе як антыдзяржаўную. Найбольшую занепакоенасць Патрыятычнага руху выклікае намер урада скасаваць незалежнасць Беларусі праз уваходжанне нашай краіны ў склад Расіі. Гэта, акрамя ўсяго іншага, уцягне беларусаў у вайну ў Сярэдняй Азіі і Закаўказзі. «Мы ведаем імёны тых, хто вядзе кампанію па скасаванні палітычнай незалежнасці Беларусі. Хто гаворыць: «Мы спынім заводы, і беларусы самі пабягуць у Расію». Мы лічым сваім маральным абавязкам засцерагчы гэтых людзей ад вельмі небяспечных наступстваў такіх дзеянняў, якія могуць зрабіцца трагічнымі перш за ўсё асабіста для іх».

### СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Мінскія гарадскія ўлады далі дазвол на правядзенне ў парку Янкі Купалы 20 сакавіка з 11 да 16 гадзін святочных мерапрыемстваў у гонар 76-х угодкаў БНР. Ля помніка Песняру адбудзецца мітынг, потым — канцэрт. Выступяць фальклорныя гурты. Арганізатары наладзяць продаж беларускіх кніг.

З нагоды

## «СЁННЯ АДБЫЛОСЯ ГІСТАРЫЧНАЕ САБЫЦІЕ»

**Такімі словамі Старшыня ВС М. Грыб падвёў вынікі работы народных дэпутатаў над тэкстам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэтыя словы адпавядалі настрою большасці прысутных у Авальнай зале. Цяпер, калі іх запытаюць, што яны зрабілі, каб прадухіліць абвальныя працэсы ў беларускім грамадстве, яны з гордасцю адкажуць: «Мы прынялі Канстытуцыю!»**

Зрэшты, гэта не першая наша канстытуцыя. Як і Рэспубліка Беларусь — не першая Беларуская дзяржава. Мы маем Статут Вялікага княства Літоўскага, Канстытуцыю Рэчы Паспалітай /прынята 3 траўня 1791 года/, Устаўныя граматы Беларускай Народнай Рэспублікі. Так што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь толькі дапаўняе існуючы шэраг.

Адразу пасля прыняцця Канстытуцыі дэпутацкай большасцю была зроблена спроба супрацьпаставіць Дзень Канстытуцыі Дню Незалежнасці і закрыць пытанне з наданнем статуса дзяржаўнага свята 25 сакавіка — Дню абвяшчэння незалежнасці БНР. Было выказана меркаванне, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі 27 ліпеня 1990 года толькі пачатак працэсу, а яго лагічнае завяршэнне — Канстытуцыя, таму, маўляў, з прыняццем Канстытуцыі Дзень Незалежнасці губляе сэнс. Акрамя таго, прыгадалі, што менавіта 27 ліпеня нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі карыстанне беларускай нацыянальнай сімволікай, адсюль двухсэнсоўнасць гэтай даты. /Хай бы яны гэтаксама глыбока капалі ў гісторыю, калі зацвярджалі Днём беларускага войска 23 лютага — дзень утварэння Беларускай Краёвай абароны/.

Ну ды Бог з ім, з тым «красным днём календаря» — 15 сакавіка. Усе ж разумеюць, што гэтая канстытуцыя нішто іншае, як юрыдычны падмурак Закона аб прэзідэнцтве. А вось гэта ў нашых варунках рэч ужо сур'ёзная. Тут вельмі лёгка «дэмакратычным шляхам» прыйсці да дыктатуры, але магчымы і прарыў у прававую прастору, да сапраўднай, а не дэкларатыўнай дэмакратыі. Таму і Закон аб прэзідэнцкіх выбарах зроблены так, каб у выбарчым марафоне стварыць максімум перашкод апанентам існуючай палітычнай вярхушкі.

Драматургія абсурду мае ў нашых палітычных шыротах даўнюю традыцыю. Не дзіва, што яна мае сваіх карыфеяў і прыхільнікаў. Час ад часу абсурд на палітычнай сцэне — гэта нават цікава. Але калі абсурд кожны дзень, калі відавочны перабор, дык падсвядома цягне на «класіку». Хочацца чагосьці накшталт усенароднага рэферэндуму, Брытанскага парламента, амерыканскага прэзідэнта. Ды баюся, што зноў «адбудзецца сабыцие», а хацелася б — падзеі...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## АДРАДЖЭННЮ АЛЬТЭРНАТЫВЫ НЯМА

Як заўсёды актыўна, прайшло чарговае пасяджэнне Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, што адбылося ў мінулую пятніцу. На парадак дня былі вынесены два асноўныя пытанні — арганізацыйна-прапагандысцкая дзейнасць таварыства і работа рэдакцыі газеты «Наша слова», заснавальнікам якой, як вядома, і з'яўляецца ТБМ. Пытанні гэтыя, можна сказаць, узаемазвязаны, бо і тое, што робіць «НС» — гэта ў нейкай ступені намаганні прапагандысцкія, скіраваныя на тое, каб любоў да роднага слова, матчынай мовы былі падначалены адной мэце — выхоўваць з беларусаў беларусаў.

Безумоўна, нямала здзейснена, але, бадай, не менш і трэба зрабіць. Асабліва сёння, калі, з аднаго боку, працэс нацыянальнага Адраджэння набыў незваротны характар, а з другога — усё яшчэ знаходзяцца ахвотнікі марыць аб «добрых старых часах». Ці ёсць патрэба нагадваць, наколькі, у сувязі з гэтым, важна прадуманая работа таварыства і мэтанакіраваная дзейнасць «Нашага слова»?! Ёсць!

Вёў пасяджэнне старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч. Па надзённых, набалелых пытаннях выступілі галоўны рэдактар «Нашага слова» Э. Ялугін, Я. Цумараў, С. Запрудскі, З. Санько, В. Вячорка, В. Вільтоўскі, М. Савіцкі, В. Адамчык, А. Казловіч і іншыя.

Увогуле, гэты дзень, можна сказаць, стаў святам беларускасці. Працавала выстава А. Белага «Любіць Радзіму — шанаваць родную мову!». Адбылася Вечарына Беларускага Слова, якую наладзіла Менская гарадская Рада ТБМ. Кожны прысутны на ёй атрымаў сувенір Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.





*На здымках: у зале вечарыны; вялікую цікавасць выклікала выстава-продаж літаратуры па гісторыі і культуры рэспублікі.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*

## ШТО ЗА ПРЭТЭНЗІІ ДА МІНІСТЭРСТВА...

**На мінулым тыдні Міністэрства адукацыі ладзіла прэс-канферэнцыю па пытаннях гістарычнай адукацыі ў нашай краіне.**

Распачала яе Л. Сухнат, намеснік міністра, потым да гаворкі далучыліся іншыя супрацоўнікі міністэрства, распрацоўшчыкі канцэпцыі выкладання беларускай і сусветнай гісторыі ў навучальных установах Беларусі і канкрэтных праграм на падставе канцэпцыі. Распавядалася пра падручнікі і дапаможнікі, што ўжо выйшлі з друку і прайшлі «абкатку» ў школах, і тыя, што толькі рыхтуюцца навукоўцамі.

Доўгі час беларусаў прывучалі глядзець на сябе і сваю спадчыну чужымі вачыма. Быў курс гісторыі СССР, які ўяўляў сабою гісторыю расійскай дзяржаўнасці плюс гісторыю КПСС. Беларусь у гэтым курсе калі і прыгадвалася, дык у якасці спачатку «страчанай», а потым «вернутай» часткі Расіі. «Гісторыя СССР» была гібрыдам сталіншчыны і маскоўскага шавінізму, ідэалагічным абгрунтаваннем ператварэння /«зліцця»/ шматлікіх народаў адной шостай часткі планеты ў адзіны выхаваны ў імперскім духу рускамоўны «савецкі народ». Фактычна ў нас вывучалася антынацыянальная гісторыя.

Цяпер жа гістарычная адукацыя на Беларусі павінна грунтавацца на факце шматвекавога існавання беларускага этнасу на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, гуманістычных агульначалавечых каштоўнасцях, зыходзіць з патрэб будаўніцтва незалежнай Беларускай дзяржавы. Навукоўцы і супрацоўнікі міністэрства даволі падрабязна расказалі, што робіцца ў гэтым кірунку.

На прэс-канферэнцыі прагучала пытанне: якія прэтэнзіі, палітычныя і метадычныя, ёсць да навукоўцаў і міністэрства, і ад каго тыя прэтэнзіі зыходзяць? Так, прэтэнзіі сапраўды ёсць. І калі метадычныя пытанні вырашыць адносна лёгка, дык з палітычнымі цяжэй. Л. Сухнат прыгадала выступленні з трыбуны Вярхоўнага Савета Беларусі дэпутатаў ад ветэранскай арганізацыі і «Народного движения Белоруссии», у якіх дэрусіфікацыя навучальнага працэсу ў школах Рэспублікі Беларусь трактуецца як прапаганда беларускага нацыяналізму і зняважа расійскага народа. Спадарыня Сухнат выказала спадзяванне, што калі б памянёныя дэпутаты былі лепей інфармаваны /тут надзея на сродкі масавай інфармацыі/, дык пазбеглі б агрэсіўна-катэгарычных ацэнак.

Журналістам паведамілі, што, распрацоўваючы канцэпцыю гістарычнай адукацыі, беларускія навукоўцы імкнуцца пазбегнуць канфліктаў з суседнімі народамі, шукаюць паразумення з калегамі з блізкага замежжа. Так, дзейнічаюць беларуска-жамойцкая, беларуска-расійская, беларуска-ўкраінская і беларуска-польская камісіі. Яны здымаюць напругу там, дзе гэта магчыма.

На заканчэнне было сказана, што беларускія навукоўцы толькі распачалі вялікую працу, падводзіць яе вынікі, а тым болей даваць ёй катэгарычную ацэнку — рана.

**П. В.**

# ЯКАЯ ЯНА, БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-93?

Безумоўна, аматары літаратуры, якія рэгулярна сочаць за кніжнымі навінкамі, лёгка могуць адказаць на гэтае пытанне, таму што яны з задавальненнем папоўнілі новымі выданнямі свае бібліятэкі. І ўсё ж кожнаму паасобку немагчыма, як кажуць, ахапіць неахопнае. Тым больш, што выходзіла і нямала кніг па розных галінах ведаў, якія ў паўсядзённым карыстанні патрэбны далёка не кожнаму. Аднак звычайная цікаўнасць вымагае пазнаёміцца з імі.

Такая магчымасць выпала ўсім, хто наведаў у Доме кнігі, што па праспекце Машэрава ў Мінску, выставу «Беларуская кніга-93». На ёй былі прадстаўлены амаль усе выданні, якія на працягу мінулага года пабачылі свет у дзесяці дзяржаўных і дваццаці двух недзяржаўных выдавецтвах.

Перад адкрыццём выставы 15 сакавіка прайшла прэс-канферэнцыя. У ёй прынялі ўдзел адказныя работнікі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, кіраўнікі выдавецтваў. Выступаючы перад журналістамі, міністр А. Бутэвіч зазначыў, што, нягледзячы на цяжкае становішча ў выдавецкай справе, беларуская кніга па шэрагу паказчыкаў утрымлівае даволі высокі ўзровень. Павялічыўся агульны аб'ём выданняў, паляпшаецца іх афармленне, паліграфічнае выкананне.

Розныя аспекты нацыянальнага кнігавыдання закранулі ў сваіх выступленнях дырэктары выдавецтваў: «Мастацкая літаратура» — С. Андраюк, «Юнацтва» — В. Лукша, «Вышэйшая школа» — А. Жадан, «Навука і тэхніка» — Ф. Савіцкі, намеснік міністра інфармацыі Ю. Кедзіч; пра папулярнасць беларускай кнігі гаварыў галоўны рэдактар літаратурна-драматычных перадач Беларускага радыё М. Пацёмкін.

На выставе былі прадстаўлены альбомы, брашуры, мастацкая, дзіцячая, галіновая літаратура, даведнікі і кнігі універсальнага зместу, энцыклапедычныя выданні — усяго 690 назваў, выпушчаных дзяржаўнымі выдавецтвамі і 211 — недзяржаўнымі. Асобна можна было пазнаёміцца з выданнямі, што сталі пераможцамі на чарговым Рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі», і літаратурай, прысвечанай 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Цяпер кнігі, як вядома, выпускаюцца не толькі ў Мінску, але і ў Маладзечне, Баранавічах. «Прадукцыя» гэтых друкарняў заняла асобны стэнд.

На ўрачыстым адкрыцці экспазіцыі выступілі А. Бутэвіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А. Вярцінскі, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў В. Шарангові́ч, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Б. Сачанка.

16 сакавіка ў рамках выставы прайшоў «круглы стол» па тэме «Асаблівасці распаўсюджвання нацыянальнай кнігі і перыёдыкі ва ўмовах рынку» /у адным з нумароў раскажам пра яго/. У іншыя дні адбыліся прэзентацыі асобных выданняў, сустрэчы чытачоў з аўтарамі, пісьменнікамі, выдавецкімі работнікамі.

# ПАМЯЦІ ПЕРШАГА НАРОДНАГА



У мінскім Доме афіцэраў адбылася дабрачынная вечарына памяці першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка. Удзел у ёй разам з мясцовымі «зоркамі» У. Пузынем, А. Ярмоленкам, В. Вуячычам узялі і народныя артысты Расіі В. Талкунова і Украіны В. Зяркевіч. Варта адзначыць і прыемную акалічнасць — адным з арганізатараў вечарыны, поруч з творчымі саюзамі, выступіла Міністэрства абароны Беларусі, засведчыўшы такім чынам увагу і прыхільнасць да нацыянальнай культуры. У выкананні духавога аркестра Міністэрства прагучаў «Паланез» М. Агінскага.

Быў паказаны дакументальны фільм пра У. Галубка, сцэнкі з ягонай п'есы, разыграныя вучнямі тэатральнага аддзялення, Беларускага універсітэта культуры, гучалі ўспаміны і добрыя словы С. Грахоўскага, І. Лучанка, сведкаў і прыхільнікаў яго жыцця і творчасці.

*На здымку: сцэнка з п'есы У. Галубка.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# ПЯТАЕ КОЛА Ў ВОЗЕ КУЛЬТУРЫ

## З НАГОДЫ ПЛЕНУМА САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

Трэба сказаць, што спачатку меркавалася правесці з'езд, але справа аказалася задужа складанай — не хапіла грошай. Гэты, ледзь не галоўны сёння фактар, і быў «актыўна» абмеркаваны сталічнымі і дзесяткам абласных мастакоў на апошнім пленуме саюза.

Каму трэба даводзіць, што выяўленчае мастацтва, як і іншыя галіны культуры — у крызісе. Знік дзяржзаказ і, натуральна, аказаліся не пры справе мастацка-вытворчыя камбінаты, вакол якіх групаваліся дзесяткі як таленавітых, так і проста «дыпламаваных» мастакоў. Камбінаты яшчэ трымаюцца, спрабуючы выцягнуць хоць бы дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, якое нідзе больш не мае неабходнай матэрыяльнай базы і абсталявання для вытворчасці. Але, на жаль, як структуры былой сістэмы, з яе заганамі і недахопамі, яны патрабуюць неадкладнай рэарганізацыі. А гэта амаль немагчыма з-за слабасці саюза, які развальваецца, ператвараецца ў кола дробных груповак.

Як выжываць у віхуры рынку — асабістая справа кожнага мастака. Альтэрнатыва акрэслілася досыць выразная: ісці на мінскі манмартр ля мастацкага салона, альбо за мяжу — там даўно ацанілі наша мастацтва. І саюз тут выступае хутчэй намінальнай, а не дзейнай асобай. Што ж далей — змяніць кіраўніцтва саюза? Прасіць Міністэрства культуры? Звярнуць увагу Вярхоўнага Савета?

Адказу няма. Як не было яго год і два назад. Ці не таму адзіным выйсцем для мастакоў, як гэта ні парадаксальна, можа стаць забастоўка — выставачная, з пустымі рамамі над «ура-патрыятычнымі» подпісамі. Апошні адчайны покліч, які, як заўжды, будзе лёгка нівеліраваць. Мастакі, яны ж такія арыгінальныя...

**Наталля ЖОГЛА**

# «ПАКАЙЦЕСЯ, БЕЛАРУСЫ! ВАМ ПАВІННА БЫЦЬ СОРАМНА»

## ДРАМАТЫЧНЫ ЭПІЗОД У АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ

***3 сакавіка на сесіі Вярхоўнага Савета пры абмеркаванні праекта новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вырашалася пытанне — быць ці не быць беларускай мове адзінай дзяржаўнай мовай нашай краіны. Канстытуцыйная камісія, як вядома, не прыдумала нічога лепшага, як зусім зняць з праекта артыкул 17 — аб дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь. Маўляў, хай будзе Асноўны Закон дзяржавы без артыкула аб мове. Гэта значыць: у Канстытуцыі беларуская мова не ўзаконена як адзіная дзяржаўная, а «памылку» ў Законе аб мовах мы пасля лёгка выправім — звычайнай большасцю галасоў на чарговай сесіі, абвесцім дзяржаўнымі дзве мовы... Тут і пачалося! «Народная газета» зазначыла, што выступленне дэпутата Ніла Гілевіча, пасля зробленай прапановы, прагучала «на апошняй ноце стрыманасці». Так, напал эмоцый быў вельмі высокі. Але іначай не магло і быць. Бо гэта быў той момант, калі вырашаўся лёс нашай мовы. Падаём кавалак стэнаграмы з таго драматычнага эпізоду ў рабоце сесіі.***

**Старшыня.** Калі ласка, супакойцеся. Зараз будзе ўсім такая магчымасць прадастаўлена. І пытанні будуць. Уключыце шосты мікрафон.

**Гілевіч Н. С.** Шаноўныя дэпутаты! Па-першае, на Канстытуцыйнай камісіі ўчора былі розныя прапановы. Вельмі пераканана выступіў народны дэпутат Мачуленка Міхаіл Арцем'евіч, які сказаў, што ні ў якім разе нельга здымаць з праекта Канстытуцыі артыкул аб мовах. І сапраўды гэтага рабіць не трэба. Нельга, калі мы не прыйшлі да згоды, адразу прымаць такое рашэнне, якое здзівіць цэлы свет. Я звяртаюся да ўсіх прысутных: давайце мы яшчэ раз — хоць ужо былі галасаванні, адзін раз 204 набралі, учора менш, — і ўсё ж такі давайце вернемся да гэтага варыянта і прагаласуем яшчэ раз. Я звяртаюся да нашых рускіх братоў, — у гэтай зале, у дэпутацкім корпусе вас 70 чалавек. Звяртаюся да вас, браты нашы палякі, украінцы, яўрэі — вас тут больш за 20. Падтрымайце вы перш за ўсё! Не бярыце грэх на душу! Шаноўныя дэпутаты Новікаў, Гетц, Гарэлік і іншыя, вазьміце вы слова! Вы звярніцеся да залы і скажыце, што пасля таго генацыду над беларускай мовай, які цягнуўся дзесяцігоддзямі і стагоддзямі, трэба аднавіць беларускую мову ў правах. Вы, шаноўны дэпутат Грыбанаў, вельмі красамоўна выступаеце, але — вазьміце назад вашу прапанову аб рэферэндуме па мове. У гэтай вашай прапанове святатацтва, кашчунства ў сто разоў больш, чым праўды. Няўжо вы гэта не разумееце?! Я думаю, што няма патрэбы даказваць: рускай мове ад Смаленска да Сахаліна нішто не пагражае. Яна жыве і будзе жыць у стагоддзях. Памажыце сёння, у гэты гістарычны, у гэты лёсавызначальны момант нам — памажыце! Калі гэта не будзе зроблена — гэта пасее ў краіне страшную смуту. Вы не думайце, што маладыя беларусы, маладыя людзі прымуць гэта і змірацца з гэтым. Пачнецца вялікая смута на нашай зямлі. Не рабіце гэтага! Вельмі ж добра сказана ў праекце: беларуская мова — дзяржаўная, статус іншых моў вызначаны законамі. Паглядзіце Закон аб мовах: там жа дакладна сказана: руская мова з'яўляецца мовай міжнацыянальных зносін. Там сказана, што руская мова абавязкова вывучаецца ва ўсіх школах, на ўсіх узроўнях. Усё гэта там ёсць!.. Калі ж гэта не будзе зроблена, паверце мне... Я звяртаюся да ўсіх беларусаў, у каго з вас жыве памяць пра вёску, дзе вы нарадзіліся, пра мову вашых бацькоў. У такім разе я заклікаю вас — не галасаваць за Канстытуцыю наогул. Не галасаваць зусім за Канстытуцыю!..

**Старшыня.** Дзякую. Трэці мікрафон, калі ласка.

**Баршчэўскі Л. П.** Па-першае, сапраўды, прапанова зняць гэты артыкул набрала ўчора ўсяго 79 галасоў. Гэта была самая меншая колькасць. Па-другое, у парадак увядзення Канстытуцыі ў дзеянне такі, што трэба будзе 100 тысяч подпісаў сабраць, каб адно слова там замяніць... Што ж да закона, то яго змяніць, адмяніць можна простым галасаваннем. 175 галасоў — і Закона аб мовах няма! І не трэба, прабачце,думаць, што ніхто тут не разумее, для чаго гэта робіцца.

Трэба падумаць пра сябе, пра дзяцей, якіх ні на які рэферэндум мы не выведзем і якія толькі да пятага класа ў беларускіх школах давучыліся. Гэтыя дзеці яшчэ не могуць сказаць сваё слова, бо ў іх няма права голасу. Няма такога права і ў будучых пакаленняў. Можна, канешне, націснуць на кнопку і прыняць закон, што чорнае гэта белае, зялёнае гэта чырвонае, але нельга рабіць злачынства перад сваёй нацыяй і дзяржавай...

**Старшыня.** Я прашу ўключыць другі мікрафон.

**Гетц Б. Г.** У меня продолжение вопроса. Василий Иванович, первая часть этой статьи была проголосована конституционным большинством?

**Шаладонаў В. І.** Нет.

**Гетц Б. Г.** Нет? Все, прошу прощения. Я считаю, что голосов было достаточно много для того, чтобы Конституционная комиссия отменила решение по этому голосованию.

Второе. Я бы хотел воспользоваться микрофоном и ответить писателю Белоруссии Нилу Семеновичу Гилевичу. Уважаемый Нил Семенович, подумайте, вы — пожилой человек, к чему вы призываете? Уважаемый Нил Семенович! В вашей памяти должны быть свежи события, которые развернулись в нашей братской в недалеком прошлом Республике Молдова, с чего там началось. Нил Семенович, не обманывайте людей и не призывайте их к тому, к чему не нужно никогда призывать! А нужно находить те решения, которые мы должны найти в Верховном Совете. Покайтесь за свое выступление! Оно не красит вашего лица!

**Старшыня.** Першы мікрафон уключыце.

**Цумараў Я. А.** Я папрасіў бы спачатку навесці парадак, Мячэслаў Іванавіч, у зале.

**Старшыня.** Паважаныя народныя дэпутаты, я прашу вас супакоіцца. Вы павінны выслухаць усіх.

**Цумараў Я.** А. Паважаны Мячэслаў Іванавіч, вы ж кіраўнік парламента!

**Старшыня.** Паважаныя народныя дэпутаты, я прашу вас супакоіцца. Я звяртаюся да ўсіх.

**Цумараў Я. А.** Паважаныя народныя дэпутаты, паважаны старшыня Канстытуцыйнай камісіі! Вы зараз парушаеце той агульны прынцып, па якому мы працавалі некалькі дзён. Гэта прынцып рэйтынгавага галасавання. Учора 212 галасамі Вярхоўны Савет прагаласаваў за тое, каб артыкул 17 — аб мове — у Канстытуцыі быў. Не хапіла літаральна некалькіх галасоў. І вы цяпер прапануеце скасаваць гэты артыкул. Гэты ваш выбарачны падыход мне незразумелы. Другое. Тут гаварылася, што няхай людзі на рэферэндуме выбіраюць. Я вам прывяду два канкрэтныя факты, што людзі ўжо выбралі. Выбралі тое, што дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская. Першы факт. Сёлета ўпершыню ў гісторыі ў Рэспубліцы Беларусь больш за 80 працэнтаў першакласнікаў пайшлі ў беларускамоўныя класы — незалежна ад таго, якой з'яўляецца школа. Прычым ніводнай скаргі не прыйшло ні ў Камісію Вярхоўнага Савета, ні ў Міністэрства адукацыі. Значыць, людзі добраахвотна прынялі тое, што беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай. Другі факт. Амаль у два-тры разы ўпалі тыражы газет на рускай мове, і ў столькі ж разоў падняліся тыражы газет на беларускай мове і двухмоўных — такіх, як «Народная газета». Вось вам два красамоўныя факты. Што б вы тут ні галасавалі, народ прыняў рашэнне, прагаласаваў ужо за дзяржаўную беларускую мову. Нам засталося гэта толькі ўзаконіць.

## ДА ПЯЦІГОДДЗЯ ВУЧЭЛЬНІ



**Пяцігоддзю Гомельскай мастацкай вучэльні прысвечана выстава, што адкрылася ў абласным цэнтры. Характар і манера выканання работ досыць разнастайныя і паказваюць майстэрства навучэнцаў.**

**Радуе, што гамяльчане праяўляюць да выставы значную цікавасць. І ў дзень адкрыцця, і ў наступныя дні зала не пустуе.**

*На здымку: адзін з удзельнікаў экспазіцыі Юры Шаціла са сваёй дачкой Ганнай на выставе.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

## ГАСЦЮХІН ВЫЙДЗЕ НА ПАДМОСТКІ



**Надарылася так, што п'еса М. Варфаламеева «З Новым годам!» спазнілася зрабіцца спектаклем Мінскага тэатра-студыі кінаакцёра, пад гэтае самае штогадовае свята. Але, вядома, спектакль набыў іншую назву зусім з іншае прычыны: падзеі, чыімі сведкамі ў хуткім часе зробіцца глядач, маюць няшмат святочнага, а тым больш — непаўторнага штогадовага... «Міленькі ты, мой...», — гучыць, паўтараючыся, радок з вядомай рускай песні, даўшы назву спектаклю, які даўно быў задуманы ў тэатры-студыі кінаакцёра для сапраўднай зоркі еўрапейскага экрана Уладзіміра Гасцюхіна. Цяпер разам з партнёркаю Алаю Проліч яго можна будзе бачыць і на тэатральных падмостках... Перадусім — 22, 23 і 24 сакавіка, у прэм'ерныя дні. Варта!..**

## «КАЛОСЬСЕ»... БЫЛО? ЁСЦЬ!

**Як вядома, у 1935—1939 гадах у Вільні выходзіў часопіс пад такой назвай, на старонках якога друкаваліся самыя розныя аўтары з былой Заходняй Беларусі. Але, безумоўна, твар выдання вызначаў і ксёндз Адам Станкевіч.**

**Дык, кажаце, «Калосьсе» было? Чаму было, яно ёсць! Першы нумар часопіса пад такой назвай з'явіўся напрыканцы мінулага года ў Паставах. Таварыства Вольных Літаратараў, якое стала яго заснавальнікам, у невялікім звароце «Ад рэдакцыі» гаворыць, што не імкнецца «ў чым-небудзь канкрэтна наследаваць старому «Калосьсю», але абяцае друкаваць творы «не паводле прынцыпу «моцная рэч — слабая рэч»... Важней стварыць прастору для новых мастацкіх адкрыццяў, для «непануючых» плыняў. І наш суб'ектывізм тут толькі на карысць».**

**Сярод аўтараў нумара С. Адамовіч, Ю. Пацюпа, А. Касцень, Ю. Гуменюк, А. Аркуш, І. Сідарук, К. Гаманец, А. Дабравольская, Л. Сом, С. Шыдлоўскі, А. Майсяёнак, А. Чэмер, А. Іверс.**

**Выданне фінансавана часткова калектывам Пастаўскага завода «Беліт», часткова Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Нумар падрыхтаваны на грамадскіх пачатках і выйшаў накладам 500 паасобнікаў.**

# З ССЫЛКІ НЕ ВЯРНУЎСЯ

***Я зноў пра Мікуліча. Але не з успамінамі, не з аналізам творчасці, а з кароткаю прадмоваю да публікацый у даўніх газетах Краснаярскага краю пра яго жыццё і смерць. Лічу патрэбным сцісла расказаць пра адносіны карэнных насельнікаў тых глухіх сібірскіх і казахстанскіх вёсак да сасланых сюды навечна сумленных пакутнікаў.***

Далёкія ад чыгункі і торных дарог паселішчы Краснаярскага краю, Навасібірскай вобласці, паўночных абласцей Казахстана былі ператвораны ў лагеры без вышак і калючага дроту, а самі ссыльныя былі прыпнуты на кароценькую шворачку: нават пайсці ў суседнюю вёску забаранялася пад пагрозаю — 25 гадоў катаргі.

У 1948—49 гадах лексікон папоўніўся новым тэрмінам «паўторнік». Так называлі людзей, якія паўторна пайшлі па пякельным крузе. Гэта былі «недабіткі» шматгадовага сталінска-яжоўска-берыеўскага тэрору. З мільёнаў ні за што пакараных вярталіся адзінкі. Крыўда і боль за пакуты не давалі збыту, многія пачалі пісаць скаргі і хадайніцтвы аб рэабілітацыі, а былыя камуністы аб аднаўленні ў партыі. Ого, чаго захацелі! Кіруючыя органы палічылі гэта небяспечным нахабствам. Відаць, Берыя адчуў абурэнне «гаспадара», што не ўсіх «ворагаў народа» вынішчыў, што жывыя яшчэ рыпаюцца, і выдаў інструкцыю: выпушчаных на волю арыштоўваць зноў, калі знойдзецца хоць якая зачэпка — адпраўляць як рэцыдывіста ў лагер, а не назбіраецца нічога — вечная ссылка ў далёкія вобласці Сібіры і Казахстана.

З некаторых з нас Вярхоўны Савет БССР нават зняў судзімасць, але і гэта не выратавала: пайшлі адзін за адным Александровіч, Пальчэўскі, Мікуліч, Шушкевіч і я. У Эстоніі дасталі Скрыгана, з Узбекістана ў Енісейск загналі Хведаровіча і ўсіх астатніх.

У перапынку паміж лагерам і ссылкаю я двойчы сустракаўся з Мікулічам у Бабруйску, не кажучы ўжо пра тое, што мы актыўна перапісваліся. З зімы 1949 года яго лісты станавіліся карацейшыя і ўсё больш трывожныя. Вясной перасталі прыходзіць зусім. У красавіку Барыса забралі зноў, мяне ж — 19 мая. Наша перапіска была канфіскавана, ды там яшчэ быў ташкенцкі адрас Сцяпана Ліхадзіеўскага. Следчыя ўхапіліся, каб «зварганіць» рэстаўрацыю нацдэмаўскай арганізацыі такога шырокага дыяпазону: Бабруйск — Урэчча — Ташкент. Але следчаму Проніну /?/ нічога скляпаць не ўдалося. Абмежаваліся вечнаю ссылкай. Барысу — Краснаярскі край, мне — Новасібірскую вобласць. На этапе ў Сібір у куйбышаўскай перасылцы праз паўгадзіны пасля адпраўкі Барыса я трапіў у тую ж камеру і заняў яго месца на верхніх нарах. А маглі ж і сустрэцца.

У Сібіры мне хацелася звязацца з Барысам, але на першым часе было небяспечна заводзіць перапіску. У вёсках, абраных для ссыльных, аператыўнікамі папярэдне вялася вялікая «растлумачальная» работа сярод насельніцтва, што ў сяло хутка прыбудуць ворагі народа, — шпіёны, тэрарысты, дыверсанты, забойцы Горкага і Кірава. Ні ў якія кантакты з імі не ўступаць. Яны будуць жыць у вас на кватэрах, працаваць у калгасе, або ў арцелях, але ніякай дружбы і панібрацтва з імі не заводзіць, асабліва папярэджвалі ўдоў і развядзёнак. І што вы думаеце — некаторыя напачатку тым «аператыўнікам» верылі, а большасць — баялася. Таму, па першым часе, некаторыя captaніліся нас. А ў ссылку ж прыехалі настаўнікі, урачы, інжынеры, аграномы, евангелісты, святары, манашкі, пісьменнікі, адным словам, — інтэлігентныя і далікатныя людзі.

У ссылцы ў першыя тыдні было горш, як у лагеры: там быў хоць казённы дах над галавою, пайка хлеба і міска баланды. А тут пра ўсё клапаціся сам. Пры адпраўцы ўсе грошы ў нас забралі, выдалі квіткі. Ні ў кога не было пяці капеек на марку, каб паведаміць родным, дзе мы.

Але сібіракі вельмі хутка расшалопалі, якія мы «ворагі народа». Далі месца ў хатах, павялі ў лазню, пасадзілі за стол, нават некаторым /як Ціхан Каргаполаў/ паднеслі чарку і свежыя шаньгі. Неўзабаве абарыгены і даўнія перасяленцы з Украіны і Беларусі сталі нашымі шчырымі і спагадлівымі сябрамі, а маладыя ўдовы нават «прыручылі» некаторых ссыльных.

«Паўторнікі» прынеслі і замацавалі пэўную культуру ў побыце тубыльцаў: навучылі замест «прыгонаў» будаваць цёплыя хлявы для скаціны, лазні «па беламу», крыць дахі не бяростаю і дзёрнам /пластом/, а гонтаю, дранкаю і цёсам. Ссыльныя ажывілі работу клубаў — стваралі хоры, танцавальныя і драматычныя гурткі, ставілі спектаклі, ладзілі навагоднія маскарады, рыхтавалі калектывы самадзейнасці да раённых і абласных аглядаў. Словам, вёскі ажылі, павесялелі. Гэта трывожыла нашых наглядчыкаў з оперчэкісцкіх аддзелаў, але адносіны ўжо змяніць не маглі.



*Барыс Мікуліч з пляменніцай Марыяй Вікенцьеўнай Тарайкоўскай 4 лістапада 1947 г. Вось як Барыс успамінае гэты дзень у «Аповесці для сябе»: «Чацвёртага выехаў у Мінск. Маня праводзіла мяне аж да горада... Потым я пайшоў у Дом урада і атрымаў выпіску. Божа! 1 лістапада адбылося пасяджэнне камісіі, на якім і знялі з мяне судзімасць. «На радасцях» пайшлі з Маняй да Камароўкі пеша, там сфатаграфаваліся, і я развітаўся з ёю». /ст. 165/.*

Калі 5 сакавіка 1953 года мы, дзякаваць Богу, «асірацелі», летам нас пачалі вызваляць «без зняцця судзімасці». Без рэабілітацыі выязджаць на «вялікую зямлю» было страшнавата і небяспечна. Але цяпер можна было шукаць і звязвацца з ссыльнымі сябрамі. Я напісаў у Бабруйск сястры Барыса Мікуліча, атрымаў яго адрас — Краснаярскі край, Тасееўскі раён, сяло Машукоўка. Адказу доўга не было. У ліпені Марыя Міхайлаўна Мікуліч паведаміла, што Барыс у чэрвені раптоўна памёр.

Як ён жыў у Машукоўцы, што рабіў, што пісаў, бо не пісаць ён не мог, я даведаўся толькі ў 1970 годзе, калі ўдалося вырваць з архіва КДБ яго дзённік. Пра гэта я пісаў у «ЛіМе» 14 жніўня мінулага года.

Рукапісы Барыса яго сястры пераслала з Машукоўкі ягоная ўдава Марыя Іванаўна Смелякова. Я іх скарыстаў пры падрыхтоўцы да друку першых кніг Мікуліча.

Зусім нядаўна супрацоўнік Чэрвеньскага музея Анатоль Сцяпанавіч Фурык прыслаў мне два нумары газеты «Ангарский рабочий» за 1988 і 1989 гады. Іх зберaглі краснаярскія беларусы і, едучы ў госці да радні, прывезлі сюды і перадалі музею. У абодвух нумарах газеты — цікавейшыя матэрыялы пра жыццё і смерць за тры месяцы да рэабілітацыі нашага таленавітага празаіка Барыса Мікуліча.

Летась заехаў да мяне з Літвы былы ссыльны машукоўскі фельчар Аляксандр Мацвеевіч Курчэйка і расказаў, што ў чэрвені 1954 года ён на кацеры плыў у раён па лекі. Праводзіў яго Мікуліч і спадзяваўся, што зямляк прывязе неабходныя таблеткі для яго хворага сэрца. Калі Аляксандр Мацвеевіч вярнуўся, Мікуліча ўжо пахавалі.

Асаблівую ўвагу і клопат пра ўвекавечанне памяці ссыльнага беларускага пісьменніка праявіла супрацоўніца рэдакцыі раённай газеты «Ангарский рабочий» Л. Ламаева. Яе публікацыі перадрукавала краявая газета «Красноярский рабочий». На іх азвалася ўдава Мікуліча Марыя Смелякова, якая прыслала свае цікавыя ўспаміны ў раённую газету. Я іх прачытаў з вялікім хваляваннем. Лічу, што імі зацікавяцца даследчыкі творчасці Мікуліча, літаратуразнаўцы, усе аматары і прыхільнікі нашай скалечанай літаратуры, усе чытачы «Літаратуры і мастацтва».

Прапануючы ліст М. І. Смеляковай, я дазволіў сабе самыя нязначныя купюры. У пачатку яна ўспамінае сваіх сяброў юнацтва ў Машукоўцы, а далей расказвае:

«Барыс Мікуліч... Першае, што асабліва яскрава ўспомнілася, дык гэта этап зняволеных у ботах і сярод іх інтэлігентны чалавек у туфліках, у лёгкім бежавым паліцечку і капелюшы. А наўкол — непралазная гразь.

Праз некалькі дзён ён зайшоў у школу, дзе я настаўнічала, і папрасіў паперы на пісьмо. Тут трэба трохі расказаць пра сябе. У 1931 годзе мае бацькі, як кулакі і ворагі народа, былі сасланы з Беларусі ў Ігарку. Бацьку пазней забралі, і да гэтай пары ніхто не ведае, дзе ён пахаваны. Рэабілітавалі яго пасмяротна. Мама часова жыла са мною. Я была замужам за нейкім Цімошыным. Калі муж пачаў уступаць у партыю, дык яму адмовілі праз мяне, жонку-кулачку і дачку «ворага народа». І ён з'ехаў, пакінуўшы мяне з маленькім сынам. Райана прыслаў загад аб маім пераводзе ў іншае месца за сто сорак кіламетраў. Дарогі туды не было ніякай. Толькі пехатою, а з кватэры ўжо гоняць. Сяджу з маленькім сынам на ганку і плачу. І тут падышоў да мяне Барыс Міхайлавіч. Калі дазнаўся, што са мною здарылася, сказаў: «Я ведаю і кахаю вас даўно, але ніколі б не сказаў пра гэта, каб не ваш развод. Зараз пайду і скажу, што жанюся. Вам дадуць прытулак у бараку». Я дужа плакала. На наступны дзень згадзілася. А калі мы сталі мужам і жонкай, рэгістраваць нас не дазволілі. Такі быў час.




*Мемарыяльная дошка на хаце Вінцэся Мікуліча, дзе Барыс Міхайлавіч жыў і працаваў у 1947—48 гадах.*

У першыя ж дні пасля нашага «шлюбу» Барыс пачаў будаваць дом. Прывёз дошчак, слупоў, пілавіння. І літаральна праз тыдзень засыпны каркас быў гатовы. Вядома, гэта было незвычайна. Гэта ж ён першы з ссыль-

(Працяг на стар. 15)

*Шырокае супрацоўніцтва з Германіяй ва ўсіх галінах — адна з асноўных умоў інтэграцыі Беларусі ў Еўропу. Мае свае інтарэсы ў балтыйска-чарнаморскім рэгіёне і ФРГ. Беларусь і Нямеччына ўзаемна патрэбны адзін аднаму. Сённяшнім стасункам дзвюх краін і перспектывам супрацоўніцтва прысвечана інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Беларусі спадара Готфрыда **АЛЬБРЭХТА** карэспандэнтам «Літаратуры і мастацтва». Газету прадстаўлялі Наталля **ШАРАНГОВІЧ** і Пётра **ВАСІЛЕЎСКІ***

# «УСЕ МЫ ПРЫНАЛЕЖЫМ ЕЎРОПЕ...»

**— Паважаны спадар пасол, перш-наперш распавядзіце, калі ласка, пра сябе. Было б цікава даведацца пра жыццё чалавека, які прадстаўляе ў нашай краіне Германію.**

— Пра гэта гаварыць можна і доўга і коратка. Згадаю толькі асноўныя моманты і фактары, якія паўплывалі на маё станаўленне. У дзяцінстве я перажыў другую сусветную вайну і пакутаваў разам з іншымі. Пасля яе заканчэння хлопчыкам працаваў на ферме ў баўэра. Грошы на вучобу ў першым семестры вымушаны быў зарабляць на будаўніцтве дапаможнымі работамі. Як гаворыцца ў нас, не ўсе немцы нараджаюцца са срэбнай ці залатой лыжачкай ў роце.

Я вывучаў эканоміку, а пасля асноўнага курса зацікавіўся і спецыяльна займаўся савецкай эканомікай у берлінскім Інстытуце Усходняй Еўропы Вольнага Універсітэта. Пазней выпадкова трапіў на дыпламатычную службу і нават не мог сабе ўявіць, што прысвячу ёй вось ужо трыццаць год. Гэта надзвычайна прыцягальная прафесія, тым больш, што працаваў я ў Маскве, Варшаве, Вільні. Магчыма, вас зацікавіць такі факт, што на Беларусь я трапіў упершыню ў 1961 годзе, праўда, праездам. І менавіта тады, у Брэсце, я выкурыў сваю першую папяросу «Беламорканал».

**— Увогуле, гавораць, што немцы, як і беларусы, народ вельмі шчыры і адкрыты. Па сутнасці, вы ў нас першы раз і цікава было б пачуць ваша ўражанне ад Беларусі. Што пазітыўнага і што негатыўнага вы для сябе адкрылі?**

— Калі я згадваю беларускіх людзей, з якімі пазнаёміўся і якіх бачыў апошнім часам, свае ўражанні ад сустрэч з імі, мне думаецца, аб тым, як цяжка працуе гэты вельмі таленавіты і здольны народ. На жаль, ён пастаўлены ва ўмовы, якія не спрыяюць плёну ягоных намаганняў. Мне асабіста ў тутэйшых людзях даспадобы тое, што напачатку яны доўга і грунтоўна разважаюць, і толькі потым прымаюць нейкае рашэнне. Я сказаў бы, што беларусы, як нацыя, вельмі настойлівыя і нават упартыя. Але не падумайце, што я стаўлюся да гэтага адмоўна, бо баварцы, а я сам баварац, дакладна такія ж.

**— Вы маглі заўважыць, што ў нашай эканоміцы і палітыцы ёсць дзве тэндэнцыі. Першая — арыентацыя на Усход, на звыклыя сувязі часоў Савецкага Саюза, другая — вяртанне ў Еўропу, згадваючы часы Рэчы Паспалітай, калі Беларусь была інтэграванай часткай Еўропы. Сёння пэўныя палітычныя сілы, у прыватнасці Беларускі народны фронт і шэраг блізкіх да яго партый лічаць Германію патэнцыяльным стратэгічным саюзнікам, хоць Беларусь і нейтральная дзяржава. Бо Германія — адна з самых развітых краін свету, якую нельга ігнараваць, з якой трэба не проста лічыцца, а кантактаваць. Хацелася б запытаць, якая роля Беларусі ў геапалітычных, ці найперш геакультурных інтарэсах Германіі?**

— Адразу адзначу, што Беларусь не вяртаецца ў Еўропу. Яна ёсць і была яе неад'емнай часткай. І мне незразумела, чаму ў гэтым сумняваюцца самі беларусы. Яны — еўрапейцы. І гэта лепшы адказ на тое, як мы, у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія, разглядаем Беларусь. Беларусь — частка еўрапейскай супольнасці, з ёю мы імкнёмся як мага больш шырока супрацоўнічаць ва ўсіх накірунках культуры і эканомікі.

**— Ці з'яўляецца Беларусь Еўропай, па сутнасці, не выклікае пярэчанняў. Еўропа — яна ад Атлантыкі да Урала. Але справа ў тым, што Беларусь працяглы час была нібыта памежжам вольнай Еўропы і Савецкага Саюза, якой ён у пэўным сэнсе супрацьстаяў. Сёння мы жывём у новай палітычнай рэальнасці, і таму адбываюцца пэўныя змены ва ўспрыманні нашым грамадствам суседзяў. Для многіх беларусаў стала непрыемным адкрыццём, што Расія займаецца ў адносінах да нас палітычным і эканамічным шантажом. З бліжэйшым суседам — Польшчай — узнікае праблема псіхалагічнай сумяшчальнасці: розныя ацэнкі передваеннай гісторыі, напрыклад, адносіны да Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Гэта не афіцыйная пазіцыя дзяржаўнага кіраўніцтва, гэта думка польскага грамадства. Дадайце сюды працэс апалячвання пэўнай часткі беларускага народа. Мы не драматызуем гэту сітуацыю, але, тым не менш, такія праблемы вельмі надзённыя.**

**На фоне ўсіх гэтых працэсаў у лепшы бок змяняецца імідж Германіі. Гэта звязана з тым, што Германія дапамагае Беларусі сцвярджаць сваю дзяржаўнасць, уваходзіць у рынычныя адносіны. Да таго ж, мы выдатна разумеем, што гэта ўжо не тая Германія, якая прыходзіла на нашу зямлю ў 1941—1944 гадах. Таму ёсць падставы задаць пытанне аб ролі Беларусі ў геапалітычных інтарэсах Германіі. Некаторыя эканамісты, прадстаўнікі дэмакратычных партый Беларусі арыентуюцца на германскую схему эканомікі і, у перспектыве, на цвёрдую германскую марку. Да таго ж, беларусы і немцы сумяшчальныя і псіхалагічна. Мы прыналежым адзінаму культурнаму арэалу. Мікола Шчакаціхін, пачынальнік беларускага мастацтвазнаўства, адзначаў, што ў XII—XVI стагоддзях для Беларусі характэрны мастацкія і культурныя сувязі з Захадам менавіта праз Германію. Усё гэта нараджае пэўныя настроі беларускага грамадства — арыентацыю на Германію. Тым больш, што ў савецкі час вобраз немца фарміраваўся пад уплывам другой сусветнай вайны, а сёння ён асацыіруецца хутчэй з гуманітарнай дапамогай і надзвычай сур'ёзнымі культурнымі кантактамі. Выставы нямецкага мастацтва, што праходзілі ў нас адносна нядаўна і мяркуюцца ў будучым, пацвярджаюць сур'ёзнасць намераў вашай краіны. Імпрэзаў такога маштабу мы не мелі ні з адной краінай свету.**

**На падставе гэтага хацелася б вас запытаць, калі і як у Мінску будзе працаваць культурны цэнтр Гётэ, падобны таму, што існуе цяпер у Маскве?**

— Тут вы назвалі мноства праблем, не менш розных поглядаў. Шмат аб'ектыўнага, шмат суб'ектыўнага. Гэта правільна, і выклікае шкадаванне тое, што падзел Еўропы змяніў свядомасць людзей, што толькі апошнім часам людзі, якія жывуць на ўсход ад Одэра і Буга, сталі ўсведамляць, што яны сапраўды прыналежаць Еўропе, хоць яны чыталі Бёля і Захтэра. Я думаю, даўно ўжо варта вызваліцца ад гэтага павярхоўнага погляду. Усе мы еўрапейцы, усе мы прыналежым да традыцый Еўропы, культурных, мастацкіх, гуманітарных, традыцый дэмакратыі, братэрства, салідарнасці. І мы не павінны дазваляць скажаць наш погляд на сённяшні дзень і будучыню пад уздзеяннем дробнага падзелу Еўропы.

Камунікацыі паміж людзьмі ў самым шырокім сэнсе — вельмі істотная рэч, і цяпер у нас ёсць шанц зноў да яе вярнуцца. Таму такое вялікае значэнне ў нашых двухбаковых адносінах аддадзена культурным сувязям.

Вельмі істотна, які стратэгічны вобраз Германіі ствараецца ў Беларусі. На гэтае пытанне адказ можна сфармуляваць так: не германская Еўропа, а еўрапейская Германія. Таму мы імкнёмся да еўрапейскасці, да пашырэння і паглыблення нашых сувязей з іншымі народамі. Гэта датычыць у немалой ступені і Беларусі.

Што ж да сувязей канкрэтна ў галіне культуры, я вельмі рады, што яны набылі найбольшае развіццё з таго часу, як я працую тут. Мяне асабіста ўразілі мерапрыемствы, на якіх сумесна выступалі беларускія і нямецкія артысты. Я рэдка сустракаўся з такім выдатным выкананнем «Страсцей па Іаану», як тут, на Беларусі. Камерны аркестр, Дзяржаўны камерны хор і нямецкія музыканты за адзін тыдзень



падрыхтавалі выключны канцэрт. Як тут можна сумнявацца, што ўсе мы прыналежым Еўропе?

Культурны цэнтр Гётэ, над якім мы надзвычай інтэнсіўна працуем, працягне і павялічыць наша культурнае супрацоўніцтва.

**— Скажыце, спадар пасол, ці падтрымліваеце вы сувязі з беларускімі немцамі? Гэта, вядома, не такая шматкольксная група, як рускія, палякі або яўрэі, але тым не менш немцы маюць сваё аб'яднанне. Ці кантактуюць яны з пасольствам?**

— Што датычыць пытання немцаў, як я яго бачу, дык тут, на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, ніколі не было вялікіх нямецкіх паселішчаў. Тыя немцы, што жывуць у вашай краіне, пераязджалі сюды хутчэй паасобку, а не групамі. У асноўным гэта людзі нямецкай нацыянальнасці, у сем'ях якіх некалі гучала родная мова, і якім давядося многа перажыць падчас вайны. Усе яны ўсведамляюць сувязь з Германіяй, сваю кроўную роднасць з немцамі. Яны арганізоўваюцца ў маленькія групы, разам збіраюць невялікія бібліятэкі нямецкай літаратуры, праводзяць сумесныя заняткі нямецкай мовы. Яны імкнуцца па-свойму захаваць традыцыі, напрыклад, спяваць калядныя песні, інсцэніраваць нямецкія казкі і іншае. Усё гэта не выходзіць за межы законаў, што дзейнічаюць на Беларусі і дазваляюць такім нацыянальным меншасцям свабодна культываваць свае традыцыі. Я думаю, што гэтыя грамадзяне ў будучым — той найважнейшы элемент, які дазволіць паглыбіць і пашырыць адносіны паміж нашымі краінамі. Яны ведаюць сваю цяперашнюю радзіму намнога лепш за нас, іх парады і ініцыятывы будуць вельмі карыснымі ў развіцці двухбаковых адносін.

**— Спадар пасол, вы выказалі цікавы тэзіс: еўрапейская Германія, а не германская Еўропа. Ці не думаеце вы, што аб'яднанне Еўропы пагражае знікненнем самабытнасці нават такім моцным у культурных адносінах народам, як немцы, англічане, іспанцы? І ў сувязі з гэтым наступнае пытанне. Германія — гэта федэратыўная дзяржава, кожная зямля якой мае сваю асобную гісторыю, сваю самабытную культуру. Ці існуе ў Федэратыўнай Рэспубліцы спецыяльная праграма па захаванні самабытнасці рэгіёнаў альбо гэта ўнутраная справа кожнай з земляў?**

— Еўрапейская Германія — гэта не тэзіс, а палітычная мэта, якую абвясціў федэратыўны ўрад, выказаў федэратыўны канцлер, прыняў і падтрымаў бундэстаг. Гэта — па-першае.

Далей. Я не думаю, што ў працэсе аб'яднання Еўропы асобныя краіны пазбавяцца свайго ідэнтытэта, самабытнасці. Індывідуальнасць народаў вызначаецца глыбокімі сіламі, якія маюць свае вытокі з народных пластоў. Іх немагчыма пераадолець так ужо лёгка. Пра гэта ж гаворыць і тое, што асобныя землі, рэгіёны ФРГ вызначаюцца індывідуальнымі рысамі, што людзі ў іх самабытныя і імкнуцца гэтую самабытнасць захаваць. Ва ўсіх федэратыўных землях ёсць праграма па захаванні помнікаў мастацтва той ці іншай зямлі, па захаванні твораў народнай творчасці, музыкі і г. д. Такім чынам, у асобных рэгіёнах Федэратыўнай Рэспублікі дзейнічаюць дэталёва распрацаваныя праграмы. Сам я з Баварыі, таму ахвотна прыводжу ў прыклад сваю зямлю, дзе самабытнасць вызначаецца не толькі і не столькі нацыянальным касцюмам, а, хутчэй, ладам думак.

**— А ці існуе агульнанацыянальная праграма?**

— Такая праграма ахоплівае ўсю краіну, але ў той жа час не з'яўляецца кампетэнцыяй федэральнага ўрада. Пытаннямі культуры, адукацыі займаюцца самі землі. І зроблена гэта менавіта дзеля таго, каб улічваць асаблівасці асобных рэгіёнаў Германіі.

**— Зыходзячы са звестак, што даходзяць да нас з друку, існуе вельмі шырокае разыходжанне паміж заходнімі і ўсходнімі немцамі. Думаецца, тут можна правесці паралель з падзяленнем Беларусі на заходнюю і ўсходнюю, і мяжа культурнага, эканамічнага ўзроўню, рэлігійная мяжа паміж імі акрэслена досыць выразна. Хоць за апошнія дзесяцігоддзі многае згладзілася, вы, нашы бліжэйшыя суседзі, таксама пакутавалі ад падзелу краіны на дзве часткі. І, зразумела, нас цікавіць, як вы будзеце вырашаць свае праблемы, пераадольваць такую, напрыклад, негатыўную з'яву, як пагардлівыя адносіны да ўсходніх немцаў. Бо калі ўсходненямецкае лічыцца другасным, нязначным, мы ж яшчэ далей на ўсходзе... Нават у апошніх выставах нямецкага мастацтва, якія мы бачылі ў Мінску, прадстаўлена творчасць заходненямецкіх майстроў, хоць існавала вельмі моцная мастацкая школа і ў ГДР.**

— Гэтыя выставы былі падабраны, калі Германія яшчэ не аб'ядналася. Тое, што на яе трапілі творы толькі заходніх аўтараў, абумоўлена чыста тэхнічнымі прычынамі. Інакш яе падрыхтоўка зацягнулася б на неакрэслены час. Наступныя выставы будуць выглядаць зусім інакш.

На само ж пытанне пра размежаванне Германіі я хацеў бы адказаць не ў якасці пасла, а выказаць асабістае меркаванне. Мне здаецца, што мы ў сябе, у Германіі, вельмі шырока абмяркоўваем, дыскутуем пра ўсход і захад краіны. Але я не лічу, што нашых суайчыннікаў у так званых новых федэральных землях мы разглядаем як людзей другога, ніжэйшага класа. Тое самае, калі паглядзець далей на Усход, напрыклад, на беларусаў. Праблема, хутчэй, у тым, што мы паміж сабой павінны прызвычаіцца да іншых, непадобных на нашы традыцыі. Так, напрыклад, зямля Брандэнбург адрозніваецца ад Баварыі, і людзі, якія там жывуць, у нечым іншыя. У Беларусі таксама, напрыклад, ландшафт не падобны на італьянскі. І гэта, вядома, абумоўлівае розніцу ў паводзінах і жыцці людзей. Такія адрозненні — састаўныя часткі ідэнтытэта пэўнага рэгіёна альбо мясцовасці. Было б шкада, каб востраў Майнаў выглядаў, як востраў Руген. Гэтымі адрозненнямі і абумоўліваецца прыцягальнасць розных мясцін і народаў. Гэта маё асабістае меркаванне.

Варта было б паглядзець, ці не з'яўляюцца многія адрозненні, на якія мы звяртаем так многа ўвагі, і многія праблемы суіснавання надуманымі, суб'ектыўнымі, без жыццёвай асновы.

**— У апошнія гады, пасля аб'яднання Германіі, мы жывём у выключным інфармацыйным голадзе. Раней звесткі пра ФРГ, а пасля і цалкам Германію даваў часопіс «Гутэн Таг», даходзілі газеты, цяпер жа — практычна ніводнага выдання, акрамя выпадкова прывезеных знаёмымі з самой Германіі. Ці спрыяе пасольства таму, каб да нас даходзіла нямецкая перыёдыка, каб быў створаны на Беларусі інфармацыйны орган для немцаў нашай рэспублікі? Думаецца, для развіцця культурных адносін проста неабходна запоўніць інфармацыйны прагал.**

— Я лічу вельмі істотным наяўнасць інфармацыі адзін аб адным. Што ж да часопіса «Гутэн Таг», на Беларусь яго даходзіць толькі сто экземпляраў. Аднак мы мяркуем дамовіцца з «Белсаюздрукам» для перавозкі гэтага часопіса на Беларусь і продаж у вялікай колькасці.

Па-другое, я хачу нагадаць вам фестываль «Залатое пяро», на які прыехалі каля дваццаці нямецкіх журналістаў з газет, радыё і тэлебачання. І большасць з іх займелі цесныя кантакты з мясцовымі сродкамі інфармацыі. Таму можна спадзявацца і чакаць, што на гэтым узроўні абмен інфармацыяй будзе больш інтэнсіўны і больш актуальны.

Вядома, правядзенне такіх мерапрыемстваў залежыць ад пэўных умоў, найперш ад сітуацыі ў вашай краіне. І калі будуць аб'ектыўныя магчымасці, мы паўторым такі фестываль у наступным годзе. Варта не забывацца, што для развіцця краіны неабходна свабодная, незалежная, арыгінальная і адказная прэса, калі гэта краіна не хоча пайсці па шляху памылак. У сувязі з фестывалем, і гэта была адна з прычын яго правядзення, у нямецкай прэсе з'явілася мноства матэрыялаў пра Беларусь. І многія мае суайчыннікі ўпершыню даведаліся, што ёсць такая суверэнная дзяржава ў Еўропе. Цяпер многія, хоць і не кожны немец, ужо адкажуць на пытанне, дзе знаходзіцца Мінск. У гэтым сэнсе фестываль быў вельмі карысны знаёмствам з вашай краінай. Зрабіць Беларусь вядомай — гэта адна з найважнейшых задач, якая паўстала перад маім калегам Садоўскім у Боне і перада мною.

**— У свой час Беларусь, уваходзячы ў склад Вялікага княства Літоўскага як яго арганічная частка, як культурная, палітычная і эканамічная аснова дзяржавы, межавала з Прусіяй, можна сказаць, з Германіяй. Паміж Германіяй і Беларуссю цяпер знаходзіцца Польшча. Але можна, бадай, гаварыць і пра тое, што Беларусь і Германія маюць і этнічную мяжу. Пасля вайны паміж урадам Польшчы і Савецкага Саюза было заключана пагадненне, згодна з якім бы-**

*(Працяг на стар. 12)*

## ПЯТАЕ, ДЫ НЕ АПОШНЯЕ?

**Што ні кажыце, а цікавасць да беларускай мовы павялічваецца. Усё ж грамадзяне суверэннай дзяржавы пачынаюць прывыкаць да таго, што яна з'яўляецца дзяржаўнай. Гэтым можна растлумачыць і ўсёўзрастаючы попыт на розныя слоўнікі. І, безумоўна, найперш руска-беларускія. Толькі што выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла апошні, трэці том чацвёртага і выпраўленага выдання слоўніка, як наспела патрэба ў чарговым — пятым. Чытачы атрымалі нядаўна першыя два тамы. Дарэчы, наклад немалы — 75 тысяч асобнікаў.**

## «МАСТАЦТВА», N 2

**З аўтабіяграфіяй Ларысы Александроўскай можна пазнаёміцца ў другім нумары часопіса «Мастацтва». На жаль, напісаная яшчэ ў 1947 годзе, яна засталася незавершанай. Тым не менш, багатая на фактычны матэрыял, які тычыцца не толькі асобных момантаў жыцця знакамітай спявачкі. Прапануюцца таксама чарговы раздзел з кнігі па гісторыі музычнага шоу-бізнесу Д. Падбярэзскага — «Чарцяня з табакеркі, альбо Крыху пра джаз». В. Дадзіёмава пераглядае старонкі жыцця і творчасці М. К. Агінскага.**

**У раздзеле «Тэатр» — артыкулы Б. Бур'яна «Душа і вочы глыбіні» /пра актрысу А. Рынковіч/, А. Міхеевай «З дабрынёй і вясёлым настроем...» /пра Мінскі альтэрнатыўны тэатр/, І. Шмыровай «Юра» /згадкі пра Ю. Казючыца/. Л. Грамыка /«Імпрэза»/ знаёміць з Дзяржаўным тэатрам-лабараторыяй нацыянальнай драматургіі.**

**Шырока прадстаўлены раздзелы «Эстэтыка», «Выяўленчае мастацтва», «Падзеі, факты, інфармацыя» і іншыя.**

## У ВАС СПРАВАВОДСТВА ПА-РУСКУ?

**Як жа, прабачце, у такім разе быць з выкананнем Закона аб мовах?! Няўжо вы не ведаеце, што ў нашай суверэннай рэспубліцы родная, беларуская мова і з'яўляецца дзяржаўнай. Кажаце, слаба ведаеце яе? У такім разе не грэх і падвучыцца, а практычную дапамогу ў гэтым, безумоўна, акажа кніга, выпушчаная выдавецтвам «Полымя», якая так і называецца — «Дапаможнік па справаводстве». Аўтары А. Міхальчанка і Э. Давыдава даюць шэраг парад, што спатрэбяцца многім у паўсядзённай рабоце.**

## «БІБЛІЯТЭЧНЫ РЫНГ»

**Пад такой назвай прайшоў конкурс прафесійнага мастацтва бібліятэчных работнікаў Маладзечанскага раёна, што ператварыўся ў сапраўднае свята беларускай кнігі і нацыянальнай культуры. Канкурсантаў было чацвёра — загадчыца Радашковіцкай дзіцячай гарпасялковай бібліятэкі Л. Гідлеўская, бібліятэкар з вёскі Селяўцы С. Бабровіч, яе калега з Сасновага Бору Г. Трус і галоўны бібліятэкар Цэнтральнай раённай бібліятэкі Н. Жук.**

**Больш за ўсіх набрала балаў і перамагла Л. Гідлеўская. Цяпер яна — лепшы бібліятэкар раёна.**

**М. КАПЫЛОВІЧ**

## І КІРАЎНІК НЕ КІРАЎНІК, КАЛІ...

**не ведае дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь. У гэтым упэўнены ў Беларускім камерцыйным універсітэце кіравання. Нездарма для таго, каб выкладчыкі і студэнты добра размаўлялі па-беларуску, на факультэце права створаны курсы роднай мовы.**

**Нядаўна тут адбылася сустрэча са старшынёй Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганнай Сурмач і паэтам, прэзідэнтам Дабрачыннага фонду садзеяння развіццю літаратуры і культуры «Палескі смутак» Міколам Мятліцкім. Госці, а таксама дэкан факультэта права Уладзімір Пухоўскі вялі шырокую размову аб нацыянальным Адраджэнні, месцы і ролі моладзі ў гэтых жыватворных працэсах.**

Што чытаюць

# УСВЯДОМЛЕНАЕ — РАТУЕ

***«Гандлярка і паэт» І. Шамякіна, «Лабірынты страху» А. Асіпенкі, «Запіскі Занядбайлы» Б. Сачанкі, «Камень з гары» У. Дамашэвіча... Гэтыя і іншыя творы розных аўтараў аб'ядноўвае адно: іх галоўнымі героямі з'яўляюцца пісьменнікі. Добра тое ці блага — разважаць не мае сэнсу. Не станем жа мы надаваць перабольшанае значэнне таму, напрыклад, факту, што мастакі яшчэ часцей малююць сябе, сваіх жонак ды сяброў-калег...***

Вышэйпрыведзены шэраг займеў працяг. «Маладосць» надрукавала апавяданне Вольгі Куртаніч **«Пакіньце яго плакаць...»** /N 1/ і раман Уладзіслава Рубанава **«Не аднойчы забіты»** /NN 1—2/. Адно тое, што на твор ёсць жаданне адгукнуцца, сведчыць на карысць гэтага твора. Значыць, высеклася іскра суперажывання /славуты саспенс!/, узнік ланцужок асацыяцый, зараіліся думкі — яскравая прыкмета, што твор не мёртванароджаны, што ў яго ўкладзена субстанцыя з назвай «душа». Ці дасканала ён «зроблены», як скроены і пашыты — таксама рэч для нас істотная, мы яе не абмінём. А для зручнасці найперш класіфікуем герояў на тыпы.

ТЫП АДМОЎНЫ, створаны В. Куртаніч, вызначаецца цалкам негатыўнай афарбоўкай і змрочным эмацыянальным фонам. Перад намі паўстаюць некалькі дзён з жыцця таленавітага паэта Стася Брыга. «За кадрам» засталіся ўмовы, у якіх фарміраваўся яго характар, нам невядома, чаму такім звыродлівым і пакручастым вырасла дужае разгалістае дрэва. Відавочна, аднак, што аўтарка не шукае прычын у грамадскіх варунках, справядліва лічачы, што вытокі ўсяго — і добрага, і благога — найперш у чалавечай душы.

Зрэшты, да вытокаў дакапаецца не ўсялякі доктар. Сам Стась усвядоміў пакуль што адно: ён гіне. Пра гэта яму сказалі аднойчы раніцай хваравітым тахканнем — сэрца, дрыжаннем пальцаў — рукі, ліхаманкавым бляскам — вочы на схуднелым нягoленым твары. Муза болей не наведвае яго, карабель узяў курс на дно, і «гэтае таемнае разуменне давала яму права на гнеў і абурэнне, бо ён любіў сябе так моцна, як ні адзін чалавек у свеце». У знак пратэсту пабітае фізіяноміяй люстэрка выступае як сімвал разбітага жыцця, робіцца лейтматывам твора.

У апавяданні многа някідкіх, але шматзначных дэталяў. Дзынкнула шкло, «гарачыя кроплі папаўзлі ўніз, на мокрую шэрую ракавіну». Заўважце — **шэрую**. Белай ракавіны ў гэтага чалавека быць не можа. Як няма сям'і і каханай, як няма дома /пакой з батарэяй пустых пляшак — хіба гэта дом?/ Сваім домам ён лічыць бар — адзінае месца, дзе ён можа ўзбадзёрыцца ад чарговай порцыі зелля і ўвагі заўсёдных наведвальнікаў. Ён **раб бара** /паводле У. Сцяпана/. Вартая жалю мясцовая літаратурная багема зрабіла паэта сваім кумірам, рада і падсесці, і паднесці. Сюды Стась часцяком прыходзіць з апошнім сваім сябрам /астатнія адхінуліся/, тут яго самалюбства цешаць нечыя поціскі, дзявочыя позіркі і заляцанні.

В. Куртаніч /а гэта, заўважце, яе дэбют у прозе/ стараецца пазбягаць прамых характарыстык. Вобраз Стася Брыга яна стварае сродкамі лаканічнымі і стрыманымі, прычым перавагу аддае дэталі, а не эпітэту. Тонкасці і дакладнасці псіхалагічнага аналізу, глыбіні пранікнення ў свет чужой душы можна падзівіцца. Пры досыць аб'ектывізаванай манеры расповяду выразна гучаць у ім ноткі чалавечага спачування — адзінае, што надае прасветленасць змрочнай атмасферы твора. А завяршае яго эпізод проста «забойчы» — нават на агульным фоне дэградацыі героя. Выпхнутая на лесвіцу голай наіўная дзеўчынёха, якая паспачувала «куміру» і на ўсё жыццё запомніць жах гэтай «любоўнай» ночы — сведчанне канчатковага маральнага падзення Стася, яго жорсткасці і цынізму.

Вобраз таленавітага творцы, які нішчыць, злачынна марнуе Божы дар, несмяротны, мабыць, ва ўсіх літаратурах свету, як несмяротныя Зло і Грэх. Беларуская літаратура не стала выключэннем. Зварот да тэмы балючай і агульназначнай гаворыць пра рост яе самасвядомасці і пазбаўленне ад некаторых комплексаў. Адзін з такіх комплексаў — звычка глядзець на героя-літаратара праз ружовыя акуляры, рабіць яго рупарам ідэй, пазбаўляючы тым самым мастацкай паўнакроўнасці.

ТЫП СТАНОЎЧЫ, што належыць пяру У. Рубанава, у нейкай ступені ілюструе апошнюю тэзу. Хаця вобраз пісьменніка Чуйкевіча нельга лічыць праекцыяй аўтарскага «Я», паміж імі, аднак, няма належнай дыстанцыі. Мне падалося, што У. Рубанаву яго герой уяўляецца намнога лепшым, чымся старонняму воку. Нягледзячы на гэта, вобраз Чуйкевіча сапраўды станоўчы — у тым сэнсе, што перад намі чалавек **нармальны**, здольны прыкмячаць і аналізаваць, пры ўсёй зацыкленасці на сваіх праблемах не страціўшы цікавасці да людзей і да жыцця.

У рамане «Не аднойчы забіты», як і ў апавяданні В. Куртаніч, перад намі таксама разгортваецца працэс дэградацыі — аж да фізічнай гібелі героя, аднак завельмі ўжо ён імклівы, гэты працэс, каб быць псіхалагічна пераканаўчым. А галоўнае — пад яго замнога падводзіцца тлумачэнняў. Коратка я сфармулюю іх наступным чынам.

1/. Злыя сілы ў асобе прыгожай жанчыны Нямілы і яе памагатых палічылі, што пісьменнік Чуйкевіч дасягнуў высокай ступені ў духоўным развіцці, а значыць стаў іх кроўным ворагам. Адсюль курс на яго кампраметацыю з усімі выцякаючымі сумнымі паследствамі.

Назавём гэта прычынай містычнай. Яна заяўлена першай.

2/. Адбыўся разлом калісь непахіснага

# ЗЭК СЯМЁН ІВАШКІН І ІНШЫЯ...

***12 студзеня Васілю Хомчанку споўнілася б 75 гадоў. На жаль, недажыў ён да гэтага юбілею. Паспеў парадавацца сваёй кнізе «Цар — зэк Сямён Івашкін», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», жыў новымі творчымі планамі, ды... Пайшоў з жыцця нечакана — не вытрымала сэрца: занадта шмат зведала і перажыло. З гэтага перажытага, пабачанага ў лагерах нарадзілася і кніга «Цар — зэк Сямён Івашкін», якая, па сутнасці, дагэтуль так і прайшла міма ўвагі нашай крытыкі. Друкуючы рэцэнзію на кнігу, адначасова добрым, спагадным словам прыгадваем і Васіля Фёдаравіча, які мог быць яшчэ з намі...***

Творы, якія ўвайшлі ў апошнюю кнігу В. Хомчанкі «Цар — зэк Сямён Івашкін», напісаны відавочцам тагачасных падзей, а больш дакладна — ахвярай. «Я лічу, — прызнаецца пісьменнік у прадмове да аповесці ў апавяданнях «Крэсла з гербам і розныя крымінальныя гісторыі», — што маё пакаленне, выбітае даваенным тэрорам і вайной, самае няшчаснае і такое парадзелае, што вельмі рэдка сустрэнеш сваіх равеснікаў». Прызнаецца і прыгадвае асноўныя перыпетыі свайго няпростага лёсу.

Аказваецца, В. Хомчанка сутыкнуўся з пільнасцю ідэалагічных «цнатліўцаў» яшчэ недзе ў шостым класе, калі, не надта разбіраючыся ў палітычных партыях, насценную газету, якую даручылі яму рэдагаваць, назваў «Сацыялісты». Аказалася, што «сацыялісты — гэта здраднікі рабочага класа, апартуністы, ворагі Трэцяга Інтэрнацыянала» /так дакараў юнага рэдактара настаўнік/. А «...нейкі энкэвэдыст, — прызнаецца аўтар, — выклікаў мяне ў сельсавет і ўсё дапытваўся, хто мяне навучыў назваць газету так. Ён мне і растлумачыў, што за антысавецкую дзейнасць нясуць крымінальную адказнасць з чатырнаццаці гадоў. А мне ўжо было столькі».

Тым разам абышлося абмеркаваннем на класным сходзе і занясеннем «прозвішча на ганебную чорную дошку, дзе яно красавалася тыдні два». А праз чатыры гады, у страшна вядомым сёння ўсім трыццаць сёмым, калі В. Хомчанка вучыўся на апошнім, чацвёртым курсе рабфака пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, ён быў арыштаваны. За што? Атрымаў ад бацькі ліст, у якім той «скардзіўся, што зноў у калгасе атрымалі на прыцадні грамы. З падаткам не разлічыўся, здаў толькі мяса, малако, воўну, а грошай няма». Сын, уражаны, занатаваў гэта ў дзённіку, не прамінуўшы пракаментаваць: «І ўсё гэта адбываецца пад шчаслівым сталінскім сонцам».

Арышт, зняволенне ў мінскай турме, знаёмства з гэткімі ж бедалагамі, маладымі паэтамі Янкам Туміловічам і Масеем Сяднёвым, з пісьменнікам, акадэмікам Янкам Нёманскім, былым міністрам, а затым старшынёй Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандрам Цвікевічам. Сядзеў спачатку ў Мінску, пасля — у Віцебку: «Паколькі мінскія турмы былі перапоўнены, іх пачалі разгружаць і адпраўляць арыштаваных у іншыя гарады».

Нарэшце, адбылася выязная сесія Спецыяльнай калегіі Вярхоўнага суда БССР. Адначасова на ёй разглядалася сотні спраў. Быў вынесены прысуд і яму, васемнаццацігадоваму хлопцу: пазбавіць волі ў папраўча-працоўным лагеры тэрмінам на чатыры гады і на тры гады паражэння ў правах пасля адбыцця пакарання.

«...Потым, — даведваемся з успамінаў В. Хомчанкі, — быў доўгі, цяжкі этап праз усю Расію, Сібір аж да станцыі Усуры ў Бамлаг, дзе я апынуўся на пачатку зімы ўжо трыццаць восьмага года». Пасля Бамлага апынуўся ў Ніжне-Амурскім лагеры, дзе якраз пачалі будаваць чыгунку ад Камсамольска-на-Амуры да Нікалаеўска-на-Амуры. Пераважна, канечне, сіламі зэкаў, бо гэта была самая танная рабочая сіла.

Перажытае, як тая вялізная глыба. Чым часцей падступаешся да яе, тым цяжэй зрушыць з месца. Сілы слабнуць, але і жаданне зрушыць яе з месца не меншае. Гэтаксама і з успамінамі. Яны і ачышчальныя, бо пасля іх наступае палёгка, дыхаецца вольна, быццам на азонавым паветры пасля навальніцы. Аднак яны ж і боль прыносяць з сабой. Гэткі тупы, ныючы, што з гадамі не слабне. В. Хомчанка ўсё ж варушыць мінулае, ведаючы, што па-сапраўднаму развітацца з ім можна толькі пры ўмове поўнага ачышчэння. Маральнага, духоўнага.

Яго гулагаўскія творы народжаны з уласна-перажытага, асабіста выпакутаванага. Аднак свой боль аўтар не надта, я б сказаў, афішуе. Пра тое, што сам ведаў, расказвае стрымана, месцамі нават мімаходзь. Магчыма, прычына гэтага і звычайная пісьменніцкая і чыста чалавечая сціпласць, нежаданне ўзвышаць сябе над іншымі, бо яны ж былі — зусім не горшымі. І хто, калі не ён, які валодае пяром, можа расказаць пра іх?

мацерыка, які называўся савецкім ладам жыцця. Прыйшла перабудова з цэлым шлейфам негатыўных з'яў, з неабходнасцю пераглядаць такія ж непахісныя перакананні і да т. п. Сумленныя, незагартаваныя людзі, якім з'яўляецца Канстанцін Рыгоравіч, у гэтым новым жыцці месца сабе не знаходзяць і, натуральна, асуджаны на гібель.

Гэта фактар грамадска-палітычны, таксама досыць выразна і падрабязна «выпісаны».

3/. Чуйкевіч як асоба не ў вакууме сфармаваўся, па яго сям'і праехаўся жорсткі каток паслярэвалюцыйных выпрабаванняў. Раскулачаны дзед, рэпрэсіраваны бацька — вось той спадчынны ланцуг, дзе ён сам, пакорная ахвяра сістэмы, — заканамернае апошняе звяно. Адсюль, дарэчы, і назва твора — «Не аднойчы забіты».

Гэта прычына генная, або спадчынная.

4/. Сярод іншых у тэксце мы знаходзім і яшчэ адно досыць арыгінальнае тлумачэнне п'янства героя: «ён спіўся наўмысна — каб з хворага грамадства вырвацца ў чужы ПРЫГОЖЫ свет, дзе няма гвалту і крыві».

Прычына, скажам так, эстэтычная і самая непераканаўчая.

Было б добра, каб усе гэтыя прычынылверсіі былі зліты, сплецены ў мастацкай тканцы твора і не тырчэлі вузельчыкамі, не выпіналіся, не супярэчылі адна адной.

На самай справе, хто ўсё ж губіць пісьменніка — вышэйшыя сілы /Няміла/, развал у грамадстве ці яго асабістая непрыстасаванасць да рэзкіх грамадскіх змен?

Ёсць падстава меркаваць, што задума твора мянялася ў працэсе напісання, што аўтар сам добра-такі заблытаўся ў жыццёвых мітрэнгах і псіхалагічных тонкасцях свайго незадачлівага героя. Каб не быць галаслоўнай, звярнуся да раманнага тэксту.

«Жанчына Няміла людзей высокай духоўнасці лічыла сваімі найпершымі ворагамі». Наступ быў франтальным. У вуснах яе чорнага воінства намер выглядаў па-вайсковаму чотка: «Кампраметацыя. Курс на фізічнае знішчэнне. Алкаголь. Развал сям'і». Непрыемнасці пачынаюцца з таго, што Чуйкевіча выклікаюць у пракуратуру. Пакрыўджаная старая графаманка /а герой наш працуе ў рэдакцыі/ абвінавачвае яго ў тым, што ён нібыта ўкраў і скарыстаў рукапіс ейнага твора. Абвінавачванне абсурднае, справа юрыдычна бесперспектыўная. Між тым памочнік пракурора справу закрыць не спяшаецца, і Чуйкевіч доўгі час пад падазрэннем.

Паралельна напаткала яшчэ адна нягода: у чарзе за гарэлкай нейкія тыпы выцягнулі з кішэні партманет з грашыма і візітнай карткай, пачаліся падазроныя званкі дадому. Канцэнтрацыя нягод /аж дзве запар/ здаецца пісьменніку невыпадковай: «...У тым, што яго заганяюць у пастку варожыя сілы, ён не сумняваўся». Нас жа цікавяць не столькі непрыемнасці самі па сабе, колькі рэакцыя на іх з боку героя. «Што і казаць, жыццё атручана, душа забіта. Забіта злой несправядлівасцю, людской подласцю». Далей у сваіх горкіх развагах герой даходзіць да часу сталінскіх рэпрэсій і «Віцебскай справы», дзе пацярпелі нявінныя. Аналогіі напрошваюцца самі.

«Бог карае мярзотнікаў, гэта зразумела. А чаму пакараны ён, Чуйкевіч?» — зноў і зноў недаўмявае і мучыцца пытаннем наш герой, і мы таксама пачынаем недаўмяваць: што ж тут, па вялікім рахунку, лічыць караю? Нават следчаму здалося, што Чуйкевіч залішне нервуецца. «Чалавек ён, канешне, творчы, з тонкай псіхікай, але, калі не вінаваты, дык чаго так ужо тузацца?»

Чытач мімаволі пачынае думаць тое самае. Хай сабе і творца перад намі, асоба далікатнай канстытуцыі, але ж ён найперш мужчына, мужык! Параўнаем рэакцыю на адну і тую ж падзею Чуйкевіча і яго нялюбай жонкі. Вымагальнікі звоняць і па-трабуюць «бабкі». «Чуйкевіч стаяў белы як смерць. У яго дрыжалі ногі, падступала пад лыжачку млосць». І —«Бляха-муха!.. — выдыхнула жонка і падціснула вусны». Як бачым, у яе мужнасці і вытрымкі болей.

Апусцім правільныя развагі героя пра падзенне аўтарытэту партыі і яе былую ўладу над людзьмі. Падумаем пра дзіўны промах прадстаўніцы інфернальных сфер: што яна, Няміла, разумее пад высокай духоўнасцю і ў чым бачыцца ёй небяспека з боку маладушнага, псіхічна няўстойлівага майстра пяра? Так, Чуйкевіч не дурны і начытаны, сучасных веянняў не цураецца /ёгі, напрыклад, і тэорыі біяполя/. Ён уважлівы да сноў і знакаў /што не ўсім уласціва/, яго разважанні не пазбаўлены здаровага сэнсу. Але каб яго існаванне ўяўляла нейкую небяспеку для «княгіні цемры»?! Ну дальбог, залішне! Бо сутнасць чалавека вызначаецца не толькі ўвагай да свайго ўнутранага свету і ўменнем слушна разважаць, а найперш — учынкамі, здольнасцю змагацца са злом, і не толькі з тым, што персанальна супраць яго накіравана. Ва ўчынках жа Чуйкевіч якраз і не паказаны. Цяжкавата лічыць учынкам па-беларуску напісаную заяву ў гарадскую тэлефонную сетку або ліберальную пазіцыю ў адносінах да супрацоўніка, які наведаў забаронены мітынг. Чуйкевіч нават абурацца прывык цішком, сам-насам і толькі зрэдку дазваляе сабе запярэчыць прадстаўніцы райкома партыі.

Са старонак рамана паўстаюць не забытыя яшчэ, пазнавальныя рэаліі нядаўняга часу — разагнаны мітынг на «Дзяды», партыйныя сходы і разборкі, выхадывыключэнні... Паміж першай і другой часткамі твора відавочна існуе часавы разрыў, бо апісаныя падзеі прыпадаюць на пачатак перабудовы, а іх асэнсаванне і нагнятанне сацыяльных жахаў больш адпавядаюць сучаснаму перыяду. Нам настойліва ўнушаецца, што пісьменнік Чуйкевіч не створаны для рэзкіх патрасенняў у грамадстве: «Ён быў выхаваны як раб, і перамены, што перавярнулі ідэалы, бязлітасна губілі яго». Тут узнікаюць шматлікія пытанні.

Па-першае, нацыяналы /а такім ёсць Чуйкевіч/ пераменам напачатку радаваліся, бо паслабкі былі і для іх, а не толькі для ўсялякага роду жулля. Акрамя таго, пры ўсім сваім кансерватызме герой усё ж усведамляе, што перамены наспелі: «Можа, і на шкоду сабе, але народ хоча паспрабаваць іншага. У новым ёсць заўсёды зародак спадзявання...»

Па-другое, пра якія ідэалы ідзе гаворка? Камуністычныя? Дык Чуйкевіч, здаецца, не зацяты камуняка, партыйных функцыянераў, асабліва жанчын, ён бачыць, што называецца, як аблупленых і вобліка іх не прыхарошвае. «Свежы вецер» перабудовы часцей даводзіў да злому, да крызісу людзей сталага веку, а яшчэ тое самае партыйнае — усіх рангаў — начальства. Сціплы сакратар рэдакцыйнай партарганізацыі не адносіцца ні да тых, ні да іншых. Дык чаму ж ён так разгубіўся, так безнадзейна збіўся з тропу?

Па-трэцяе, ловіш аўтара на лагічнай супярэчнасці: як жа суадносяцца паміж сабою дакляраваная высокая духоўнасць, што мае на ўвазе ўнутраную свабоду, і неаднаразова падкрэсленая рабская прырода героя? У адной асобе гэтыя паняцці, мабыць, несумяшчальныя.

Нарэшце спахопліваешся: а пры чым тут жанчына Няміла? Можа, і перабудову яна арганізавала, каб толькі зжыць са свету ворага? На шчасце, да гэтага празаік не дадумаўся. Хаця з усіх заяўленых мне найбольш імпануе якраз містычная версія нягод і гібелі Чуйкевіча. Фантастычныя ўстаўкі напісаны займальна і сцісла, чытаюцца з неаслабнай цікавасцю, а сам кірунак уяўляецца перспектыўным як для У. Рубанава ў прыватнасці, так і для ўсёй нашай залішне «заземленай» літаратуры. А вось рэтраспектыўныя звароты ў дзяцінства падаліся мне псіхалагічна неабгрунтаванымі і зацягнутымі. Адкінь іх — атрымаецца дынамічная, пругкая аповесць.

Не запыняючыся больш на сюжэтных перыпетыях, адзначу натуральнасць і пластычнасць мовы празаіка, уменне праз дэталь стварыць пераканаўчы зрокавы вобраз. «Мядзведжую паслугу», як мне падаецца, аказала пісьменніку жаданне ўсё «разжаваць» і вытлумачыць, і яго гісторыя, замест таго, каб «расказваць сама сябе», рухаецца наперад з рыўкамі і неверагоднай хуткасцю. Парушаючы мастацкія законы, аўтар літаральна валачэ свайго героя «на эшафот». Ледзьве не за год Чуйкевіч становіцца алкаголікам і нават апускаецца да ўжывання адэкалону «Саша». «Хуткая» вязе яго прама ў наркалагічнае аддзяленне. У гэтым «прыгожым свеце», як высветлілася, нельга ні тварыць, ні проста жыць.

Чуйкевіч выразна адчувае, што жыццё скончана, што ён вычарпаў сябе дарэшты. «Па ўсіх кірунках, як трэшчыны па шкле, пайшло разбурэнне». Хваравіты стан душы ўзмацняецца ад думкі, што непатрэбным нікому стаў і творчы набытак — усё раней створанае «на заказ» партыі. /Момант істотны, варты таго, каб быць адзначаным не пад заслону/. Але што дзіўна: ведучы свайго героя па кругах сучаснага пекла, укладваючы ў яго вусны многія ўласныя погляды і перакананні, У. Рубанаў, тым не менш, ставіцца да яго пакутаў з алімпійскім спакоем. Ну, а калі сам аўтар не ўспрымае драматызму падзей, то што застаецца рабіць чытачу? Хіба што з палёгкай уздыхнуць, калі нашага «мільянера духоўнасці» нарэшце на вуліцы напаткала смерць. Здзейсніліся найгоршыя яго прадчуванні, адляцела ў лепшы свет душа, згінуў яшчэ адзін Богам дадзены талент.

Падобны фінал, не выключана, чакае і героя апавядання В. Куртаніч. Розніца толькі ў тым, што адзін памірае хоць і дэмаралізаваным, але не страціўшым чалавечага обліку, другі ж даўно жыве як непрытомны дысее навокал зло.

Два вобразы. Дзве аблудныя няшчасныя душы, што не могуць знайсці агульную мову з людзьмі і з Сусветам. І адна слабенькая надзея: усвядомленае — ратуе.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

---

Апошняе таксама немалаважна, бо чамусьці так сталася, што ў полі зроку літаратуры знаходзяцца толькі так званыя «дзеці Арбата». Але хіба меншымі былі пакуты людзей простых, учарашніх сялян, рабочых? Яны ж станавіліся асабліва безабароннымі перад абставінамі, аніяк не маглі разабрацца ва ўсіх складанасцях «класавай барацьбы»...

Героі пераважнай большасці твораў В. Хомчанкі найперш безабаронныя. Вось персанаж з апавядання «Баец Лёва з Бабруйска». Ён, праўда, меў вялікую фізічную сілу, хоць і сярод сяброў па няшчасці не вельмі хацеў паказваць гэта. Але як і хто мог бы растлумачыць Лёву, за што яго зрабілі «ворагам народа»? Лёва, які працаваў байцом на мясакамбінаце, атрымаў восем гадоў за тое, «што забіваў худых быкоў, а не адкормленых»! Па ўсёй краіне працаваў свайго роду бесперапынны канвеер, які патрабаваў усё новых і новых ахвяр.

Знаходзіліся, аднак, і такія, хто гатовы быў стаць на шляху ўсеагульнага знішчэння. Пра гэта гаворыць і В. Хомчанка: «Сустракаліся мне такія людзі і ў лагеры, і пасля лагера. Былі яны ў судах, у тым жа НКУС, і пасля лагера. І калі б кожны, ад каго залежалі лёсы людзей, няхай сабе і ў тыя страшныя гады тэрору, стараўся рабіць як можна меншае зло, а не імкнуўся выбіцца ў перадавікі, вызначыцца актыўным «баявым штыком партыі» — так называлі сябе сталінскія карнікі, — то ці ж было б столькі ахвяр?»

Афіцыйна дэкляраваліся роўнасць, свабода, разняволенне, а на самай справе саджалі ў турмы нават дзяцей. Герой апавядання «Адуванчык» — падлетак. Сапраўднага прозвішча яго ніхто не ведаў: «Яго так усе звалі — Адуванчыкам. Ён і быў падобны на адуванчык-кветку — залаціста-рыжы, асабліва калі валасы адрасталі пасля абавязковай стрыжкі. Звычайна ў рыжых валасы пругкія, а ў яго былі мякенькія, як пушок». Узялі Адуванчыка на пачатку трыццаць сёмага, неўзабаве пасля Новага года, яму яшчэ і пятнаццаці не было, за так званую антысавецкую агітацыю і асудзілі на шэсць гадоў. Ды яшчэ дадалі тры гады паражэння ў правах. Што ж злачыннае зрабіў Адуванчык? Выконваючы ў школьным спектаклі ролю Жабрака, пад маскай якога хаваецца замаскаваны вораг, прыдумаў, каб падкрэсліць яго сацыяльную сутнасць, частушку:

**Як быў Ленін-Троцкі,**
**То была мука на клёцкі.**
**А як стаў таварыш Сталін —**
**Галадаць усе мы сталі.**

Не вытрымаў Адуванчык бесчалавечнасці ў лагеры, налажыў на сябе рукі...

Знаходзіліся і такія, хто ішоў на актыўны пратэст. Як Таня, гераіня аднайменнага апавядання: забіла свайго сужыцеля, які здзекаваўся з яе. Казімір жа /«Казімір — чалавек слабы»/ на людзях пастаянна падкрэсліваў сваю памяркоўнасць: «Слабасць чалавеку не шкодзіць, нават у лагеры... Моцнаму не даступны радасці жыцця, іх можа ацаніць толькі слабы, у якога яны вельмі рэдка бываюць. А моцны растрачвае сябе на барацьбу за радасць у жыцці». Як высветлілася, спатрэбілася Казіміру яго жыццёвая праграма: ён здолеў уцячы з лагера, дабраўся да Масквы, дабіўся справядлівасці.

Перачытваеш апавяданні «Падмена», «Гульня ў карты», «Падснежнік», «Кажушок» і быццам бачыш само грамадства ў яго мікраразрэзе. Крыху абасоблена стаіць апавяданне «Матрос». Яно з шэрагу тых твораў /згадаем апавяданні і аповесць «Дзве душы» М. Гарэцкага/, у якіх «салдаты рэвалюцыі» паказаны людзьмі жорсткімі, якія, адстойваючы ўласныя погляды, ні перад чым не спыняюцца. Яны, праўда, раскрываюцца, так сказаць, у дзеянні. Матрос жа ўсё-такі апынуўся ў турме, хоць і не за «рэвалюцыйныя правіннасці». Таму пра сваю дзейнасць вымушаны толькі ўспамінаць. Выхваляючыся, гаварыў, як «рэзаў буржуяў» і як гатовы пасля вызвалення рабіць гэта і далей. Ды, як кажуць, найшла каса на камень: знайшоўся смяльчак, адважыўся на самасуд. Ніхто не пашкадаваў матроса ў лагеры, і ніхто не выдаў забойцу...

Атмасфера, што панавала ў лагерах, вельмі дакладна перададзена ў аповесці «Цар — зэк Сямён Івашкін». Твор вынесены ў пачатак кнігі. І гэта зроблена аўтарам невыпадкова. Відаць, і сам В. Хомчанка адчуваў, што ў згаданых вышэй апавяданнях яму не заўсёды ўдалося пазбегнуць пэўнай эскізнасці. Пісьменнік часам вельмі прытрымліваўся пэўных фактаў, не заўсёды клапоцячыся аб іх адпаведным псіхалагічным папаўненні. У гэтай жа аповесці характар галоўнага героя выпісаны надзіва пераканаўча і выразна.

Перад намі паўстае прывабны воблік аднаго з тых, хто чалавекам жыў і чалавекам застаўся. Знешне лёс Сямёна Івашкіна не такі і кідкі. Як і большасць асуджаных, у лагер трапіў ні за што: як і ў дзесятках, тысячах, сотнях тысяч выпадкаў спрацавалі звыклыя абвінавачванні. Прытым, Івашкін за краты трапіў не ўпершыню. Першы раз атрымаў тры гады як «падкулачнік». Але пашанцавала — і не раскулачылі, і «адседзеў менш двух гадоў».

Ды ўжо калі нешта ў лёсе запраграмавана, то нікуды не дзенешся. Пісалі якраз ліст самому Сталіну, запрашалі ў калгас наведацца: «прыязджай, дарагі мудры айцец, да нас у госці на новыя бліны». Івашкін разважыў, што запрашаць на бліны, калі вясна ранняя, у вёсцы няшчымніца, недарэчна. Вось і ляпнуў: «Давайце дарагога айца запросім на лапуны нашы, а то калі прыедзе, дык мукі не нашкрабом на бліны, засекі пустыя». Што такое лапуны, з усёй сваёй непасрэднасцю Івашкін расказвае ў лагеры: «А ў нас на Магілёўшчыне ўсе ведаюць. Іх з бульбы пякуць, яны хлеб замяняюць. Такія тонкія ляпёшкі. Не ад добрага жыцця пякуць, у бясхлебіцу».

Івашкін паўстае гэтакім дзіваком, пра якіх кажуць: што з яго возьмеш! Язык у яго — без косткі, мянціць і мянціць. З-за гэтых сваіх розных неверагодных гісторый Івашкін і мянушку атрымаў. Аднойчы расказаў, як сніў сябе царом, як сядзеў на царскім троне і на стале было столькі смажанага-паранага, што на ўсю кампанію хапіла б, а яго, цара, абслугоўвала ажно тры царэўны і царыцы». Вось і стаў Царом.

Насельнікі лагера нават любілі Івашкіна. Яго шчодрая фантазія прыносіць хоць нейкае святло ў шэрыя будні нявольнікаў. Але ж і мне, чытачу, ён падабаецца ўсё болей і болей. Чаму? Неяк падсвядома, унутрана адчуваеш, што Сямён Івашкін душэўна чысты і адкрыты чалавек. Прытым высвятляецца неўзабаве, што дзівацтвы Цара — не што іншае, як пратэст супраць несправядлівасці, беззыходнасці становішча, у якім апынуўся, інакш ён не можа выказаць сваё незадавальненне існуючымі парадкамі. А недзе ў самай глыбіні душы Івашкіна выспявае і пратэст адкрыты, рашучасць перайсці да адкрытага дзеяння, дзе ўжо за «хохмачкамі» не схаваешся.

Так і атрымалася. Івашкін даведаўся, што крымінальнікі Бут і Жугроў, рашыўшыся на ўцёкі, запрашаюць у сваю кампанію студэнта Мардоўкіна, каб, калі скончацца прыпасы, выкарыстаць яго ў якасці «каровы» — прасцей кажучы, з'есці. Даверлівы Мардоўкін не хоча паверыць, якая небяспека падсцерагае яго ў дарозе. І тады Івашкін прама выказвае Буту і Жугрову тое, што пра іх думае. І атрымлівае ад апошняга ўдар фінкай...

Адбылося непапраўнае, але Івашкін не быў бы Івашкіным, калі б і ў гэты смяротны момант не заставаўся аптымістам: «Не шкадуй мяне, я — жывучы, я заўсёды выжываў. А калі памру, дык у рай пападу. Ты не верыш у рай, а ён ёсць. Я ж нікому не рабіў зла і не маю зла...», — кажа ён Мардоўкіну. Паміраў Цар «дзён восем», а адышоў гэтаксама непрыкметна, як і жыў: «памёр у сне: заснуў і не прачнуўся. Ляжаў з застылай усмешкай, мабыць, бачыў сябе шчаслівым, можа, і багатым, у шыкоўным палацы разам з дочкамі, унукамі і праўнукамі, якія яшчэ народзяцца».

Вось і ўсё жыццё. На такія падзеі былі багаты лагерныя будні. Здавалася б, пра гэта нямала згадана. Чаму ж тады аповесць не адпускае ад сябе? Таму, што яна глыбока гуманістычная, таму што за расказаным паўстае і душэўная дабрыня самога аўтара, які пазнаёміў нас з Царом-зэкам Сямёнам Івашкіным. Можа, як ніколі раней, В. Хомчанка здолеў прымусіць нас гэтак суперажываць свайму герою. Як быццам у пісьменніка штосьці ўнутры падказвала: пішы, старайся рабіць гэта як мага лепш, хто ведае, колькі яшчэ лёсам табе адпушчана...

Аказалася — зусім няшмат. Праз некалькі месяцаў пасля гэтай кнігі, што ўспрымаецца сёння яго лебядзінай песняй, Васіля Фёдаравіча не стала.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## ДОБРАЯ СПРАВА — ТАЛАКА

**А без яе акурат не абышлося пры выпуску кнігі Вячаслава Корнева «Казкі пра бабулю», што выйшла ў Гродне. У якасці выдаўца выступае Святлана Несцярэнка. Пабачыць свет зборніку дапамаглі Гродзенская аграрна-прамысловая камерцыйная асацыяцыя «Эма», рэгіянальны камерцыйны банк «Комплекс», вытворчае аб'яднанне «Азот», Слонімскае народнае прадпрыемства «Альбярцін». Тым самым дзеткі атрымалі пад адной вокладкай два творы — «Бабуля і вогненны змей» і «Бабуліна шчасце».**

## ГУМАНІСТУ І РЭФАРМАТАРУ

**Выдатнаму беларускаму філосафу, а таксама багаслову, літаратару, прапаведніку і тэарэтыку рэфармацкага руху ў Вялікім княстве Літоўскім прысвечана новая кніга маладога навукоўца, даследчыка гісторыі літаратуры Івана Саверчанкі «Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар», выпушчаная выдавецтвам «Універсітэцкае». І. Саверчанка апошнім часам парадаваў не адной цікавай кнігай, са старонак якіх па-новаму прачытваюцца некаторыя перыяды багатай і супярэчлівай нацыянальнай гісторыі. Сярод іх нарысы пра Льва Сапегу і Астафея Валовіча, манаграфія «Старажытная паэзія Беларусі /XVI — першая палова XVII ст./. На падыходзе нарыс пра Язэпа Руцкага «Апостал яднання і веры».**

**У гэтым шэрагу кніга пра С. Буднага ўспрымаецца як звяно аднаго ланцуга, што вядзе з мінуўшчыны ў сёння, паядноўваючы іх. Пра плённасць навуковых пошукаў І. Саверчанкі гаварылася на прэм'еры кнігі «Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар», што прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

**Перад прысутнымі выступілі дырэктар бібліятэкі Г. Алейнік, загадчык аддзела рукапісаў і старадрукаў Т. Рошчына, начальнік аддзела кнігавыданняў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь С. Палякоў, галоўны рэдактар выдавецтва «Універсітэцкае» У. Напрэеў, дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс, а таксама Г. Галенчанка, С. Падокшын. І, безумоўна, усе з цікавасцю слухалі самога аўтара.**

**У пачатку і ў канцы прэзентацыі выступіў хор царквы евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў.**

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ І ЛЮБІЦЬ!

**Менавіта з такімі словамі звяртаецца да чытачоў у першым нумары часопіса «Пралеска» галоўны рэдактар А. Сачанка, акцэнтуючы ўвагу на тым, што сёлетні год — Міжнародны год сям'і. А перадусім — гэта, безумоўна, і год далейшага нацыянальнага Адраджэння. Гэтыя праблемы закранаюцца ў большасці матэрыялаў часопіса. Н. Маскаленка ў артыкуле «Літаратура, якая вам дапаможа» аглядае выданні, што спатрэбяцца выхавацелям і бацькам. А. Лозка знаёміць з беларускім народным календаром. А. Сачанка гутарыць з вядомым псіхолагам Я. Каламінскім, якому спаўняецца 60 гадоў — «Навыперадкі з часам». Змешчаны творы С. Шушкевіча, М. Пазнякова, А. Дзеружынскага, Г. Багданавай, казка А. Якімовіча «Першае яечка» /часопіс, дарэчы, адзначае 90-годдзе з дня нараджэння пісьменніка/, іншыя матэрыялы.**

## ПРАЦУЕ НА АДРАДЖЭННЕ

**Беларускім дзеткам прызначана прадукцыя «Майстэрні дыяфільмаў» кінастудыі «Беларусьфільм». Апошнім часам тут з'явілася шэраг каляровых дыяфільмаў, якія можна выкарыстаць у яслях-садках і пачатковых школах, а таксама, безумоўна, дома, у сямейным выхаванні. Усе яны беларускамоўныя і пашыраюць кругагляд дзетак. Напрыклад, «Падарожжа ў Краіну Матэматыкі», «Едзе Батлейка», «Бабульчын куфэрак», «Прыгоды лазовых галінак»...**

## У ДАПАМОГУ ВАЙСКОЎЦАМ

**«Беларуская мова» — так называецца дапаможнік для вайскоўцаў, аўтары якога В. Раманцэвіч і У. Танана. Для таго, каб з'явілася гэтая вельмі неабходная і карысная сёння кніга, парупіліся ва Упраўленні выхаваўчай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Выданне ж яе ўзяла на сябе рэдакцыя часопіса «Адукацыя і выхаванне».**

Паэзія

Віктар ЛУЖКОЎСКІ



# ВЯНОК ПЕСЕНЬ

### ПАХОДНАЯ ВОЙСКА БЕЛАРУСКАГА

**На жыццё не злуйся,
Сцюжна ці спякотна, —
Батальён, шыхтуйся
На пляцы паротна.**

**Вокал наш
Родны любы край.
Крокам марш!
Песню па-чынай!**

**Эх, арліна рушылі,
Хмарай пыл на плёсы.
Толькі ноччу рускія
Зноў сасняцца косы.
Эх,
Добры сон — не грэх!**

**Сцяг краіны мужнай
Б'ецца над калонай —
Чысты белы кужаль
З паласой чырвонай.**

**Вокал наш
Родны любы край.
Цяжкі марш
Слоўцам не карай.
Клятву не парушу я,
Верны бацьку-лёсу.
Дома буду — русыя
Расплятку я косы.**

**Гэй,
Рота, крок шырэй!**

### ПЕСНЯ КАРАВАЙНІЦ

*/Паводле народнага/*

**Хай асыпле песню гэту
Пухам саннай снежнасці,
Цветам майскай радасці.
Беларусь адкрыта свету —
Цераз поле сцежачкі,
Цераз мора кладачкі.
Не ўгадае,
Ніхто не ўгадае,
Што ў нашым каравай,
Каравай.
А з сямі крыніц вадзіца.
А з сямі кароў масла,
Масла,
Каб чало было красна,
Масла,
А яец паўтараста.
Паспытайце, госці,
Госці-ягамосці!
Хай асыпле песню гэту
Пухам саннай снежнасці,
Цветам майскай радасці.
Беларусь адкрыта свету —
Цераз поле сцежачкі,
Цераз мора кладачкі.
Караваю, божы дару,
Асалода гаспадару,
Божы дару!
Маслен, солен крута,
Крута.
Гарнец мяты-руты,
Руты.
Ярых пчолак мядок
Ды малінавы сок,
Ой жа, сок!
Ліст кляновы слаўся,
Каравай удаўся,
Эх, удаўся!
Спажывайце, госці,
Госці-ягамосці!**

### ВЕРАСОВАЯ ПАЛЯНА

**Верасы на досвітку
Зацвілі ў бары —
Не тапчыце посцілку
Сіняе зары.**

**Я люблю пасланую
На зямлі зару,
Светлы бор з палянаю
Любай падару.**

**Верасовая паляна —
Хмель пчаліных сот.
На паляне з губ каханай
Верасовы піць бы мёд!**

**У зялёным верасе
Павуцінкі ніць.
Залацісты верасень
Водарам хмяліць.**

**Я люблю пасланую
На зямлі зару,
Светлы бор з палянаю
Любай падару.**

**Верасовая паляна —
Хмель пчаліных сот.
На паляне з губ каханай
Вып'ю, вып'ю хмельны мёд!**

### ЛІЛЕЯ

**Ружовіцца, гарыць
Зарэчная зара.
Лілея расцвіла —
Чароўная пара!
Чым глыбіня цямней,
Тым кветка прыгажэй.
Лілея — між імён
Няма мне даражэй.
Лілея... Лілея... Красы
бялюткай звон.
Ці думаў я калі,
што траплю ў палон.
Усмешкі дабрыня.
У шчасці і журбе
Які шчаслівы я,
што напаткаў цябе.
Таемны позірк твой,
Гарэзлівасць вачэй...
Мне кожны новы дзень
Малюецца ярчэй.
Туды вясна вядзе,
Дзе кветка на вадзе.
Прыстанак дум маіх,
Надзея ўсіх надзей.
Хай музыка гучыць,
Як сон з найлепшых сноў.
Хто сэрцам не глухі,
Тое звездае любоў.
Чым плынь жыцця глыбей,
Тым кветка прыгажэй.
Лілея — між імён
Няма мне даражэй.**

### ВЕСЯЛУХА

*/Паводле народнага/*

**— А чарэшня каля ганку
Быццам выйшла на гулянку
Белым голлем страпянуўца...
З-за мяне ўсе хлопцы б'юцца, —
Пабіцеся, справа ваша,
Прыгожая, ды не ваша.**

**— Не жаніўся — было гора,
Сёння горай, чым учора:
Узяў жонку-малалетку,
Не растопіць печ улетку,
Да работы не ахвоча,
Скача, шэльма, ды рагоча.**

**— Ой, гармонік каля ганку
Мяне кліча на гулянку,
Толькі выйду, стрэльны вокам —
Хлопцы крруцяцца ля вокан.**

**— Ах, ты жонка-рагатуха,
У мяне на сэрцы скруха:
Куры хату падмятаюць,
Хлопцы ў вокны заглядаюць,
Комін стыне — чэрці выюць,
А сабакі лыжкі мыюць.**

**— Пакуль дзежку замясіла —
Свіння дзверы прыкусіла.
Пакуль дзверы залатала —
Свіння цеста расхватала.
А як хлеб паспеў-удаўся —
Пад скарынкай кот схаваўся.**

**— Эх, ты, жонка-рагатуха —
Маё гора, мая скруха.**

**— Я смяюся, весялуха,
Дождж ідзе, дарога суха.**

Проза

# ЗІНА

Седзячы ў самалёце, што плыў над белавоблачным морам у Ташкент, яна ўспомніла ўсё тое не раз і не два...

**1**

«Дазвольце назвацца: старшы лейтэнант Жураўлёў!»

Яна не паспела ні абурыцца, ні ўсміхнуцца, толькі здзівілася: нечакана, нібы з-пад зямлі, паўстаў, загарадзіў дарогу вайсковец, падняўшы правую руку да блакітнага аколыша фуражкі. Пакуль яна, запыніўшыся, папраўляла раменьчык ад сумачкі-касметычкі на левым плечуку, ямчэй брала ў правую руку пакет з памідорамі, якія толькі што купіла ў вулічным кіёску, і заадно акідвала позіркам гэтага неспадзяванага зуха — высакаватага, стройнага і пагляднага, — той смела сваволіў далей: «Дзяўчына, выходзьце за мяне замуж!»

Цяпер ужо яна прыкінула: перад ёй звычайны юрлівы залётнік, але чамусьці — можа, і таму, што быў добры настрой — не зазлавала, а нават пагарэзавала: «Я — не дзяўчына».

Ён апусціў руку і нібы засмуціўся: «Вы — замужам?»

«Не, — усміхнулася. — Але не тая, што вам трэба вось так адразу...»

«Якраз тая, — суцешыўся. — Дазвольце», — і даволі рашуча ўзяў з яе рук пакет з памідорамі, закрочыў побач.

Яна ўжо не зразумела самую сябе: дагэтуль не толькі не дазваляла незнаёмым мужчынам прычэпліваўцца, але нават гуляць з ёю вачыма і няшчыра-спакуслівымі словамі, а вось сёння, тут не толькі не адганяе бойкага заляцаку, але нават адчувае да яго нейкую гарэзную цікаўнасць. Што ж, падумала, паглядзім, што будзе далей, наколькі хопіць у яго красамоўства і прыстойнасці.

«Вы, канечне, прабачце, — ужо не брава, а спаважліва прамовіў той. — Я, мабыць, здаюся вам нахабнікам. На самай справе гэта не так. Я прыехаў сюды з далёкага азіяцкага гарнізона, у мяне ў запасе ўсяго адзін сённяшні дзень, дык вось змушаны...»

«...адрываць падэшвы на хаду...» — Даказала яна і зірнула на яго.

«Здаецца, як і мне, гадоў дваццаць шэсць, лоб высокі, разумны, бровы густаватыя, вабныя, вочы глыбокія, блакітнаватыя, добрыя, нос кірпаваты, але добра падыходзіць да худаватых шчок, а вусны паўнаватыя, лагодныя, форма не новая, але дагледжаная...»

«Зусім не, — збянтэжыўся кавалер. — Паверыце ці не: пакуль вы бралі памідоры, разлічваліся і перакінуліся словам-другім з прадаўшчыцай, я назіраў за вамі і адчуваў: закахаўся. З першага позірку».

«І часта такое ў вас?» — пакпіла, бачачы, што і ён пільна азірае яе постаць, твар.

«Я не шмат бачу жанчын-славянак. Некаторыя падабаюцца, але каб закахацца з першага позірку, — дык сёння першы раз».

«Дык я, па-вашаму, красуня? Німфа? Фея? Ці толькі паглядная краля?»

«Навошта вы так? — сумеўся. — Я гавару праўду. Будзьце ласкавы: скажыце хоць, як вас зваць».

«Вельмі проста: Зіна».

«І ў мяне ўсё простае: Жураўлёў, Міша. Халасцяк, які марыць знайсці не фею ці німфу, а вартную дзяўчыну, ажаніцца і быць добрым мужам ды бацькам. Вы згодныя стаць афіцэравай жонкай? Пакінуць свой утульны Мінск і паехаць са мной у азіяцкі горны гарнізон?»

Зіне здалося, што ён ужо не толькі не зухуе, але шчыры, вабіў і вабіць душэўнасцю, але яна рашыла астудзіць яго: «Я ж казала: я — не дзяўчына. Разведзеная. Ды і не ведаю добра сама, ці, як вы кажаце, вартная».

«Дзеці маеце?»

«Не».

«Паслухайце, Зіна, — запыніўся, зірнуў з маленнем ёй у вочы. — Вы — мой лёс. Я ехаў сюды па новы салдацкі набор і адчуваў: штосьці павінна змяніцца ў маім жыцці. І вось, ідучы па праспекце, зусім выпадкова заўважаю вас. Маё сэрца аж падскочыла: калі гэтая чарнявая, стройная, мілая, з добрымі вачыма незнаёмка незамужняя, дык яна — толькі для мяне!»

«Вось як...» — Разгубілася ад яго такога запалу, адчуваючы, што падскоквае ўжо, непакоіцца яе сэрца.

«Вы — настаўніца? Урач?»

«Не. Я чалавек «сухой» прафесіі. Бухгалтар».

---

*З кнігі «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын»*

# ДВА АПАВЯДАННІ

Генрых ДАЛІДОВІЧ



«Але вы вельмі жывая, пяшчотная і нейкая цёплая...»

«Я звычайная».

**2**

Назаўтра, едучы на работу, Зіна не верыла сама сабе, што нібы ў сне, нібы наяве ўтварыла ўчора: паблукаўшы па горадзе, дапусціла незнаёмага чалавека ў сваю аднапакаёўку, выпіла з ім віна, патанцавала пад грамплаацінку, а потым, адчуўшы галавакружэнне, аддалася яму. Ды мала сказаць — была блізкая з ім, яны вуркаталі, галубіліся ўсю ноч, яна ніколі дасюль не чула столькі мужчынскага шэпту, пяшчоты і пацiску дужых рук, столькі не знемагала ў слодычы і стоме. Ёй здавалася: усяго гэтага не было, як і ранішняга развітання, апошняга дыхзаймальнага абдымка і пацалунка, яго клятвы, што яна ўжо яго жонка, а ён яе муж. Каб упэўніцца, што гэта ўсё так, яна раз за разам адчыняла касметычку і даставала лісток з ягоным адрасам і тут жа, бачачы прыгожы почырк, адчувала, што адмыслова смыляць яе вусны, хараша пачуваюць сябе, здаецца, усё яшчэ стрыжаных параненых у бальнічных піжамах і белых салдацкіх кашулях ды ў тапачках, нямала напужалася: а раптам не пазнае свайго лётчыка: у самалёце ўспамінала-ўспамінала ягоны твар і так не ўявіла добра. Ды баялася, што ў яго, можа, зусім не «драпіна», можа, моцна скалечаны.

Ды трывога яе была дарэмная. Як толькі ўбачыла на лаўцы сярод чарнавалосых русявага, з блакітнымі вачыма і кірпаносага, праўда, схуднелага і белага, дык ажно ўстрапянулася сэрца: ён і, дзякуй богу, з рукамі ды нагамі! І Жураўлёў, трымаючы адну руку на падвязцы, падхапіўся, засвяціўся ўвесь:

— Зіна!

Не зважаючы на люднасць, яны прыпалі адно да аднаго і надоўга замерлі ў душэўным пацалунку. Ёй адважвала руку напакаваная валізачка, але ні яна не здагадвалася апусціць яе долу, ні ён не здаўмеўся ўзяць яе вольнай рукою, якой пяшчотна гладзіў яе па плячах.

Калі разлучылі вусны, яна ўжо заслёзенымі вачыма ўбачыла: ён не толькі ззяе, а шчаслівы.

— Хлопцы, — апярэдзіў яе, паварочваючыся да чарнавалосых. — Мая жонка. Зіна.

— Возьми чемодан у супруги, дорогой, — усміхнуўся адзін з іх.

Жураўлёў борздка ўзяў яе валізку.

— Можа, табе няможна падымаць цяжар? — занепакоілася яна.

— Хутка буду насіць цябе на руках! — радасна шапнуў ёй на вуха.

Пасля, калі яны апынуліся адны ў ягонай палаце, калі дзверы былі замкнёныя на аддадзены «жураўлю» чорнавалосымі хлопцамі ключ, а за вокнамі паволі ўжо гусціліся цені, ён, скупа расказаўшы, як іхнюю часць нечакана перакінулі ў Афганістан, як быў там збіты ў небе і прастрэлены навылёт з аўтамата, калі спускаўся з пакінутага самалёта на зямлю на парашуце, паказаў ордэн, калі яна не раз і не два заходзілася ад страху і паплакала, — дык вось ён, тулячы яе, ужо ў кароткім халаціку і ў тапачках, пацешыўся:

— А ты яшчэ папрыгажэла! І папаўнела крыху.

— А чаму ж мне не папаўнець? — усміхнулася, ладуючы голаў на яго грудзіне. — Было ж ад чаго...

— Ды ты цяжарная?

— Цяжарная.

— Ад мяне?

— Больш ніхто не апусціўся перада мной проста з неба і не пакахаў з першага позірку!

Ён і адной рукой сціснуў так, што яна ажно крактанула.

— Я шчаслівы. А ты?

— І я, герой мой.

— Які я герой, любая мая. Гэтая вайна страшная, і не трэба было нам туды лезці, распальваць яе. Нічога мы там не даб'емся, будзем толькі вінаватыя за пралітую іхнюю і сваю кроў...

Ён, вайсковец, гаварыў пра тое, пра што зусім іначай талдычылі з Крамля і пісалі ў газетах, пра што іначай думала і яна, ёй нават было вусцішна, але яна слухала і не перапыняла: гэта гаварыў той, хто быў там і, канечне ж, цудам ацалеў, хто ўрэшце бацька яе дзіцяці.

— За адно я герой, — усміхнуўся. — За тое, што заваяваў цябе. Хоць, наадварот, заваявала мяне ты.

— Герой, мілы, — пацалавала яго ў шчаку. — Зухаваты, смелы, дужы, пяшчотны...

— Ты не кляла мяне за тое наша, не асуджала сябе?

— Можна сказаць шчыра, амаль не. Сама цяпер скажу табе: я хачу цябе.

— Але ж...

— Я ведаю, што кажу, — нядаўна, калі пераапраналася, змусіла яго адвярнуцца, а цяпер, любоўна пазіраючы яму ў вочы, паволі скінула з сябе халат і ўсё астатняе, нічога не саромеючыся і хочучы як мага мілей падарыць яму сябе.

— Ты больш цудоўная і чароўная, чым я ўяўляў цябе, калі вярнуўся да свядомасці, — прашаптаў ён, лашчачы яе позіркам. — Якая спрытная галоўка! Шыя! Якія пакатыя плечы! Якія стромкія і белыя грудзі, вось з гэтымі задзірыстымі смачкамі! Якія круглыя клубы! Гэта ўсё хараство толькі для мяне?

— Толькі для цябе, — яна нібы купалася ў ягоных захапляльных словах, проста і ў той жа час незвычайна радуючыся.

— Зіна, я не магу стрымацца. Штосьці мацней за маю волю...

— І не стрымлівайся, нам трэба пазнацца якраз цяпер...

Ён быў трапятлівы, але далікатны, пяшчотны, намагаючыся не праяўляць буйнасць страсці, не толькі, як той раз, спатоліць сваю пажаднасць. Пазнаўшы пагрозу смерці і цану жыцця, кахаючы яе, ён больш думаў пра яе, і яна адчувала гэта вельмі чуйна, таксама трымцела ад страсці, аддавалася ўсім целам, ведаючы, трапяткія клубы, абласканыя грудзі і спатоленая плоць у парыве маладой старасці, і што сэрца, як ніколі, б'ецца роўна і спакойна ці, лепш сказаць, нячутна. А да ўсяго ёй здавалася, што гэтага Жураўлёва /«Мой залётны птах, журавель!» — шаптала яму ўчора/ ведае ўжо даўным-даўно, нібы на свае вочы бачыла, як ён нялёгка жыў з пакінутай бацькам маці, як падрастаў і добра вучыўся, стаў афіцэрам.

«Зіна! — здзівілася ў бухгалтэрыі яе сяброўка, Алеся. — Ты сёння незвычайная!»

«Я, дзяўчаты, — адказала з усмешкай, — зведала каханне з першага позірку, ноч любові ўсёперамагальнай...»

«З кім?»

«З лётчыкам».

«Ты выходзіш замуж?»

«Выходжу. Наперадзе ў мяне рамантычнае падарожжа ў азіяцкія горы!»

Але пазней здарылася тое, пра што не дый не часамі думала: лётчык прыслаў ёй толькі адну тэлеграму /«Дзякуй за ўсё. Люблю. Навечна твой»/, а потым заціх, не адказаў ні на першы, ні на другі яе ліст. Праз месяц уведала і іншы сюрпрыз: цяжарная. Усвядоміла: калі народзіць, дык, канечне ж, ёй прыйдзецца гадаваць дзіця адной. Мусіць, яна была для таго малойца толькі адной са спакусных, і ён узяў сваё. Можа, ён жанаты ўжо чалавек, мае дзяцей.

Насуперак Алесі /тая: «Журавель лятае высока, а лётчык яшчэ вышэй!../, маці /«Дзеўка, з дзіцем табе будзе цяжэй выйсці замуж!»/ не адчаілася і не засмуцілася: ёй далося тое, з-за чаго яны развяліся з мужам. Ёсць у яго з іншай дзіця, цяпер вось будзе яно і ў яе ад іншага. Яна будзе маці, жанчына як жанчына. Можа, нават і добра, што бацька яе дзіцяці будзе далёкі чалавек, дык яна не хваліла яго, але і не кляла. Хопіць сіл, здароўя і ўсяго іншага, каб падняць сваю крывінку на ногі, а там...

А там, праз месяцы тры, нечаканая тэлеграма ад Жураўлёва: «Ляжу пасля невялікай драпіны ў ташкенцкім шпіталі. Калі кахаеш, прыязджай. Я толькі твой».

Усё перавярнулася ў яе душы: ён — зусім не такі, як яна падумала пра яго ў сваёй сумоце, а, канечне ж, быў у Афганістане і вось там паранены — тады ўжо другі год ішла грамадзянская вайна ў той далёкай краіне і адтуль, як чула і сама бачыла, часта прывозілі труны і з маладымі забітымі мінчукамі...

**3**

Шпіталь яна знайшла хутка.

Але калі ішла пад спякотным, вельмі ж плаўкім і яркім паўднёвым сонцам, бачыла на алеях на лаўках кароткапа- што ёй патрэбен якраз ён, яе «журавель». Міжволі пацёк час, у вушах звінелі чароўныя званочкі, а ў заплюшчаных вачах успыхвалі слепкія маланкі, а калі ён знясілена, з асаблівай пяшчотаю прыпаў да яе грудзей, і ў яе плоці пайшлі-пакаціліся вогненныя хвалі, узгарачаючы і лашчачы ўсё цела, яна адчула тое, чаго не зведвала раней: ужо не толькі плоць, але і душа яе злучаецца з душой гэтага дарагога ёй чалавека...

**4**

Зіна і Міша жывуць цяпер у Мінску, маюць двухпакаёвую кватэру, дваіх дзетак, радыя і шчаслівыя, хоць у іх, як і ва ўсіх, хапае сваіх клопатаў і турбот.

*1993*

## БРОНЯ

### З расказу Кастуся Ю.

...Высакаватае неба лёгка і прыемна імгліць блакітным, крыху падбеленым ад сонца мроівам; зялёны, сям-там з павялым і паджоўклым лісцем альхова-бярозавы прылесак і трохі далейшы хвойнік ціхія, без ніякага шолаху; на парыжэлым, з высокімі зялёнымі купінамі лузе спакойна пасецца статак, а каля яго важна і задуменна стаіць высокі, мабыць, стары бусел; навокал жнівеньская яснасць і цеплыня, што, аднак, ужо на спадзе лета і гэтага залацістага дня, навяваюць шчымлівы неспакой. Як і ластаўкі, якія нечакана амаль вынырнулі аднекуль плоймаю, пакружыліся над лугам і статкам, а затым апалі і паселі ў доўгі шнурочак на блізкім электрычным дроце.

Кастусь /ён тыдзень таму вярнуўся з войска, гасцюе ў бацькоў, а сёння вось, пасля полудня, падмяніў маці і стаў пастухом/, абапёршыся на левай руцэ, сядзіць на адной назе, бачыць усё гэта знаёмае, роднае і не бачыць: ён больш і пільней пазірае на суседку — з ёю цяпер адбывае іхнюю пастухоўскую рату. Яна, Броня, на гадоў сем-восем старэйшая, не сказаць каб красуня пісаная, але багатая на цела і сілу, паглядная маладзіца, пагаманіўшы з ім, нацягнула на вочы белую касынку і зараз спіць, лежачы на спіне на сваёй куртцы. Дык вось ён прагна азірае яе загарэлыя шчокі, поўныя вусны, вузкаваты падбародак, белую пад ім, а далей таксама парудзелую ад сонца шыю і лапік цела ніжэй, дзе за выразам у халаце цесняцца ў бялюткім станіку высокія грудзі, што ўздымаюцца-апускаюцца пры дыханні, а таксама аспакайнелыя на жываце рукі і загарэлыя спрытныя ногі ў мяккіх тапачках. Гэтая Броня /яна прыйшла нявесткай у дом іхняга суседа тады, калі ён, Кастусь, быў яшчэ зусім хлапчук/, здаецца, і раней, да яго службы, і цяпер, пасля яе, мела і мае яго за падлетка: усё з тымі ж жартамі і лёгкімі кпінамі. Праўда, сёння, калі сядзелі і размаўлялі, дык яна, ловячы ягоныя позіркі і нібы бянтэжачыся, прыкрывала далоняй глыбакаваты выраз на грудзіне, абцягвала падол халата на калені, пунсавела, а пасля, нібы ратуючыся ад няёмкасці, папрасіла, каб ён адзін пасачыў за статкам, а ёй дазволіў падрамаць, бо ёй «вечна не хапае сну». Ён, канечне ж, згадзіўся, але не мог адвесці ад яе позірк, і яна, нават сонная, узбуджала яго, пад'юшчвала тое ў ім, з чым ён не мог саўладаць.

Усё больш і больш дваістае пачуццё захліствала ягоную душу: радаснае здзіўленне, узбуджанасць і заадно сорам, што яго так вабіць жаночае цела, змушаючы з кожнай хвілінай часцей біцца сэрца і мацней шугаваць кроў у скроні, што так хочацца працягнуць руку і пагладзіць Броню па маладой назе, павесці яе далей за калена, дзе, як бачыў, белае і туга-поўнае цела. Ад напружання ажно пацямнела ў вачах. Адчуваючы, што, можа, ніколі больш не будзе такіх спрыяльных хвілін, нямеючы, што яго хутка могуць аблаяць, а то і ўдарыць локцем па носе, ён па неадольным мужчынскім поклічы ўрэшце перамог сорам і боязь, апусціў трапяткую руку на Броніна абласканае позіркам калена і павёў яе вышэй ды вышэй, з узрушэннем адчуўшы неўзабаве хвалюючую пяшчотнасць пруткіх сцёгнаў. Броня, хоць спала, усё ж учула штосьці насцярожлівае, уздыхнула, здрыганулася ўсім целам, а рукой абцягнула ніжэй падол халата.

— Броня... — Перарывіста паклікаў ён, нахіліўся над яе тварам і пасунуў касынку ёй на валасы, зусім блізенька бачачы яе вусны, рэдзенькі і светлы пушок над імі, даўгаваты нос і заплюшчана-прымружаныя вочы, ужо з трапяткім хваляваннем адчуваючы водар і цяпло жаночага цела.

Броня нечакана адплюшчыла вочы, у іх, вялікіх, шэра-зеленаватых, поўна ўтрапёнага страху — яна рэзка, нібы ад штуршка спадыспаду, падхапілася, але толькі ад гэтага трапіла ў ягоныя рукі. Тут жа і моўчкі паміж імі ўскінулася ярасная барацьба.

— Ты — што? — здаецца, апамяталася ўжо ад сну яна. — Не трэба! Чуеш ты ці не?

Сорам і боязь не толькі не панiклі, але яшчэ і пабольшалі. Юр — таксама. Ад гэтай барацьбы, ад дотыку цел. Броня нечакана ўчапілася за ягоныя валасы, адцягвае яго ад сябе, ды валасы кароткія, ёй не ўдаецца адпіхнуць — ён неўзабаве ўпершыню ў сваім жыцці здолеў падгарнуць на жанчыне халат да грудзей, змусіў прыпадняць-апусціць яе клубы і разамкнуць надзіва дужыя ногі, суцішыцца і моўчкі, глыбока ў душы заўсклікаў ад таго, што паволі іхнія плоці яднаюцца.

Броня, мабыць, ашаломленая, скораная, зморшчылася і цяжка ці адрачона застагнала — мабыць, ад ягонай нястрыманай рэзкасці, а то і прычыненага ёй болю, моцна самкнула вусны і пакорліва ўжо аддала яму ўладу над сабою ды адкінула ўбок галаву. Ён адчуваў, што робіць усё не так, што яна незадаволеная; каб супакоіць, апраўдаць сябе, а то і зноў жа несвядома, па мужчынскім поклічы цалаваў яе ў пульсуючую шыю, шчаку, але ўжо брала верх не ягоная развага, а цела, плоць: іх нельга было стрымаць, яны палымнелі і быццам нават шалелі. У вачах паволі ўсё больш цямнела, а то і ўвогуле знікаў увесь зямны альбо нябесны свет; у вушах штосьці чароўна зазвінела — не, не рэзка, не балюча, а вельмі прыемна для слыху. Ды вось зусім нечакана яго асляпіла, велізарным снопам агню, ударыла па ім маланка, што ён ажно пранізаўся сыходным агнём, болем. У адчаі, у знямозе ён утуліў голаў Броні ў грудзі і застагнаў, нібы ад гэтага будзе суцішак ад таго невядомага любасна-страшнага, што ён зведаў першы раз, пасля чаго ён з хлапчука павінен стаць мужчынам...

Броня нібы знерухомела, дазваляла яму ўсё, што ён жадае, ды ён пачаў адчуваць, што вяртаецца свядомасць і паўстае неспадзявана нялёгка, што ім час разлучацца целамі, што выйшла ўсё не так, як ён уяўляў, марыў пра гэта / асабліва ў апошнія месяцы ў вайсковай казарме, калі нясцерпна чакаў, калі здолее вырвацца ў цывільнае жыццё і трапіць у яго ўжо дарослым/. Калі ён лёг побач, Броня хуценька абцягнула на ногі халат і прыкрыла рукой вочы.

*(Працяг на стар. 10-11)*

## ПРЫГОЖА, ЯК ... СУВЕНІР



**З маляўнічым сувенірам параўноўваюць гледачы новую прэм'еру Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Тут пастаўлены ўзор колішняй савецкай класікі — аперэта А. Стрэльнікава «Халопка». Бадай, толькі старэйшаму пакаленню публікі помніцца гэты твор — дзякуючы хоць бы мастацкаму фільму «Прыгонная актрыса» з Тамарай Сёмінай у галоўнай ролі. Увогуле ж на слыху, мабыць, некалькі фрагментаў, тыпу застольнай гусарскай песні ды прыпеву «Не выходит песня из ума — хороша ты, матушка-зима!» Ну, а тое, што можна сёння пачуць у нашым тэатры, — сапраўдная прэм'ера, бо ўпершыню музыка «Халопкі» выконваецца без купюраў, паводле ўзноўленага аўтарскага рукапісу. Спектакль атрымаўся маштабны, шматнаселены, працяглы па часе, маляўнічы вонкава. Пра ўсё астатняе паразважаем у нашых будучых публікацыях. Музычны кіраўнік новай пастаноўкі — А. Сасноўскі, рэжысура В. Цюпы, сцэнограф — У. Жданаў. У ролях — Л. Станевіч, А. Ранцанц, У. Пятроў, Г. Казлоў ды іншыя вядучыя артысты тэатра.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## ЗАСТАЛОСЯ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ...



**Ад яго работ сыходзіць цеплыня. Можа, уся справа ў колеры жывапісных палотнаў — карычневым, чырванаватым. Можа, гэта вобразы — чыстыя, жаночыя. Ці ўлюбёна апрацаванае дрэва — твары, поўныя болю, задуменнасці ці суровага пакаяння. Але галоўнае, што ўсё гэта не знешняе, а народжанае душою.**

**Магчыма, праз колькі год Яна Кузьміцкага назавуць другім Шагалам. Але ён так і застанецца шведскім мастаком, эмігрантам, выгнаннікам сваёй радзімы.**

**Нялёгка Яну Кузьміцкаму дасталася цяперашняя слава ды спакой творчасці. Нялітасцівай да яго была бацькаўшчына, да мастацтва ішоў самавукам, а матэрыяльная стабільнасць стала заваёвай толькі апошніх дзесяцігоддзяў. Многія гады ён, дарослы ўжо чалавек і вядомы мастак, насіў у душы крыўду: «Усё было супраць мяне: і людзі, якія ненавідзелі мяне, і мая натура ішла супраць мяне — усё вяло да майго скančэння. Але мая жорсткая прырода не паддалася гэтаму звярынаму глуму, ува мне не змаглі забіць пачуццяў і эмоцыі, не змаглі вырваць усё прыгожае з мае душы — усё, чым надарыў Бог. Гэта засталося ўва мне на ўсё жыццё».**

**Н. Ш.**

*На здымках: На адкрыцці выставы: Ян Кузьміцкі /справа/ і дырэктар Мастацкага музея Юрый Карачун.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Тэатр

# ЦУД СПРЫЧЫНЕНАСЦІ ДА НАДЗЕІ

Спектакль Рускага тэатра Беларусі «Хрыстос і Антыхрыст» летась 24 красавіка быў уключаны ў праграму хрысціянскай вечарыны з выпадку Праваслаўнага Вялікадня; яму папярэднічалі царкоўныя хваласпевы, яны і падрыхтавалі залу... І калі пасля перапынку чорную пустэчу сцэны працяў самотны голас чалавека — хрыпаты, вольны, голас гэты адразу паланіў залу, прыкаваў да сябе ўвагу, змусіў суперажываць. Без спяваючага царэвіча Аляксея і, адпаведна, Аляксея Шэдзькі, яго выканаўцы, гэтага спектакля я не ўяўляю; з ім — не магу забыць.

Мінуў амаль год. Першае памкненне пісаць пра спектакль не спраўдзілася, — столькі ўсяго міма прабягае, нават не ўспомніш: ці то выбары, ці то рэферэндум мусілі адбыцца ў Расіі на другі дзень пасля нашага спектакля, і гэта своеасабліва падсвечвала ўбачанае, бо на сцэне вырашалі тое ж самае: як жыць далей? якім шляхам ісці? Выканаўца ролі царэвіча А. Шэдзька ўзяў запытальную ноту і, як камертонам, настроіў слых гледачоў: грэшны, нізкі чалавек імкнецца да святла, мы — таксама...

Пасля спектакля, перачытваючы вядомы раман Д. Мераджкоўскага, які стаўся грунтам для сцэнічнай інтэрпрэтацыі /аўтары — рэжысёр спектакля Б. Луцэнка і У. Рудаў/, зрабіўся зразумелым і пункт гледжання на Пятра: палову рамана займае дзённік царэвіча, яго сумненні, яго змаганне перадусім з самім сабой, а не з бацькам. У спектаклі гэты дзённік замяніла песня. Тое, што безумоўна расцягнецца ў словах, увабраў у сябе тэмбр голасу, яго хрыпатая прыгажосць. Таму антаганіст і, адначасова, кумір Аляксея — Пётр успрымаўся залай праз любоў царэвіча...

Спектакль, жывучы сваім жыццём, пасасабліваму вылучае цяпер цара Пятра ў выкананні Расціслава Янкоўскага, прыгожага /асабліва ў першых выхадах/, мажнога, буйнога — нават партрэтнае падабенства з арыгіналам можна ўлавіць, — і тэмпераменту не бракуе, і саліднасці — ужо сыграны Кароль-Сонца ў «Мальеры» М. Булгакава. Адчувальны маштаб асобы, а яго не выявіць на пустым месцы...

Аляксей у спектаклі — закаханы, заблытаны з жанчынамі — і жонку, нямецкую прынцэсу Соф'ю губіць, шкадуе, кахае, і шалёную сваю Афроську любіць, штурхаючы ў бездань; такой гібельнасцю павявае ад яго з першага кроку, з першага позірку: жанчыны проста ліпнуць да такіх. Але галоўнае ўсё-такі — яго страх-любоў да бацькі... Праўда, прысутнасць дублёраў, маленькага Аляксея /Ягор Фядотаў/ і маладога Пятра /Аляксандр Суцкавер/ — прыём наіўны, ён даўно сябе зжыў, скампраметаваў, але ён пэўна працуе на агульную рэжысёраву задуму, без яго складаную дынаміку адносін сына і бацькі паказаць амаль немагчыма: як і калі перайшла любоў у процістаянне? Два шляхі перад Расіяй, і кожнае стагоддзе паслядоўна вяртае краіну на тыя самыя ростані-расцяробы: заходнікі і славянафілы, Хрыстос і антыхрыст — шалі вагаў здаюцца ўраўнаважанымі, напружанне спектакля гэтым утрымліваецца — на чыю шалю падкіне аўтар найслушны аргумент? Звернемся да сучасных тлумачальнікаў трылогіі Мераджкоўскага: спецыялісты-міфалагісты знаходзяць у тэксце евангельскія сімвалы, непарыўную еднасць і гранічную роднасць Бацькі і Сына /спашлюся на публікацыю З. Мінца ў «Тартускім зборніку» 1979 года/...

... А на сцэне шалёная стыхія ў каторы раз выйшла з-пад кантролю розуму, здзекуюцца страшныя маскі і не зразумець дзе хто — сябры альбо ворагі, паплечнікі альбо здраднікі? Вось яна, славутая карнавалізацыя паводле Бахціна, старанна прачытанага ўсёй нашай творчай інтэлігенцыяй — і не толькі ў пастаноўках Б. Луцэнкі /а «Джардана Бруна» Картэса ў оперным, дзе цудоўна, маштабна выкананыя маскі апраўдалі не толькі вырашэнне сцэнічнае прасторы, але і поўную адсутнасць дзеяння?/. І ўжо не музыка чутна, а злавесны жалезны скрыгат, набірае сілы бура, гайдае д'ябал арэлі — не бацька і сын насупраць адзін аднаго, а заклятыя ворагі; за кожным нагаворшчыкі, майстры звады, заплечных спраў майстры. Пагібель Аляксея непазбежна, здаецца, ён сам да яе імкнецца, — таму што не дапускае ў душу голасу «Забі бацьку!». Мы ведаем, што адбудзецца, але ўзнікае аднекуль дзіўная, дзівосная надзея: раптам зараз, менавіта сёння на спектаклі адбудзецца цуд, верх возьме міласэрнасць, і забойства не надарыцца... Але тады ўся руская гісторыя паверне ў іншае рэчышча, адно памілаванне зменіць яе хаду.

Мне думаецца, і ўжо даўно, што калі б Мікалай I не пакараў пецярых дзекабрыстаў, то і Мікалай II свайго гібельнага лёсу пазбегнуў бы. Але вось яшчэ больш ранні пункт адліку —



*Сцэна са спектакля.*

спектакль даў магчымасць адчуць, што прысутнасць твая ў зале ў гэты момант для ходу ўсёй далейшай гісторыі ракавая — раптам уратуе? Ці не для такіх хвілін і існуе тэатр, які дае магчымасць адчуць спрычыненасць да таго, што адбываецца? Вось гэтае імгненне выбару, удзелу ў спектаклі каштоўнае! І калі Пётр усё-такі забіў Аляксея, стала так прыкра, так млосна, быццам гэта цябе самога забілі, і бязмерны цяжар наваліўся на сэрца. Як перажыць гэта яшчэ раз — ведаючы?..

Сядзела за машынкай: друкавала рэцэнзію — раптам званок знаёмай дамы, старой жыхаркі Пецярбурга ды старой тэатралкі — і містыка



*Ганна МАЛАНКІНА /Афроська/ і Аляксей ШЭДЗЬКА /царэвіч Аляксей/.*

нейкая! — яна пачынае мне абурана распавядаць, як у Мінску пайшла ў Рускі тэатр з унукам на студзеньскі спектакль «Хрыстос і Антыхрыст», але пасля першай дзеі пакінула залу: агульнаадукацыйнага, асветніцкага ў гэтым спектаклі, бадай, няма, хоць спектакль па рамане — на гістарычную тэму!.. Са свайго боку я адказвала, што здаралася мне трапляць у тэатр на спектаклі сапраўды музейныя, напрыклад, у сямідзесятыя гады ў МХАТе была рэканструявана пастаноўка «Трох сясцёр» — перадваенная, пастаўленая яшчэ Неміровічам-Данчанкам, і спектакль быў надзвычай сумны, без найменшай прыкметы жыцця... Хацела б я вярнуцца і да колішняй лімаўскай рэцэнзіі на гэты спектакль — выдатнай, глыбокай, інтэлектуальнай. Барыс Тух — здымаю капялюш! — піша пра тое, што рэжысёр Барыс Луцэнка паўтарае ў гэтай рабоце свайго «Гамлета»; а варта вярнуцца яшчэ раней, да «Раскіданага гнязда» Купалы ў Нацыянальным Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы: многія прыёмы амаль тыя ж. У

# ДВА АПАВЯДАННІ

(Пачатак на стар. 8-9)

«Яна пакрыўдзілася! — апякла яго ўжо халодная, як лёд, думка. — Я яе абразіў. Але як супакоіць яе, што я не хацеў яе ні пакрыўдзіць, ні абразіць?»

— Ну, што скажаш? — сама падала голас Броня і, як пачулася, яе голас быў зусім не такі, як раней, а чужы, можна сказаць, варожы.

Ён — ні слова.

— Ты ж — сіламожац! Гвалтаўнік! Я магу аддаць цябе пад суд!

Невыносная пакута: няма для яе і для сябе таксама паратавальных ці проста ўдала ці хітра прыдуманых слоў. Яму было не так страшна, што яна яго пасадзіць, як тое, што яна можа яго зненавідзіць.

— Чаго маўчыш? Гавары!

— Выбачай... — Нарэшце прамовіў дрыготкім голасам, адчуваючы, што на вочы нагортваюцца зусім няпрошаныя слёзы. — Я першы раз такое...

Яна тут жа адхінула руку і зірнула на яго ўжо, здаецца, з цікаўнасцю. Ён жа апусціў галаву і затуліў вочы складзенымі ў кулакі рукамі — і каб не плакаць, і каб яна не бачыла, што ён слабкі як мужчына.

— Ты зажадаў жанчыну? — ягоныя вушы чуюць яе ўжо лагодны голас. — Вельмі зажадаў?

Броня ўзяла яго за рукі, адвяла іх ад твару.

— Так?

Ён па-ранейшаму маўчаў, не могучы падняць на яе вачэй. Яна ж сагнутым пальцам выцерла яму слёзы на шчоках, ціха і яшчэ больш лагодней запытала:

— Чаму ж ты не папрасіў? Па-добраму?

— Я саромеўся... — Нарэшце падаў ён голас.

Броня нечакана пацягнула яго да сябе, паклала галаву сабе на грудзі, заласкала яе:

— Ты — і мужчына ўжо, і хлапчук яшчэ...

Затым, праз хвіліну:

— Я хоць падабаюся табе?

Ён хітнуў галавою ў знак згоды.

— Ці, можа, па-твойму, я нават прыгожая?

Ён зноў паўтарыў тое ж.

— Пакахаў? Ну, не маўчы. Будзь мужчынам. Скажы смела і ясна.

— Кахаю.

— І хочаш, каб была я тваёй любай?

— Хачу.

— Завабіў і ты мяне, Кастусёк... — Нечакана прызнаецца яна. — Каб ты не быў мне любы, дык ніколі я не паддалася, як не паддавалася іншым. Я і сілу маю, і не толькі адбівацца, але і добра біцца магу. Ды, кажу, не супраціўлялася вельмі... Не люблю, ледзь толькі цярплю свайго п'яніцу. Жыву з ім найперш з-за дзяцей. Але хачу ласкі, любові, пяшчоты: я ўсё ж жанчына і яшчэ, як бачыш, не старая...

Броня адхінула ягоную галаву, доўга, пільна і з кожным мігам усё цяплей і лагодней пазірала яму ў вочы, нібы хацела адчуць, што ў яго там, у тайніках душы, а пасля павабіла да сябе і сама дала паўраскрытыя вусны. Нават, здаецца, зусім нязмушана паказала, як трэба цалавацца, і ён быў пакорлівы, упершыню адчуваючы адмысловыя слодыч і галавакружэнне.

— Будзеш са мной далікатны, ласка-

афармленні, у арганізацыі сцэнічнай прасторы, але той незабыўны, хвалюючы спектакль быў сутнасцю беларускасці, калі так можна сказаць, і сутнасць была не ў зрэб'і і лапцях: спектакль паводле Мяражкоўскага — рускі па сутнасці, па самой стыхіі, па светаадчуванні. І калі ў **гэтым** самапаўтор рэжысёра, то ён і важны, і каштоўны: і там, і тут быў знойдзены слушны тон, гук. Для нас жа важна, мне здаецца, не тое, наколькі спектакль верны духу рамана, а тое, што аўтар даў магчымасць сёння, паважаючы Дзмітрыя Сяргеевіча Мяражкоўскага, казаць пра самае важнае для нас, і мы яму вельмі за гэта ўдзячны.

Пасля катавання Аляксей крычыць у трызненні: «Божа мой, Божа мой, навошта ты мяне пакінуў», тэкст прашыты адсылкамі да «малення пра чашу»: значэнне таго, што адбываецца, — і ў сцвярджэнні пакорлівасці Сына, і ў адзінай сутнасці Сына і Бацькі. Мяражкоўскі ўвогуле любіць спалучаць неспалучальнае, злучаць незлучальнае, і думае дыхатамічна — у артыкуле пра Лермантава проціпастаўляе яго Пушкіну як начное бачанне — дзённаму, і бачыць ратунак рускай культуры ў сінтэзе, а пакуль /г. зн. да моманту напісання артыкула — 1909 г./ занадта шмат у ім яснага, дзённага, «пакорлівага» Пушкіна і мала дэманічнага Лермантава. А вось у яго ж п'есе «Павел І», памятнай мінскім тэатралам па пастаноўцы Л. Хейфеца, паказанай у час гастроляў Тэатра Савецкай Арміі на сцэне БДТОіБ, канфлікт паміж бацькам і сынам вырашаецца якраз наадварот — бацька забіваецца са згоды сына, — якая тут працуе міфалагема? Магчыма, больш да месца разгледзець падобную канфліктную сітуацыю з пункту гледжання сацыяльнай эталогіі — помніце, у французскім фільме «Мой амерыканскі дзядзечка» праводзіцца аналогія паміж паводзінамі паддоследных пацукоў, якія трапілі ў пастку, і чалавекам у стрэсе? З гэтага пункту гледжання «Хрыстос і Антыхрыст» і «Павел І» даюць два варыянты развязкі непазбежнага супрацьстаяння старога «важака» маладому: каб утрымаць уладу, важак або павінен загрызці маладога саперніка, або быць забітым. /Пры дынастычным наследаванні ўлады непазбежным будзе саперніцтва сына і бацькі — няхай памятаюць пра гэта тыя, хто марыць пра адраджэнне манархіі!/ І Аляксея штурхаюць на гэты шлях, аднак хрысціянін Аляксей перамагае Аляксея царэвіча, прымаючы крыжовыя пакуты. Гэткі фінал і дазваляе ўвесці ў назву спектакля імя Хрыста...

Ёсць у спектаклі адзін шматзначны эпізод, — калі жонка Аляксея Соф'я /Аксана Перавожкіна/ заспела ў яго палюбоўніцу Афроську /Ганна Маланкіна/, але паводзіць сябе незвычайна: не па-бабску, не па-савецку — ці то па-нямецку, ці то як прынцэса, а мо проста як хрысціянка? І Афроська пашкадавала яе, і сама сябе засаромелася... Шкада, што гэтай сцэны няма ў рамане, шкада, што папрокі шаноўнага Барыса Туха абышлі самае разуменне хрысціянскіх учынкаў у спектаклі...

«Хрыстос і Антыхрыст», як мне цяпер уяўляецца, яшчэ ў леташнім красавіку меў прадказальную сілу, і крывавыя падзеі пачатку кастрычніка ў Маскве ў ім можна было ўгадаць — ці не таму спектакль так зачапіў мяне тады і не адпускае. А тым, каго ён раздражняе, мне няма чаго запярэчыць... Значыць, проста глядзім мы на адно, а думаем і адчуваем зусім па-рознаму... І ўдзячнасць да аўтара рамана яднаецца з удзячнасцю да рэжысёра: напісанае ў даўнія скрутныя гады дало магчымасць паставіць і падумаць пра тое, што **цяпер** важней за ўсё, — як песня Аляксея — душа спектакля, душа народа, апошняя — перад пагібеллю — надзея на ўратаванне...

**Любоў ТУРБІНА**

*Фота Уладзіміра КРУКА*

Анонс

# «МАГУТНЫ БОЖА» — СВЯТА ЯДНАННЯ

***Да ліпеня яшчэ далёка, але ў аргкамітэце Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа» гэты месяц ужо распланаваны літаральна па днях. Дый выканаўцы — будучыя ўдзельнікі фестывальных праграм — турбуюцца: ці змогуць яны патрапіць у Магілёў, на якіх умовах.***

Як паведамілі нам з аргкамітэта, у ІІ Міжнародным фестывалі «Магутны Божа» могуць удзельнічаць салісты і ансамблі, хоры і г. д., якія падалі заяўку ў аргкамітэт да 30 красавіка 1994 г. У заяўцы неабходна даць пісьмовую згоду на ўдзел у фэсце, прозвішчы кіраўніка і ўдзельнікаў, паведаміць дату і месца іх нараджэння, дэталёвы хатні або службовы адрас. Трэба таксама паведаміць назвы трох конкурсных твораў, пазначыўшы аўтараў слоў і музыкі. Адначасова з заяўкай удзельнікам фестывалю неабходна выслаць і касету з запісам выступлення калектыву або саліста.

Атрымаўшы заяўку, аргкамітэт вышле ўдзельнікам ноты абавязковага, адзінага для ўсіх калектываў, конкурснага твора. Арганізатары фестывалю будуць рады атрымаць і новыя ідэі, прапановы наконт яго правядзення.

Магілёў пачне прымаць гасцей з 11 ліпеня. Удзельнікаў фестывалю арганізатары забяспечаць гукаўзмацняльнікамі, музычным абсталяваннем, арганам, пры неабходнасці — акампанементам камернага аркестра. Харчаванне ды начлег таксама забяспечваюцца.

Падчас фестывалю адбудзецца т. зв. «Евангелізацыя-2000» пад назваю «Ісус учора, сёння і заўтра». Удзельнікі фестывалю атрымаюць магчымасць выехаць са сваімі праграмамі ў наваколле Магілёва.

З 11 па 13 ліпеня плануюцца рэпетыцыі канцэртаў, адпрацоўка харэаграфіі, рэжысуры, сцэнаграфічнага афармлення. У наступныя дні — ранішнія малітвы ў хрысціянскіх цэрквах /па жаданні/, удзень — выступленні на вуліцах горада і ў навакольных мясцінах, вечарам — конкурсныя канцэрты.

Запланаваны таксама разнастайныя імпрэзы: тэатралізаваныя прадстаўленні, мастацкія выстаўкі, фотавернісажы і да т. п., мяркуецца ладзіць чытанні, дыскусіі на духоўную і рэлігійную тэматыку.

Фестываль «Магутны Божа» адкрыты для новых ідэй, і аргкамітэт прапануе ўсім, хто прачытае гэтую інфармацыю, запрашаць у Магілёў людзей, здатных паказаць на фестывалі свае мастацкія работы: карціны, фатаграфіі, скульптуру, паэтычныя творы на духоўную і рэлігійную тэматыку.

Аргкамітэт шукае спонсараў і рады ўсім, хто жадае дапамагчы ў правядзенні фестывалю матэрыяльна.

Куды звяртацца?

Магілёў, вул. Камсамольская, 4, аргкамітэт фестывалю «Магутны Божа». Тэлефоны: для аргпытанняў і для выканаўцаў акадэмічных твораў — у Магілёве /8-0222/ 25-73-67, 22-19-93. Для аргпытанняў і для маладзёжных выканаўчых калектываў — у Бабруйску /8-02512/ 7-42-41. Прэс-цэнтр у Магілёве: 25-24-77. Факс у Магілёве /з указаннем адраса фестывалю/ — /7-0222/ 22-55-18.

# ВАНДРОЎКА ВЕЧНАГА ЖЫДА

Паводле бельгійскага часопіса «Figeuro» /ён друкуецца на фламандскай мове/, пасля Беларускіх міжнародных фестываляў тэатраў лялек і апошняга мікрафестывалю ў Дотрэхце мінулым летам, тры знаныя ў лялечным свеце асобы вырашылі аб'яднаць свае намаганні: Даміет ван Дальсум /Нідэрланды/, Крыстоф Бахданьскі /Аўстрыя/ і Аляксей Ляляўскі /Беларусь/. Падставаю для іх сумеснае творчае працы зрабілася легенда пра Вечнага Жыда, як вядома, асуджанага на вечнае жыццё, вечныя блуканні й пошукі сэнсу свайго існавання. Трыо лялечнікаў мяркуе спраецыраваць гісторыю Вечнага Жыда на сучаснае жыццё. Паводле бельгійскага часопіса, гісторыя будзе пададзена ў сямі сцэнах, кожная з якіх мае адпаведнасць з днём тыдня. На пляцоўцы мусяць працаваць Даміет і Крыстоф, Аляксей Ляляўскі ажыццяўляе рэжысёрскае вырашэнне спектакля, ім запрошаны для ўдзелу ў праекце і мастак Аляксандр Вахрамееў /бельгійцы падаюць яго як дызайнера/. Музыка таксама мусібыць з Мінска. Рабочая назва спектакля — «Дзень пасля», г. зн., што пасля паўстання з памерлых Вечны Жыд усё яшчэ ў дарозе, у пошуках, у мітрэнгах між самасцвярджэннем і самаразбурэннем: кат ён ці ахвяра? Бельгійцы ставяць пытанне крыху просталінейна, але тлумачаць проста: штораз Вечны Жыд змагаецца з праявамі сілы і тым самым ці не штораз ці сам робіцца ахвяраю, ці стварае гэтую ахвяру сабе.

Спектакль будзе выконвацца на адным узроўні з гледачамі — не на звыклай сцэне, а ў так званым коле: гэты прыём вымагае тэхнічнай бездакорнасці і разнастайнасці лялек.

Дадамо, што ўвесь спектакль будзе пастаўлены за дзесяць дзён, а прэм'ера запланавана на наступны мікрафестываль у чэрвені 1994 года. Дваццаць разоў спектакль маюць намер сыграць у Нідэрландах, а потым гастраляваць з ім па Беларусі ды Аўстрыі.

Напрыканцы часопіс паведамляе, што нават калі група лялечнікаў не прычакае дапамогі ад дзяржавы, субсідыі на спектакль мяркуецца атрымаць ад розных арганізацый.



*Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ на рэпетыцыі.*

*Фота Генадзя СЛАБОДСКАГА*

вы? — пасля запытала шэптам. Нават больш — душою. — Будзеш мяне галубіць, мілаваць? Як самую-самую прыгожую, добрую, жаданую і дарагую табе?

— Буду.

— Але я патрабавальная. Калі ўлюблюся як след, дык запатрабую і ад цябе ўлюбіцца як след. Насуперак усім. Майму апівошу, яго і тваім бацькам, нават насуперак усёй вёсцы. Я змушу цябе хадзіць за мной ценем, нікога іншага не бачыць. Можа, нават ажаню на сабе. Не баішся?

— Не.

— Я люблю мілавацца. Ты толькі расцвяліў мяне, дык цяпер пяшчотна паласкай, скажы мне чароўнае слова. І не адно, — гаварыла і сама пяшчосціла яго галаву, шыю, плечы, сама паказала, дзе і што рабіць ягонай руцэ. — Ну, кажы мне, любы, чароўнае слова!

— Якое? — асмялела здзівіўся ён, сціскаючы далоняй яе белыя тугія грудзі.

— Няўжо ні адной дзяўчыне яго яшчэ не гаварыў?

— Не.

— Нікога не любіў?

— Не.

— А мяне любіш?

— Люблю.

— Дык і кажы, не, адмыслова, хораша шапчы пра гэта! Ласкай, пяшчоць і шапчы, каб я забылася пра ўсё на свеце, каб хацела быць толькі тваёй і каб я адкрылася табе ўся. І целам, і душой.

— Люблю... Моцна, хораша... Усёй душою... — Шаптаў ён, адчуваючы, што ўжо не толькі шугае яму кроў у скроні, але палымнее, усё больш трымціць і яна, а пасля прыпадае да ягоных вуснаў, моцна і ўтрапёна цалуе, ціхенька і нібы жаласна альбо адчайна войкае і ахкае, звіваецца ўсім целам, становячыся зусім безразважлівай, а калі безразважлівасць пачынае агортваць і яго, Броня ўладарна вабіць, і яны несвядома, але разам з тым па магутным поклічы зноў пазнаюць адно аднаго.

Хоць Кастусь да сённяшняга дня не ведаў вось так блізка жанчын, але цяпер неяк ці мімволі па мужчынскай здагадцы адчуў, што цяпер Броня не проста яго, але адкрылася яму ўся, па-сапраўднаму жадае якраз яго, дык ён павінен быць асцярожным, пяшчотным, даваць моц не юру і сіле, а летуценнасці. Броня нічога не прамаўляе, маўчыць — не, не зусім так, яна не маўчыць, яна цалуе, звіваецца, жаліцца, адчаіцца, выдыхвае іначай, і гэтае інакшае без слоў проста паказвае, што ён ёй любы, жаданы, што яна радасная, шчаслівая, разам з ім спявае дзівосную і чароўную песню закаханых, і што гэтая песня магутнейшая за ўсякі разважлівы і мудры гімн...

...Гадоў пятнаццаць таму гэта было. Праўда, не доўга, усяго некалькі месяцаў, пакуль не ўведалі пра гэта ў вёсцы. І ў Броніным, і ў Кастусёвым доме ўскіпелі разлад і вайна; выяўленыя Броніным дамагацелем і агалошаныя па ўсёй вёсцы жаночымі шэптамі, яны сказалі ў сваіх сем'ях: мы кахаем адно аднаго, калі вы лічыце, што мы грэшнікі, дык мы гэты грэх змыем тым, што мы пажэнімся.

Але іх разлучылі — не так Бронін муж, які больш поўзаў і плёўся адзічэлы каля платоў, чым хадзіў і свядома думаў і гаварыў, не так ягоныя даволі прыстойныя бацькі, як Кастусёвы маці і бацька, паўстаўшы сцяной супраць таго, каб ён, хлопец, «раскідваў чужую сям'ю і сіраціў дзяцей, якія маюць бацькоў».

Кастусь, хоць і кахаў Броню шчыра і самааддана, не пераламаў на сваё. Скарыўся ад таго, што, як казалі бацькі, Броня і муж паміраюцца, будуць разам гадаваць сваіх сына і дачку, пакінуў вёску, Броню і з'ехаў у горад.

Броня час ад часу вырывалася і прыязджала да яго; у пакоі, дзе ён кватараваў, плакала, што «цяпер ёй нямілы ўвесь свет і не хочацца жыць»; ён глыбока разумеў, што вінаваты перад ёю, без яго яна жыла б усё ж лягчэй, супакойваў, прасіў даравалць яму, але не зрабіў таго, пра што шаптаў ёй у хвіліны апаламлянага любоўнага шалу. Бедная, Броня супакойвала яго: «Такая ўжо наша доля...»

Паволі, месяц за месяцам, яны сустракаліся ўсё менш і менш, а пасля перасталі бачыцца ўвогуле. Ён ажаніўся; Броня, як яму расказвалі, нейкі час пахадзіла наўмысна вясёлая, на мяжы нейкага дзіўнага ці лепш сказаць нездаровага смеху, а пасля пачала піць, а п'янай змянялася, была грубая, лаялася альбо плакала... Летась яна памерла ад раку...

Кастусь жыве, жонка і два сыны здаровыя, дагледжаныя, задаволеныя ім, але ён не можа не ўспомніць і не падакараць сябе за тое, як павёўся тады, калі высакаватае неба лёгка і прыемна імгліла блакітным, крыху падбеленым ад сонца мроівам, калі лес быў ціхі, зялёнападжоўчаны, калі пасвіўся статак, а каля яго думаў свае думы стары бусел, калі было ясна і цёпла, а ён, хлапчук-мужчына, са здзіўленнем, з радасцю, з хваляваннем і пажаднасцю пазіраў на маладую і вабную маладзіцу, якая не проста побач спала, а хораша і велічна ляжала на зямлі, выпраменьваючы здароўе, сілу і красу...

*1993*

## І ПРЭМ'ЕРЫ СУПАЛІ...



**Прэм'ера 8 лютага ў Інсбрукскім драматычным тэатры /Аўстрыя/ супала для рэжысёра Рыда Таліпава з прэм'ераю Беларускага тэлебачання: калі ўсхваляваная аўстрыйская публіка вітала пастаноўку Мрожкава «Стрыптызу», беларускія гледачы мелі магчымасць пераканацца ў поспеху ўвасобленага Рыдам «Кантрабаса» П. Зускінда на леташнім фестывалі ў Карлсруэ /Германія/ і падзяліць уражанні выканаўцаў Віктара Манаева ды Таццяны Яршовай /здымкі ажыццяўлялі Уладзімір Траццякоў і Мая Гарэцкая/. Трэба заўважыць, што інсбрукская прэм'ера вось ужо два тыдні не знікае са старонак тамтэйшых выданняў; з публікацый, перададзеных рэжысёру, можна, бадай, працытаваць наступнае: «Маладая і незнаёмая нам рэспубліка Беларусь — радзіма новага тэатральнага кірунку»: «Праз цемрадзь будзённасці — да святла вызвалення»: «Спектакль прадстаўляе самыя патаемныя перажыванні чалавека»; «Дзейсная сцэнаграфія з дзвярыма, якім наканавана таньчыць, дзейсная музыка, што прадстаўляе змаганне жыцця і смерці, святло, якое перамагае цемру, як у палотнах Рэмбранта, і бліскучая гульня зорак аўстрыйскай сцэны Аляксандры Крысмер і Клеменса Аўфдэклана робяць спектакль падзеяй...» /газеты «Цірольшопінг», «Кур'ер», «Аўстрыйскі штотыднёвік»/. Трэба дадаць, што Рыд Таліпаў не капіруе сваю колішнюю мінскую пастаноўку, — ідэя ды задума, натуральна, набываюць развіццё, але ў прынцыпе ён не адыходзіць ад напрацаванага на беларускай сцэне, хоць ролю злавеснай Рукі /лёсу, наканавання, прысуду і да т.п./, якая кіруе дзеяннямі двух людзей на пляцоўцы, вылучае ў самастойную /яе выконвае Норбер Аўэр/.**

*На здымку: Віктар МАНАЕЎ у спектаклі «Кантрабас» П. Зускінда. Дыхтоўная, адметная праца...*

*Фота Уладзіміра ПАНАДЫ*

## ЭРАТЫЧНА-ПСІХАДЭЛІЧНЫ

**За пяць гадоў існавання «Ксэракс беларускі» прайшоў эвалюцыю ад падпольнай адраджэнскай брашуры да андэграунднага літаратурнага альманаха. А летась выданне нарэшце атрымала трывалы грунт — апекавацца ім пачало Таварыства вольных літаратараў.**

**На пачатку студзеня ў Полацку выйшаў у свет пяты нумар альманаха. Пасля таго, як ТВЛ заснавала свой часопіс «Калоссе», функцыі «Ксэракса беларускага» канчаткова акрэсліліся — ён стаў пляцоўкай для літаратурнага пошуку і эксперыменту. Гэта дазволіла рабіць нумары больш цэласнымі, тэматычнымі. Пяты нумар атрымаўся эратычна-псіхадэлічным. Дастаткова пачытаць творы Сержука Сокалава-Воюша, Ігара Сідарука, Сяргея Патаранскага, Вінцэся Мудрова, Алеся Аркуша, Сяргея Шыдлоўскага, Славаміра Адамовіча і Сяргея Мінскевіча, каб упэўніцца ў гэтым. Вокладку для альманаха намаляваў пяцігадовы «мастак-авангардыст» Антон Козік.**

**А. К.**

## ДОН КІХОТА... ПРЭМІЯВАЛІ

**Інфармацыя, змешчаная ў расійскай газеце «Культура», усцешвае і вымушае задумацца. Аказваецца, сярод лепшых расійскіх журналістаў, адзначаных прэміямі іх творчага саюза за публікацыі мінулага года, апынулася загадчыца аддзела музыкі «Культуры» Н. Шчадрына. Калектыў рэдакцыі радуецца не толькі за калегу, чые талент і намаганні ацэнены паводле заслуг. Радуецца яшчэ і — цытуем — «за тых нямногіх «профі», за донкіхотаў пяра, якія ў цяперашні дзелавы час прысвячаюць свае радкі не палітыцы ды бізнесу, а вечным музам». Вось так...**

Віншуем!

# З ДОБРЫМ СЭРЦАМ

## Рыгору ШКРАБУ — 75



«... Пазнаю сябе вунь у тым хлапчуку, што ідзе з маці па вузкай сцежцы сярод жыта. У маці на плячы серп, у адной руцэ гаршчок у трапачках, а другою цягне за руку мяне. Навокал жыве і віруе заліты сонцам свет, на ўсе лады звоняць конікі, гудуць на ўзмежках чмялі, спяшаюцца з узяткам пчолы.

У памяці многа такіх малюнкаў. Кожная пара года мела свае адметныя, тыпова вясковыя рысы. Вясна гудзела снегавымі водамі. На вуліцы ўтваралася сапраўднае возера, ну проста хоць пускай човен...»

Не магу адолець спакусы цытаваць і цытаваць далей.

Ну, сапраўды ж. Хіба не меў маральнага права аўтар вышэйпрацытаванага тэксту, які так многа помніць і мае такі відавочны літаратурны талент, услед за сваімі блізкімі землякамі Максімам Лужаніным, Аркадзем Чарнышэвічам, Аляксеем Кулакоўскім пісаць сапраўдную прозу — перажыта ж за адносна доўгае жыццё столькі, што хапіла б не на адзін раман.

Колькі іх, аўтараў нашых бясконцых, неадольна доўгіх дылогій, трылогій і г. д., «перакананыя» /можа, нават і шчыра/, што крытыкаю «займаецца» той, хто на іншае не здольны...

Што ж, бывала і сярод нас такое.

Але дазвольце працытаваць яшчэ:

«Стаяла залатая восень. Дарослыя ўзялі мяне з сабою ў лес па грыбы. Я павінен быў сядзець на возе і час ад часу падаваць голас, каб грыбнікі вельмі далёка не адыходзілі. Едучы дадому, мне далі лейцы кіраваць канём. На драўляным мосціку ля вёскі воз падскочыў і мне паказалася, што ў левую нагу як бы кальнула. Назаўтра нага ў забарсні зачырванелася і распухла. Потым прыкінулася гарачка. Што толькі ні рабілі — і шаптуны лячылі, і націралі рознымі лекамі, і ў раён вазілі да доктара, нічога не памагло. Нагу падкорчыла, пачаўся нечалавечы боль. Толькі лёг зазімак, мяне павезлі ў Слуцак.

У той жа вечар я ачнуўся ад каменнага сну пад хлараформам на руках у медсястры. Першае, што мяне ўразіла, нага была прамая і вельмі прыгожая ў бінтах — беленькая-беленькая, як лялька. Калі трохі паджыла, я падымаў высока-высока і паказваў усім з радасцю. Каб я гэтага не рабіў, да нагі прывязалі мяшочак з пяском».

Ужо гэты невялікі ўрывак з аўтабіяграфіі Рыгора Шкрабы, якая пісалася праз сорак гадоў і якое за дзесяць гадоў напісалася нейкіх там шаснаццаць староначак ледзь не за сем гадоў /1965—1972/, сведчыць, што меў гэты чалавек маральнае права даводзіць увесь час таварышам па пяры, што ж гэта ўсё — такое — гэтыя мудрагелістыя «характар, стыль, дэталь» у мастацкай творчасці.

«Калі б мяне папыталі, чаму я стаў крытыкам, то мне цяжка было б адказаць на гэтае пытанне. Мабыць, адбылося гэта не стыхійна, але не магу сказаць, што я свядома рыхтаваў сябе да гэтай прафесіі», — заяўляе ён у тых жа сваіх аўтабіяграфічных нататках «Людзі на дарогах».

А тым часам дзесяцігодку ён закончыў з пахвальнаю граматаю і ў 1939 годзе паступае на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кожны дзень з раніцы да вечара ён — на лекцыях, а пасля ў чытальнай зале Ленінскай бібліятэкі. Нават вайна застала яго ў чытальнай зале...

З такою нагою пешкам дайшоў аж да Магілёва. А што ўжо далей было...

У 1944 годзе вярнуўся ў Мінск. У 1946 — скончыў БДУ.

Вучобу ва універсітэце спалучаў з працай літаратурным кансультантам у газеце «Звязда». Адзінаццаць гадоў /1946—1957/ працаваў у «Літаратуры і мастацтве», дваццаць два гады /1957—1979/ — у «Полымі».

Колькі кніг можна было выпусціць у свет за гэтыя дзесяткі гадоў. Выйшла ж у свет толькі чатыры: «Сіла слова» /1958/, «Характар. Стыль. Дэталь» /1965/, «Літаратура і мова» /1969/, «Энергія слова» /1988/. /У 1973 годзе выйшла кніга выбранага «Скарбы», а ў 1989 годзе — «Моваю вобразаў»/. У 1987 годзе сумесна з дачкою Ірынай выпусціў у свет кнігу беларускіх прыказак і прымавак «Крынічнае слова» — гэта была першая спроба даць тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак, скарыстаных у мастацкіх творах.

Што ж, сапраўды, кажучы словамі Д. Бугаёва «ў колькасных адносінах — гэта, зразумела, зусім небагата».

Але ж Рыгора Шкрабу ведаюць, бадай, як нікога ў гісторыі нашае крытыкі і літаратуразнаўстве, многія і многія тысячы тых, хто пасля 1972 года скончыў дзесяцігодку. Менавіта ў той год яму была прысуджана першая прэмія на рэспубліканскім конкурсе школьных падручнікаў па беларускай літаратуры для дзевятага і дзесятага класаў /а ў 1978 годзе ён стаў заслужаным работнікам культуры Беларускай ССР/.

На маім рэдакцыйным стале ляжыць адзінаццатае, дапрацаванае і дапоўненае выданне падручніка для 10-га класа. Ужо цяпер магу заявіць як шчырым прыхільнікам — а іх жа большасць, так і яго нядобразычліўцам: на многіх старонках дапрацоўка вельмі сур'ёзная, вартая самых шчырых слоў нашае ўдзячнасці. Якім, скажам, трагічна-велічным паўстане перад сучасным дзесяцікласнікам Янка Купала. Ды і пра многае іншае пры нагодзе будзе што сказаць. Хоць мне здаецца, што дзе-нідзе аўтар падручніка не тое, што перапужаўся, а як бы стаміўся ад палемікі з некаторымі нашымі «адраджэнцамі» і «перабудоўшчыкамі». Магчыма, як адказны за выпуск, у нечым і я змагу «аказаць маральную падтрымку», хоць нічога навязваць я не буду.

Што ўжо што, а школа рэдагавання Рыгора Шкрабы, на якую ён аддаў самую большую частку свайго жыцця, памагла мне як ніякая іншая. /А ці толькі ж мне?/.

Вось ужо і чвэрць веку прайшло з таго дня, як у 1969 годзе, у свае 33 гады нідзе не апублікаваўшы ніводнага радка, менавіта ў «Полымя» па настойлівай просьбе Юльяна Сяргеевіча Пшыркова я панёс сваю рэцэнзію на кнігу Фёдара Куляшова «Іван Мележ» /1968/. Прачытаная і ўхваленая Уладзімірам Дамашэвічам, яна легла на стол Рыгора Васільевіча і адразу была пастаўлена ў чарговы нумар. Потым пайшлі рэцэнзіі, артыкулы і ледзь не ўсе — у «Полымя». Ажно на цэлую кнігу ў 12 аркушаў назбіралася.

А колькі ж нас такіх, да чыйго лёсу ён непасрэдна дачыніўся...

Ён не ўсёдаравальны. Перачытваю гэтымі днямі яго кнігі і не раз чытаю: «Хочацца праспрачацца...»

Якія, аднак, гэта вартыя перайманне спрэчкі — карэктныя, паважлівыя, доказныя ў пераважнай сваёй большасці.

Што ж. Бывае. Усё-такі хочацца даспрачацца з ім за іншых. Мала таго. Перачытваю яго «Сілу слова» /1958/ і не магу часам, хай сабе і дабрадушна, не ўсміхнуцца — сіла слова, бывала, трацілася не на тое, на што б цяпер хацелася.

Але яму ніякай патрэбы і цяпер ірваць на сваёй галаве апошнія валасы і публічна каяцца, як гэта робяць некаторыя нашы «гулагаўцы», што яшчэ ўчора так пранізліва-шчымліва, з трапятаннем усяе душы, аж да самазабыцця славілі ўсё тое, што цяпер з такім балючым енкам а то і з невыносным лямантам бэсцяць. Як не трэба, скажам, адхрышчвацца /што ён, дзякаваць Богу, ніколі, думаю, не будзе рабіць/ і ад сваёй першай кніжачкі, складальнікам якое ён быў — «Пад сцягам Кастрычніка. Творы для мастацкага чытання» /1957/. /Першыя артыкулы і рэцэнзіі надрукаваў яшчэ ў 1940 годзе/.

Там было тое, што тады трэба было. Але ж быў літаратурны густ, быў талковы адбор, былі творы, якія назаўжды застануцца ў нашай літаратуры.

... Жывём мы побач, праз адзін прыпынак, а бачымся рэдка апошнім часам. Не можам пры сустрэчы нагаварыцца. Як шкада, што нам, асабліва яму, цяпер недаступная наша незабыўная «Іслач», якая ўжо будзе не Домам творчасці, а санаторыем-прафілакторыем з неверагодным для нашага брата коштам.

Што нас яднае? Ды тое, што Рыгор Васільевіч неяк публічна выказаў: «Не разумею, як гэта можна маўчаць, калі пісьменніка напаткаў поспех і стрымгалоў кідацца на яго, калі спасцігла няўдача?»

Неяк так сталася, што ён падпісаў мне толькі адну кніжку — «Крынічнае слова»: «Генадзю Шупеньку — з добрым сэрцам».

Хай жа Бог дае, каб яму надоўга яшчэ хапіла мужнасці і мудрасці пры любых абставінах заставацца з добрым сэрцам.

**Генадзь ШУПЕНЬКА**

## Міхасю КЛЕБАНОВІЧУ — 60



Часам бывае дастаткова аднаго твора, каб пра пісьменніка загаварылі. Менавіта так сталася з Міхасём Клебановічам пасля таго, як ён напісаў аповесць «Іван Аляксеевіч» /1980/. Вельмі ўдаўся аўтару вобраз галоўнага героя, звычайнага вясковага настаўніка, пра якога ён расказаў з тонкім, па-сялянску дасціпным, гумарам. Ёсць у аповесці рэтраспекцыі, ёсць успаміны, самае ж галоўнае — ёсць у ёй жыццё, лёгка ўгадваецца сама атмасфера пасляваеннага часу.

Аповесць «Іван Аляксеевіч» сваёй новай назвай «Ранішняе сонца» дала назву і кнізе прозы М. Клебановіча, што выйшла ў 1981 годзе. І лепшыя апавяданні пісьменніка, як і аповесць, прываблівають гэтай самай непрыдуманасцю жыцця, уражваюць назіральнасцю аўтара.

Міхась Клебановіч — родам са Случчыны, нарадзіўся ў вёсцы Грэск. У 1957 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Акрамя прозы, піша сцэнарыі. Дзякуючы М. Клебановічу выйшлі дакументальныя фільмы «Вясёлка над полем», «Размова пра зямлю», «Салдаты Перамогі» і іншыя.

Віншуем Міхася Іванавіча з 60-годдзем! Няхай і надалей яму хораша пішацца!

## «УСЕ МЫ ПРЫНАЛЕЖЫМ ЕЎРОПЕ...»

*(Пачатак на стар. 5)*

**лыя грамадзяне Польшчы, што жадалі выехаць з СССР, атрымлівалі такую магчымасць. У выніку і многія беларусы, ратуючыся ад сталінскіх эканамічных эксперыментаў і палітычных рэпрэсій, з'ехалі ў Польшчу і былі паселены на землях, каторыя палякі называюць «земі адзысканы»; землі, якія ў свой час былі пад усходняй Германіяй, а цяпер сталі заходняй Польшчай. На сённяшні дзень на мяжы з Германіяй на тэрыторыі Польшчы жывуць нашы суайчыннікі. Нас цікавіць думка нямецкага боку, як можна паспрыяць на гэтых землях адраджэнню колішніх культурных традыцый і ў той жа час улічваць інтарэсы прышлага насельніцтва, якое паспела пусціць там карані.**

— Як захаваць самабытнасць польскіх грамадзян беларускага паходжання і нямецкія традыцыі на тэрыторыі заходніх польскіх абласцей, я не ведаю. Я ж акрэдытаваны ў Мінску, а не ў Варшаве. Я думаю, што жыццё знойдзе адказы на многія пытанні, магчыма, не так, як мы сабе ўяўляем. Каб гісторыя скончылася, які сумным быў бы свет.

**— І апошняе. Скажыце, на які нямецкі горад падобны Мінск, калі ўвогуле падобны?**

— Калі гаварыць пра вонкавае аблічча, такога няма. Цэнтр Мінска, пабудаваны ў 50-я гады, перыядычна змяняўся, чаргаваліся архітэктурныя стылі будынкаў. Я не магу назваць ніводнага горада, з якім можна было б параўнаць Мінск. Я б сказаў так, мы не маем аналагічнага горада, дзе цэнтральная частка была ўзведзена пасля вайны цалкам у новым стылі. Але можна разглядаць Мінск і з пункту гледжання духоўнага і культурнага жыцця. У гэтым сэнсе Мінск можна параўнаць з многімі гарадамі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Возьмем, напрыклад, балет — як галіну мастацтва. Тут Мінск выглядае надзвычай хораша.

Увогуле, я хачу бліжэй пазнаёміцца з рэспублікай, з гарадамі, але пакуль што на гэта ў мяне не хапала часу.

**— Дзякуй, спадар пасол, за гутарку.**

***Шчымлівы ўспамін далёкага маленства...***

***Заплаканы і пакрыўджаны, я прыбег з выгана, дзе з сябрамі гуляў у пікара, уткнуўся ў матулін падол:***

***— Мама, чаму дзеці абзываюць мяне амерыканцам?***

***— Бо твой дзед некалі жыў у Амерыцы, — спакойна і ласкава адказала мама.***

***— Дык гэта не мянушка?***

***— Не, — яе пяшчотная ўсмешка ўміг растапіла маю дзіцячую крыўду.***

***Жыццё дзеда ўвайшло ў маю свядомасць таямнічым і прыгожым міфам. Яшчэ ў школе я пачаў шукаць матэрыялы пра яго амерыканскую адысею. На жаль, ніякіх дакументаў у сямейным архіве не засталося. Дапамаглі ўспаміны бацькоў, дзядзькоў і цётак, вяскоўцаў. Па крупінках я аднаўляў вобраз дзеда, вяртаў з небыцця казку дзіцячых гадоў...***

Леанід ПРАНЧАК

# ТАМ Я НЕ АДЧУВАЎ СЯБЕ ЭМІГРАНТАМ...

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ЦЫКЛА МАТЭРЫЯЛАЎ «БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ», НАДРУКАВАНЫХ У 1992-93 ГГ. У «ЛІМЕ»

Дзед Язэп нарадзіўся ў Пранчаках у 1888 годзе. Раптоўна захварэў і памёр яго бацька — Пранцішак Пранчак, пакінуўшы ў смутку жонку і пяцёра малых дзяцей. Холадна і галадна жылося без бацькі, нават хлеб не кожны дзень гасцяваў на асірацелым стале. Беспрасветная галеча чакала ў будучыні дзяцей Пранцішка. Гэта разумеў старэйшы — Язэп. Ад шматлікіх агентаў, якія шасталі па навакольных вёсках і ўгаворвалі беззямельных сялян падацца на пошукі шчасця за акіян, ён даведаўся пра Амерыку. Бабуля Ганна прадала каня, карову, залезла ў даўгі, але сабрала неабходныя для падарожжа грошы і купіла сыну білет на параход. У 1909 годзе ён пакінуў Пранчакі і выехаў у Лібаву, каб адтуль дабрацца да жаданага Нью-Йорка...

Магу толькі здагадвацца аб думках і пачуццях, з якімі мой будучы дзед выправіўся ў далёкую вандроўку. Дасюль ён не быў нідзе далей Ведзьмы — суседняй вёскі і Снова — бліжэйшага ад дому кірмашу. А тут такая далячынь, новыя людзі!.. Ды ўсё гэта нішто ў параўнанні з тым, што ў Пранчаках, акрамя родных, ён пакінуў сваю нявесту — дзевятнаццацігадовую Ганну Бяльмач. Яны збіраліся ехаць разам, але бацькі не пусцілі Ганну, і яна засталася чакаць Язэпа...

Параход з Лібавы да Нью-Йорка ішоў амаль месяц. Каюты 3 класа без ніякіх выгод, і марское падарожжа было сапраўднай пакутай, асабліва калі параход трапляў у шторм. Шмат нечаканасцяў і небяспечных прыгод падпільноўвала новых эмігрантаў на шляху да доўгачаканага амерыканскага берага. Нездарма ж у 1912 годзе таварыства апекі над эмігрантамі ў Вільні выдрукавала спецыяльныя парады для эмігрантаў, якія едуць у Амерыку: «У часе падарожжа морам трэба акуратна пільнавацца карабельных парадкаў, не піць лішне спіртных напіткаў, асцерагацца ўсякіх сварак і спрэчак з таварышамі падарожжа або службай карабельнай... Большыя грошы лепей за ўсё аддаваць на схову капітану карабля ў запячатаным канверце... Хто ўмее чытаць — замест таго, каб маркоціцца і пазяхаць цэлымі днямі, — няхай лепей вучыць мову таго краю, у каторы едзе...»

Па прыездзе ў Амерыку кожны эмігрант павінен быў прайсці шэраг фармальнасцей і атрымаць дазвол на жыхарства. Па ўсім бачна, ніякіх праблем з гэтым у дзеда не было, і ён хутка ўладкаваўся і знайшоў працу. Якраз набліжалася жніво, і мясцовы фермер наняў дзесятак беларускіх хлапцоў для працы ў полі. Кантракт быў часовы, праца — цяжкая, заробкі — малыя. Але іх хапіла, каб на першым часе стаць на ногі. Дзед перабраўся ў Нью-Йорк, стаў працаваць на будаўніцтве, а ў час жніва адпраўляўся на заробкі да знаёмага фермера. Ён ашчаджаў кожны долар, каб пераслаць іх Ганне на дарогу. Язэп марыў аб тым дні, калі нявеста прыедзе да яго і яны зажывуць разам. Вобраз каханай асвятляў яго самотныя дні. Зрэдку з Пранчакоў прыходзілі пісьмы. Ганна ўсё настойлівей клікала яго назад. І на пятым годзе свайго эміграцтва Язэп, стомлены доўгім расстаннем і журбой па каханай, кідае новы свет і вяртаецца ў Пранчакі. «Прыехаў ажаніцца», — сказаў ён маці. І на Пятра Ганна стала яго жонкай. Маладыя пачалі збірацца ў далёкую зваротную дарогу. Але нейкі злы рок праследаваў Язэпа. За некалькі дзён да ад'езду грымнула вайна, яна перакрэсліла ўсе мары: Язэпа мабілізавалі ў царскую армію і ён апынуўся на фронце. Што ж, чалавек — раб абставін. Дзедаў лёс — яшчэ адно пацвярджэнне гэтай простай ісціны. Дзякуй Богу, ён застаўся жывы і непакалечаны. Не думаю, што ён разбіраўся ў тых эпахальных патрасеннях, якія перажывала тады Расія. Пасля багатай Амерыкі тутэйшае жыццё можна было параўнаць хіба што з пеклам. Але самае страшнае было наперадзе...

Калі дзед вярнуўся з вайны, беды адна за адной, як з дзіравага меха, пасыпаліся на яго галаву. Грошы, адкладзеныя ім на дарогу ў зямельным банку, прапалі разам з расейскім самадзяржаўем падчас Лютаўскай рэвалюцыі. Пранчакі, знаходзячыся за некалькі вёрст ад лініі расейска-германскага фронту, тройчы пераходзілі з рук адных акупантаў да другіх: зімой 1918 года вёску занялі салдаты кайзераўскай Германіі, вясной таго ж года іх выбілі саветы, а праз два гады Пранчакі апынуліся пад Польшчай...

Нейкі час Язэп лічыў сваё жыццё скончаным. Больш за чатыры гады катаржнай працы за акіянам прапалі дарам. Ні пра якую Амерыку цяпер не магло быць і размовы. Трэба было думаць, як выжыць, як пракарміць сям'ю. Дзед дастаў з куфра адзін з двух шыкоўных касцюмаў, што прывёз з Амерыкі, загарнуў яго ў палатно і панёс у Клецак на базар. Касцюм быў, відаць, сапраўды шыкоўны, бо нейкі польскі шляхціц даў за яго вялікія грошы. Выручаных злотых хапіла, каб набыць дзве дзесяціны зямлі. Дзед атрымаў купчую і заплакаў — ці то ад радасці, ці то ад гора... «Амерыканец асцепяніўся», — сказалі ў вёсцы. Пакуль ён узбіўся на жыццё, паставіў свой дом, завёў гаспадарку, — як гарох пасыпаліся дзеці. Усё было б нядрэнна, каб не настальгія па Амерыцы. Дзед сумаваў. Мог сесці ля акна і гадзінамі глядзець на дарогу. На святы ля Язэпавай хаты збіраліся мужчыны, курылі тытунь і слухалі дзедавы байкі пра заморскае жыццё. Свае ўспаміны ён канчаў адной і той жа фразай: «Я там ніколі голай вады не напіўся...» Што гэта значыла, мала хто ведаў. Але фраза тая пайшла, як кажуць, у народ, і цяпер, бывае, бацька жартуе пры народзе: «Ты, як дзед, голай вады не п'еш...»

У Язэпа і Ганны нарадзілася сямёра дзяцей. Старэйшы, Янка — мой бацька. Калі ён падрос, дзед з бабуляй і вырашылі, каб хоць неяк паправіць фінансавае становішча сям'і, паслаць яго на заробкі за акіян. «Мо хоць ты выб'ешся ў людзі», — казаў Язэп сыну. «Я думаў, што так яно і будзе, — успамінаў бацька, — бо Амерыка была ці не адзіным шанцам вырвацца з вечнай нястачы».

Але чалавек мяркуе, а Бог робіць. Дзедавым марам зноў не суджана было збыцца. 1 верасня пачалася новая сусветная вайна, і ў яе пекла цяпер трапіў мой бацька. У складзе Войска Польскага 78-ы Слуцкі пяхотны полк, у якім ён служыў, адбіваў наступленне немцаў пад Мулавай, бараніў Варшаву... Пасля капітуляцыі Польшчы бацька трапіў у палон і толькі дзякуючы Міжнароднаму Чырвонаму Крыжу вырваўся адтуль і вярнуўся ў Пранчакі. Там ужо гаспадарылі саветы. І для яго Амерыка засталася нязбытнай марай, ён паўтарыў лёс свайго бацькі.

Менш чым праз два гады пажар вайны перакінуўся і на Беларусь. У вёску прыйшлі немцы. Язэп цяжка перажываў акупацыю, турбаваўся за лёс дарослых дзяцей, баяўся, каб, крый Бог, не ўлезлі ў якую палітыку. «Мо нам так не шанцуе, што душа мая жыве не тут, а ў Нью-Йорку. Мусіць, я хутка памру...» Прадчуванне не падманула яго: неўзабаве ён прастудзіўся і злёг. У 1945 годзе яго не стала. Пражыў дзед усяго 57 гадоў.

Хавалі яго ў шыкоўным амерыканскім касцюме, які ён прывёз яшчэ ў 1914 годзе і хаваў сабе на смерць. З сабой дзед забраў і тугу па Амерыцы. Адзіны амерыканскі фотаздымак больш за 60 гадоў зберагаўся ў яго дачкі Шуры. Незадоўга перад смерцю цётка Шура перадала мне сямейную рэліквію. Здымак выдатна захаваўся. Матавая картка наклеена на цвёрдым кардоне. Пад ёй подпіс майстра і адрас: Нью-Йорк, 85 авеню. 1911 год. Дзед сфатаграфаваўся разам са сваім сябрам-эмігрантам з суседняй вёскі. Цяпер той партрэт стаіць на маім рабочым стале. Глыбокія Язэпавы вочы пазіраюць спакойна і пранікнёна. Бацькі кажуць, што я падобны на дзеда Язэпа. Мне прыемна гэта чуць, бо дзед заўсёды выклікаў у мяне вялікую сімпатыю.

Менавіта з яго пачалося маё зацікаўленне Амерыкай. Гэта краіна з маленства вабіла мяне сваёй таямнічасцю і недасягальнасцю. Вобраз, які паўставаў з дзедавых успамінаў, не размывала нават савецкая прапаганда — я верыў дзеду. Амерыка была маёй казкай, — прыгожай і добрай, як і ўсё ў дзяцінстве. Дзіцячае зацікаўленне перарасло ў сталае захапленне. Я пачаў збіраць выразкі з газет і часопісаў пра ЗША. Памятаю, якое вялікае ўражанне зрабілі на мяне нататкі «Якая ты, Амерыка?», надрукаваныя ў беластоцкай «Ніве» ў 1988 годзе. Іх аўтар — беларускі паэт, загадчык кафедры Варшаўскага універсітэта Алесь Барскі, можа, першы ў беларускім друку напісаў пра амерыканскіх беларусаў праўдзіва і спакойна. Тады яны былі як глыток свежага паветра ў атмасферы затхласці, зашоранасці, нацыянальнага нігілізму. Да прыкладу, вось як пісаў ён пра вядомых грамадскіх дзеячаў Кастуся Калошу і Сяргея Карніловіча: «Здаецца мне, што яны ў беларускім руху ў Кліўлендзе адыгрываюць такую ролю, як апосталы Пётр і Павел у раннім хрысціянстве або, скажам, святыя Барыс і Глеб на Русі. Калі б гэта залежала ад мяне, я б іх кананізаваў. Колькі ахвярнасці і альтруізму ў гэтых постацях!» З такой жа эмацыянальнасцю і захапленнем Алесь Барскі пісаў пра Антона Шукелойця, Вітаўта Кіпеля, Антона Адамовіча, спадарства Бартулёў, Пятра Кажуру. Ён дэталёва і падрабязна абмалёўваў беларускае жыццё ў Нью-Брансвіку, Кліўлендзе, даў агляд беларускіх друкаў, якія выходзяць там, прадставіў найбольш вядомых паэтаў і пісьменнікаў. Нататкі былі для мяне сапраўдным адкрыццём беларускай Амерыкі. Пісьменнік яшчэ не мог казаць на поўны голас усю праўду пра сваіх суродзічаў, але, дзякуючы А. Барскаму, беларускія чытачы ўпершыню атрымалі інфармацыю, якая кардынальна розрылася ад той, што тыражавалася выданнямі тыпу «Голас Радзімы».

Пасля рэпартажаў А. Барскага я пайшоў у Дзяржаўную бібліятэку Беларусі і паспрабаваў знайсці некаторыя эміграцыйныя выданні. Іх там не аказалася. Знаёмая журналістка параіла звярнуцца ў Акадэмічную бібліятэку. Прыйшоў туды. Папрасіў у бібліятэкаркі што-небудзь са свежай эміграцыйнай перыёдыкі, і яна выняла з металічнай шафы кастрычніцкі 1988 года нумар газеты «Беларус» з Нью-Йорка. Рэдка якое выданне я раскрываў з такім хваляваннем. Хіба што ляхавіцкую раёнку, дзе друкаваліся мае першыя вершы. Я разгарнуў «Беларуса» і прабегся вачыма па загалоўках, стаў чытаць першае, што трапіла пад руку: «Беларусам быць, як і чалавекам, трэба несціхана, штокрок і штодзень. Як немагчымы свет па-за чалавекам, так немагчымая Беларусь без беларусаў. Наша бацькаўшчына — не адно зямля паміж Дняпром і Дзвіною, Нёманам і Прыпяццю. Беларусь усюды там, дзе жыве беларус. Бо мы частка чалавецтва: а Беларусь — адна з ягоных тысячных айчын...» Ад гэтых слоў у мяне сцяло дыханне. Так мог напісаць толькі вялікі патрыёт Беларусі, яе адданы і ўлюбёны сын. Гляджу на подпіс: Сакрат Яновіч. Гэта было з яго прамовы на 18-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. «Першай справай пасля абароны жыцця як такога павінна быць абарона айчыны. Жывому нічога не можа быць важнейшым за жывую Беларусь, за яе душу. На гэтым свет трымаецца, каб не было ў ім сірочых народаў...» Як сугучны былі мае адчуванні гэтым простым і мудрым ісцінам Сакрата Яновіча!

На старонках «Беларуса» я знайшоў звесткі пра Наталлю Арсенневу, Масея Сяднёва, Яна Пятроўскага, Міколу Прускага, іншых славутых беларусаў Амерыкі. У шафах акадэмічнай бібліятэкі пыліўся даволі прыстойны збор эміграцыйных выданняў. Акрамя перыёдыкі, там знайшлі прытулак творы беларускіх пісьменнікаў, забароненых у БССР. Многія кнігі яшчэ ніхто не браў у рукі. Некаторыя былі з аўтарскімі прысвячэннямі Міколу Ермаловічу, Георгію Штыхаву, Янку Брылю, іншым беларускім пісьменнікам. Аказалася, гэтыя кнігі мытня канфіскавала з бандэроляў і пасылак, як забароненыя, і перадала ў бібліятэку. Тыя, каму кнігі прызначаліся, мабыць, па сёння не ведаюць пра гэта.

У той час з'явіліся першыя публікацыі пра беларускую эміграцыю і ў беларускім савецкім друку. Пры ўсёй сваёй цікавасці і навізне яны не былі пазбаўлены ідэалагічных штампаў і ярлыкоў. У адрозненне ад расейскай і ўкраінскай перыёдыкі, у беларускай не было ніводнага выступлення саміх эмігрантаў. У мяне нарадзілася ідэя правесці завочнае інтэрв'ю з нашымі суайчыннікамі. Яно давала магчымасць пачуць жывыя галасы суродзічаў, параскіданых па свеце, даведацца праўду з першых вуснаў. Мне ўдалося адшукаць амаль усіх пісьменнікаў, якія жылі і працавалі на чужыне. Я падрыхтаваў анкету і разаслаў яе сваім адрасатам, папрасіўшы іх расказаць пра свой творчы лёс, пра жыццё-быццё на эміграцыі.

Першым адгукнуўся Масей Сяднёў са Злучаных Штатаў, якога ў Беларусі мала хто ведаў. Спадар Сяднёў даслаў вельмі цікавы ліст з адказамі, а ўдагонку — яшчэ адзін з дапаўненнямі. У нас усталявалася трывалае ліставанне, і я вельмі ўдзячны гэтаму выдатнаму пісьменніку за дапамогу і падтрымку маёй працы.

Пазней свае адказы даслалі Ян Пятроўскі, Алесь Змагар, Мікола Прускі, Мікола Панькоў, Янка Золак, Міхась Кавыль, Іна Рытар, Наталля Арсеннева — з ЗША, Кастусь Акула, Сяргей Хмара — з Канады, Юры Жывіца — з Нямеччыны, Зінаіда Кадняк /удава Алеся Салаўя/ — з Аўстраліі.

Прыйшлі лісты з Англіі, Ватыкана, Польшчы, Аўстрыі, Бельгіі... І ўсе да адзінага — на цудоўнай беларускай мове. Неаднойчы, разрываючы чарговы канверт, я прыгадваў выдатную прамову Сакрата Яновіча, прачытаную ў «Беларусе»: «Беларусы разышліся па белым свеце, робячыся як бы пасланцамі свайго народа ў чужой старане, рэпрэзентантамі яго інтарэсаў. Спрыяючы далучэнню Бацькаўшчыны да агульначалавечай радзіны, учыняць Беларусь прысутнаю сярод іншых, прыдбаць ёй сяброў, захаваць ад крыўды...»

За час трохгадовага ліставання я адкрыў для сябе новую краіну — Замежную Беларусь. Краіну без візаў і межаў, краіну любові і смутку. Над ёй лунаў беларускі дух, які дзесяцігоддзямі вынішчаўся на бацькаўшчыне. Яго збераглі, захавалі, яму маліліся беларускія эмігранты.

Найбольш актыўна дзеялі беларускія згуртаванні ў Амерыцы. Мо таму, што яны найбольш шматлікія. Адно з іх — беларуска-амерыканскі грамадскі цэнтр — у чэрвені 1992 года запрасіў да сябе групу беларускіх артыстаў: Іну Афанасьеву, Мікалая Скорыкава, Дзмітрыя Яўтуховіча і аўтара гэтых радкоў. Мы выступалі з канцэртамі ў беларускіх асяродках, Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Наша знаходжанне ў Амерыцы якраз супала з 20-ай сустрэчай беларусаў. І мы прынялі ўдзел у гэтай цікавай акадэміі, якая праходзіла недалёка ад Нью-Йорка — у Нью-Брансвіку. Свае прывітанні і пажаданні плённай працы амерыканскім беларусам перадалі Прэзідэнт

*(Працяг на стар. 14-15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## НЕ ПРОСТА ВЫКАНАЎЦА...



**Аматары фартэпіяннай музыкі, добра знаёмыя з выканаўчым майстэрствам піяністкі Ірыны Шумілінай /на здымку/. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь выступае з сольнымі канцэртамі не толькі ў Мінску. Геаграфія яе гастрольных паездак шырокая. Яна іграе з сімфанічнымі і камернымі аркестрамі, з вядомымі дырыжорамі Ф. Мансуравым /Масква/, В. Георгіевым /Санкт-Пецярбург/, Н. Ярві /Талін/, Кацуа Ямада /Японія/, Ю. Дамаркасам /Вільнюс/. Ігру беларускай піяністкі слухалі ў Германіі, Італіі, Індыі.**

**У рэпертуары Ірыны Шумілінай, акрамя твораў рускіх і замежных класікаў, вялікае месца займаюць сачыненні беларускіх кампазітараў розных пакаленняў: М. Аладава, Я. Глебава, Г. Вагнера, І. Лучанка, В. Будніка і іншых. Часта піяністка з'яўляецца першым выканаўцам многіх твораў гэтых аўтараў.**

**Захапленне фартэпіяннай імправізацыяй абудзіла ў І. Шумілінай цікавасць да сачынення музыкі. Ёю напісаны шэраг песень, інструментальных п'ес, фартэпіянных транскрыпцый.**

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

## ДЭБЮТ МАЛАДЫХ



**Пленэр, які прайшоў у Гомельскай вобласці, у месцах, асвечаных гісторыяй і прыроднай прыгажосцю, натхніў да працы разам з вопытнымі майстрамі і пачынаючых аўтараў. Іх работы былі паказаны на выставе ў Гомелі, пазней гэта экспазіцыя адкрыецца ў Тураве.**



*На здымках: Іван ПАПОЎ, выпускнік Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава. Адна з работ І. ПАПОВА «Восень манарха».*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

# ТАМ Я НЕ АДЧУВАЎ СЯБЕ ЭМІГРАНТАМ...

*(Пачатак на стар. 13)*

ЗША Джордж Буш і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Удзельнікі сустрэчы радзіліся, што яны змогуць зрабіць, каб дапамагчы сваёй бацькаўшчыне на яе шляху да незалежнасці. На сустрэчы панавала атмасфера шчырасці, узаемаразумення і заклапочанасці за лёс радзімы. Цікавым і ўрачыстым быў канцэрт, які падрыхтавалі вядомыя на эміграцыі беларускія артысты, а таксама госці з Менска. Я з хваляваннем чакаў свайго выхаду: пасля Мікалая Скорыкава, які выконваў песню «Даставай, Язэп, гармонік!», прысвечаную дзеду Язэпу. Я вельмі хацеў, каб яна прагучала ў Амерыцы. Песню сустрэлі бурнымі воплескамі. Я дастаў з пакета дзедаў партрэт, які прывёз з сабой. Здалося, дзедавы вочы пацяплелі і ранейшая туга непрыкметна растала ў ледзь бачнай усмешцы вуснаў. Напэўна, у той момант нашы душы сустрэліся. Я выканаў волю дзеда: праз 80 гадоў ён вярнуўся ў Амерыку. Хоць бы ў песні свайго ўнука. Песню «Даставай, Язэп, гармонік!» М. Скорыкаў выконваў па ўсёй Амерыцы. І ўсюды яе сустракалі на «ўра».

Пасля канцэртаў да нас падыходзілі дзесяткі людзей, каб павітацца, сказаць дзякуй, пазнаёміцца, запрасіць у госці, папрасіць аўтограф. Было прыемна, што беларускае слова, беларуская песня хвалююць амерыканцаў. Яны былі ў захапленні. Такія сустрэчы нікога не пакідалі раўнадушнымі. Спявачка Іна Афанасьева гаварыла мне: «Амерыка дапамагла мне адчуць сябе беларускай!» І гэта не перабольшванне. У Амерыцы Іна з Міколам Скорыкавым упершыню ў сваім жыцці так доўга размаўлялі па-беларуску.

Нашы гастролі пралядзелі імгненна, мае сябры вярнуліся дамоў, а я застаўся, каб напісаць кнігу пра нашых землякоў, якія жывуць у Амерыцы. Была мара праехаць праз усю краіну і з поўначы — ад Наталлі Арсенневай да Поўдня Фларыды — да Яна Пятроўскага. За сто дзён вандроўкі я сустрэўся не з адным дзесяткам амерыканскіх беларусаў, запісаў на магнітную стужку больш за 150 гадзін іх успамінаў і споведзяў, адзняў сотні фотакадраў. Маімі суразмоўцамі былі палітычныя і эканамічныя эмігранты, невяртанцы, уцекачы, дысідэнты, грамадскія дзеячы, пісьменнікі, вучоныя. Сярод іх і тыя, хто ў свой час знаходзіўся па другі /ад савецкага/ бок ідэалагічнага і нават ваеннага франту. Адных з іх вымусілі, другія самі вымушаны былі пакінуць бацькаўшчыну, каб захаваць жыццё.

Беларускія амерыканцы не згубіліся ў свеце, захавалі сваю адметнасць і самавітасць, самаахвярна і цярпліва пранеслі па жыцці сваю беларускасць. Амерыка стала ім радзімай, але сваёй бацькаўшчынай яны па-ранейшаму лічаць Беларусь. Пра гэтых людзей у нас сказана і напісана шмат. Іх агулам называлі здраднікамі і нацыяналістамі, абвінавачвалі ў магчымых і немагчымых грахах. Але іх ніколі не выслухалі, не паспрабавалі разабрацца ў прычынах добраахвотнага ці вымушанага выгнання. Столькі гадоў Беларусь адмахвалася ад іх. Маўляў, не былі б вінаватымі — не ўцякалі б, вярнуліся б назад. З гэтай прычыны беларуская эміграцыя амаль сорак гадоў аказалася адрэзанай ад бацькаўшчыны не толькі акіянам, але і жалезнай заслонай, сцянай варожасці і недаверу.

Дзякуй Богу, той час, мабыць, мінуў. Сёння ўсім відавочна, што не ўсё так проста і адназначна, як пераконвалі нас дагэтуль. Бо ў кожнага эмігранта свае прычыны, якія калісьці вымусілі яго пакінуць родную зямлю. І якія б яны ні былі, тыя прычыны, у іх аснове заўжды — вялікая чалавечая трагедыя. У Амерыцы я не сустрэў ніводнага беларуса, якога б абмінулі беды і няшчасці бацькаўшчыны. Я сустракаўся з беларусамі, якія працавалі ў беларускай адміністрацыі, нямецкіх гэбіткамісарыятах, у паліцыі і вайсковых падраздзяленнях, якія змагаліся супраць партызанаў. Я імкнуўся зразумець, што вымушала іх пайсці на такі крок, што рухала іх учынкамі і думкамі. Я не збіраюся нікога абараняць ці абвіняць. І ў той жа час я не суддзя гэтым людзям і не мая справа — выносіць прысуд. Мне бясспрэчна адно, што іх аповяды і споведзі раскрываюць новую праўду пра вайну, яе невядомыя староні. Гэта погляд з іншага боку. Многія мае субяседнікі з жахам і болем канстатавалі факт, што ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі распачалася сапраўдная грамадзянская вайна, калі брат ішоў на брата. Паваенныя эмігранты адчулі ўвесь жах той вайны, як кажуць, на ўласнай скуры. Таму варта выслухаць іх хаця б дзеля таго, каб аб'ектыўна ўявіць рэальны стан рэчаў.

Амерыканскія беларусы — людзі шчырыя, памяркоўныя, гасцінныя. Яны любяць бяседу і ўмеюць распавядаць. Аднак не заўсёды і не ўсе мае суразмоўцы былі адкрытымі. Некаторыя асцерагаліся, каб, крый Божа, неасцярожным словам не нашкодзіць родным, якія засталіся ў Беларусі. Былі і такія, хто па 2-3 разы адкладваў сустрэчу, а пасля адмаўляўся ад размовы: «Яшчэ не час. У вас там так усё няпэўна...» Некалькі чалавек прасілі не называць іх імёны і прозвішчы... Не буду аб'ектыўным, калі не скажу, што не сустракаў людзей, злосных на Беларусь. Сустракаў двух ці трох пажылых людзей, якія ў пачатку размовы абрушвалі ўсю сваю злосць на мяне. Але, спахапіўшыся, цішэлі, змаўкалі і прасілі прабачэння...

Большасць свядомай беларускай эміграцыі — людзі даволі сталага веку. Многім з іх 70—90 гадоў. Кожны год на беларускіх могілках з'яўляюцца новыя і новыя магілы. Толькі ў апошні час не стала М. Міцкевіча, П. Кажура, У. Бычкоўскага... Літаральна на некалькі гадзін я не паспеў да Ігара Шчорса. Мы дамовіліся сустрэцца ў абед, а ў 10 гадзін раніцы яго сэрца спынілася. Шкадую, што не паспеў запісаць яго цікавейшыя аповяды пра саюз студэнцкай моладзі ў Вільні, пра Я. Коласа, К. Езавітава, якога ў 1945 годзе арыштавалі яго старэйшы брат — доктар Мікалай Шчорс. Са смуткам і болем успрыняў я вестку аб раптоўнай смерці цудоўнага чалавека Сяргея Карніловіча.

Не з усімі славутымі землякамі ўдалося спаткацца асабіста. Шмат гутарыў па тэлефоне, як жартавала Наталля Арсеннева, — вуха ў вуха, — з доктарам Янам Пятроўскім, Янкам Юхнаўцом, Масеем Сяднёвым, жонкай Уладзіміра Глыбіннага — Ірынай Сядура...

На вялікі жаль, не даехаў ці не знайшоў Алеся Змагара, Анатоля Бярозку... Затое пашанцавала ўзяць першае інтэрв'ю ў Старшыні Рады БНР доктара Язэпа Сажыча, кампазітара Пятра Нядзвецкага, беларускага дысідэнта Янкі Ханенкі, грамадскага дзеяча Кастуся Мерляка...

Вандруючы па Амерыцы, размаўляючы з эмігрантамі, працуючы ў беларускіх архівах, я штораз вяртаўся да адной і той жа высновы: самае вялікае і дарагое, што мы, беларусы, маем, — гэта Беларусь, наша радзіма. Дзе б мы ні жылі, — мы яе дзеці. Яна адна можа нас пасябраваць, з'яднаць, парадніць, напоўніць сэнсам наша існаванне на гэтым свеце. Ад нас, беларусаў, патрабуецца толькі адно: любіць сваю маці-радзіму. Каб быць людзьмі, каб заставацца Беларусамі.

... Сто дзён, праведзеных у Злучаных Штатах, вельмі кароткі тэрмін, каб зразумець гэтую вялікую краіну. Але дастатковы, каб палюбіць яе. Я адлятаў з Нью-Йорка ў апошні дзень восені. На душы, як і ў прыродзе, было сумна і хмура. Развітвацца заўсёды цяжка.

За некалькі гадзін да рэйса прыехалі госці — Вітаўт Кіпель і Антон Шукелойць, каб перадаць лісты і прывітанні сваім сябрам на бацькаўшчыне, пажадаць шчаслівай дарогі.

— Мы толькі на хвілінку, — папярэдзіў доктар Кіпель.

Але хвілінка зацягнулася, і ў душы я быў рады правесці апошнія гадзіны на амерыканскай зямлі ў кампаніі гэтых знакамітых беларусаў. Слухаў іх жывую, непакалечаную ніякімі рэформамі гаворку і ў чарговы раз пачынаў сумнявацца, што я ў Амерыцы. Усе сто дзён я не пераставаў здзіўляцца і захапляцца, што сярод дзесяткаў народаў, якія жывуць тут, беларусы пачуваюць сябе вольна і натуральна; што сярод дзесяткаў моў, якімі паслугоўваюцца на гэтым стракатым кантыненце, беларуская мова гучыць напеўна і нязмушана. Амерыканскія беларусы ніколі не адракаліся ад сваёй бацькаўшчыны. Усведамленне сябе беларусамі надавала іх жыццю гармонію і сэнс. Магчыма, у гэтым усведамленні і ўвесь сакрэт фенамена беларускага замежжа...

З такімі думкамі я пакідаў Амерыку. Тут я па-новаму адчуў і зразумеў вечную настальгію дзеда Язэпа. Тут я шукаў Беларусь і знайшоў яе.

Безумоўна, сярод эмігрантаў ёсць людзі розныя. У жыцці яны належаць да розных партый, асяродкаў, цэркваў. Сябруюць, кантактуюць, варагуюць. Але ўсе яны — беларусы. І гэтым цікавыя для нас. Іх духоўны вопыт выжывання і нязломнасці мне падаўся каштоўным для ўсёй нашай нацыі. Асабліва цяпер, калі Беларусь стала незалежнай і суверэннай.

Успамінаючы амерыканскія сустрэчы, я шчыра шкадую, што размінуўся з Галінай Русак, Юркам Станкевічам, Ірынай Рагалевіч, Міхаілам Шчорсам, Анатолем Лук'янычам... Гутаркі з імі — яшчэ наперадзе. Гэтаксама, як і з Галінай Мінкевіч і Чэславам Найдзюком. Спадарыня Галіна — дачка былога Прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Я прасіў яе напісаць успаміны пра бацьку. «На жаль, я нічога не магу дадаць да біяграфіі майго бацькі да таго, што ўжо было надрукавана ў беларускіх, а таксама ангельскіх выданнях...», — напісала мне спадарыня Мінкевіч. Шкада. Успаміны дачкі дапоўнілі б наша ўяўленне аб постаці Р. Астроўскага, яго ролі ў гісторыі Беларусі.

Чэслаў Найдзюк — родны брат вядомага гісторыка Язэпа Найдзюка, які ў акупаваным немцамі Менску выдаў кнігу «Беларусь ўчора і сёння». «Успаміны пра брата напісаць мне цяжка, бо не маю спрыяльных варункаў», — адказаў мне спадар Чэслаў. Замест успамінаў ён даслаў матэрыялы пра жыццё і лёс Язэпа. Сярод іх — і невялікая зацемка Сакрата Яновіча «Не першыя і не апошнія», якая праліває святло на пасляваенны лёс Я. Найдзюка. Ён жыў у Польшчы і памёр у горадзе Інаўроцлаве 15 лютага 1984 як Язэп Александровіч. «Як сказала б мая бабуля, — піша С. Яновіч, — за сваё цяжкое жыццё меў затое лёгкую смерць. Сеў за стол дома нешта прагледзець і раптам перастала біць яго сэрца. Можа быць, занадта перажыў нядаўняе пахаванне ў Торуні Мар'яна Пецюкевіча, беларускага адраджэнца і катаржаніна на Варкуце... Гэтак жа пераехаўшага ў Польшчу пасля славутага Дваццатага з'езда. Горка думаць, што не знайшлося ім месца на Бацькаўшчыне. Тыя натоўпы палякаў, якія праводзілі іх на вечны шлях, з'явіліся жывым сведчаннем таго, што адышлі ад нас індывідуальнасці рэдкія па сваёй таленавітасці. Пакінулі свой выразны след у здабытках братняга народа; не першыя і не апошнія гэтак з беларусаў».

Прыйдзе час, калі імя Язэпа Найдзюка, як і імёны дзесяткаў іншых беларусаў, вернецца на Беларусь і будзе сімвалам служэння бацькаўшчыне і беларускай ідэі.

Летам 1993 года я зноў спаткаўся з многімі амерыканскімі беларусамі. Яны прыязджалі ў Менск на Першы з'езд беларусаў свету. Я спаткаў іх на лётнішчы і на ўласныя вочы бачыў, з якім хваляваннем ступалі яны на родную зямлю. Некаторыя з іх прыехалі ў Беларусь праз 40 і болей гадоў. Два тыдні амерыканскія беларусы вандравалі па славутых мясцінах сваёй былой бацькаўшчыны і ўсюды шукалі рысы былой радзімы. Яны збераглі Беларусь у сабе. А цяпер хацелі ўбачыць яе наяве. І шчыра радаваліся, калі гэта ўдавалася. Вялікая радасць спаткання нярэдка азмрочвалася горычу расчаравання і неразумення. «Чаму так мала беларускага ў Беларусі?» — у адчаі пыталі мяне амерыканскія суродзічы. Яны шукалі Беларусь у Беларусі і не заўсёды знаходзілі яе. Гэта выклікала ў іх здзіўленне і смутак.

Пасля вяртання ў Амерыку адзін з дэлегатаў з'езда Міхась Сенька пісаў мне: «Паездка на Беларусь, спатканне з роднымі і новымі знаёмымі ніяк не выходзіць яшчэ з галавы. Чамусьці маё роднае мястэчка Новы Свержань стала не тым, якім я яго пакінуў у сваім уяўленні. Усё зрабілася мініяцюрным, нават, здаецца, і вуліцы парабіліся вузенькімі, а комін у тартаку не высокім, а як на капліцы. Найбольш сумнае ўражанне на мяне зрабіла пагібель ракі Нёман. Дзе былі бухты і віры, там цяпер па калена вады і то загаджанай. У маю памяць нават старыя нямнішчы /так называлі былыя рэчышчы ракі Нёман/ былі паўнаводнымі і рыбнымі.

Пытаўся падчас зваротнае дарогі ў Пятра Нядзвецкага і ў другіх, хто наведаў родныя мясціны, як яны іх успрынялі? Усе гавораць, што ўсё выглядае маленькім і нават тыя самыя хаты, у якіх яны калісь жылі...»

Прачытаў Міхасёў ліст і стала сумна. Ад горкай праўды, ад безвыходнай рэчаіснасці. Нейкі дзіўны парадокс і толькі: чаму людзей з Беларусі Амерыка ўражвае і здзіўляе прысутнасцю ў ёй беларускага духу, беларускага жыцця? Чаму амерыканскіх беларусаў палохае сваёй антыбеларускасцю рэальная Беларусь? Няўжо, каб быць беларусам, трэба жыць у Нью-Йорку альбо ў Фларыдзе? Прынамсі, там я не адчуваў сябе эмігрантам...

